# ВІНЦЭСЬ КАРАТЫНСКІ

## ТВОРЫ



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1981

Бел 2
К 21

Укладанне, прадмова і каментарыі
УЛАДЗІМІРА МАРХЕЛЯ

Рэцэнзент
АДАМ МАЛЬДЗІС

*Мастак*
*М. Купава*

К $\frac{70403-108}{М 302(05)-81}$ 116—81 4702120200

## ЧЫМ ХАТА БАГАТА...

Вінцэсь Каратынскі пачынаў тады, калі беларускае слова ў мастацкай літаратуры яшчэ не дабрала такой моцы, каб супернічаць з развітай у Беларусі іншамоўнай пісьмовай традыцыяй. Выціснутае з кніжнага ўжытку стагоддзямі паланізацыі народа, афіцыйна пазбаўленае царызмам праваў грамадзянства, яно суіснавала з польскім і рускім словам нібы ў надзеі на іх падтрымку ці абарону. Ні адзін твор, напісаны ў той час па-беларуску, не выйшаў асобнай кнігай. І таму, што не было сваёй, беларускамоўнай друкаванай трыбуны, на якую патрабаваліся значныя выдаткі, а галоўнае — дазвол незацікаўленага ў гэтым урада, і таму, што цэнзура, старанная ахоўніца спакою ўрада, у сярэдзіне мінулага стагоддзя параўнальна паблажліва ставілася нейкі час да публікацыі пад адным і вокладкамі з іншамоўнымі мастацкімі ці этнаграфічнымі матэрыяламі твораў на беларускай «гаворцы», бо ў гэтым нібыта яшчэ не выяўлялася іх самастойнасць. Свае вершаваныя аповесці на беларускай мове В. Дунін-Марцінкевіч інакш і не выдаваў, як пад «прыкрыццём» уласнай польскамоўнай творчасці. Чатыры ягоныя зборнікі, выдадзеныя адзін за адным у Мінску ў 1855—1857 гадах, так сказаць, змешаныя, двухмоўныя.

З польскіх і беларускіх вершаў наважваўся скласці сваю першую паэтычную кнігу і Вінцэсь Каратынскі. Аднак Уладзіслаў Сыракомля, пазнаёміўшыся з вершамі, выбранымі аўтарам у зборнік «Чым хата багата, тым рада», прапанаваў выдаць беларускую паэзію асобна, у сумеснай кнізе: сярод ягоных твораў таксама набіралася «трошкі беларускіх». Задуму, выспеленую клопатам аб незалежнасці існавання беларускага мастацкага слова, ажыццявіць не ўдалося. Ці не таму, што цэнзуру насцярожвалі прыкметы яго самастойнасці?

Пра гэта архівы маўчаць. Маўчаць таксама і тыя беларускія творы Каратынскага, якія разам з Сыракомлевымі вершамі павінны былі скласці першую ў XIX стагоддзі выключна беларускамоўную кнігу паэзіі. Маўчаць выказаныя ўслых па-беларуску — і не пачутыя сучаснікамі,— і не данесеныя наступным пакаленням думкі аднаго з вельмі нямногіх сялянскіх сыноў, які ў згубна абразлівы і жорсткі для простага чалавека час змог узняцца да інтэлектуальных вышыняў...

Вінцэсь Каратынскі нарадзіўся 15 жніўня 1831 года ў вёсцы Селішча Наваградскага павета. Ён быў першынцам у маладой сям'і Аляксандра Каратынскага, раней — Каратая, які незадоўга перад жаніцьбаю з селішчанскай шляхцянкай-аднадворкай Юзафатай з Далідовічаў нейкім чынам здабыў вольную і перастаў быць прыгонным мясцовага памешчыка. Ды не зведаў як належыць Аляксандр Каратынскі хлеб «вольнага земляробства», не паставіў сам сваіх дзяцей на ногі — утапіўся ў Нёмане.

У школу Вінцэсь не хадзіў. Яго настаўнікам быў арганіст, якога маці наняла за даступную плату. Ён навучыў хлопчыка чытаць і пісаць па-польску і па-руску, даў асновы арыфметыкі. Астатняе дабіралася самавукам. Потым, калі падраслі малодшыя браты — Міхал і Ян, Вінцэсь ужо сам вучыў іх, каб ашчадзіць няспорную ў хаце капейку. За гэтым рэпетытарствам пайшлі іншыя: у суседзяў, у шляхечых дварах на Наваградчыне. За Вінцэсем паступова замацоўвалася ў ваколіцы слава юнака вялікай вучонасці. А веды здабываліся з-за сямі замкоў, па пазычаных кнігах. Прагу да святла Вінцэсь спатольваў напачатку перапісваннем кніг. Цалкам ён перапісаў «Гісторыю Польшчы» І. Лялевеля і «Дэмана» М. Лермантава. Яны заставаліся ў Каратынскага і тады, калі ў яго сабралася неблагая ўласная бібліятэчка друкаваных кніг.

Апошнім прыпынкам у вандроўках хатняга настаўніка Вінцэся Каратынскага быў дом Шастакоўскіх у вёсцы Сенная, размешчанай уздоўж левага прытока Нёмана Валоўкі. Тут малады настаўнік, можна сказаць, выпадкова пазнаёміўся з такім жа, як і сам, вандроўнікам, колішнім уніяцкім бацюш-

кам Давідовічам, які, не маючы свайго прыходу, ездзіў па маёнтках і перакладаў старыя шляхецкія дакументы на рускую мову. Вінцэсь адкрыўся яму, што складае вершы,— і Давідовіч, які асабіста ведаў Уладзіслава Сыракомлю, узяў на сябе ініцыятыву пазнаёміць пачынаючага літаратара з прызнаным ужо паэтам.

Летам 1850 года Вінцэсь Каратынскі адважыўся пераступіць парог у неакрэсленую будучыню, пакліканы краёвым літаратурным жыццём, якое рэхам даносілася ў ціхі прынёманскі фальварак Залуча, арандаваны Сыракомлем: ён пагадзіўся быць памочнікам-сакратаром паэта. Каратынскі перапісваў начыста гатовыя творы свайго апекуна, здаралася, браўся адказваць на лісты, якіх дасылалася Сыракомлю ўсё болей і болей, бо імкліва расла ягоная папулярнасць.

Непасрэднае далучэнне да такой з'явы, як творчасць таленавітага сучасніка, асвятляла самаадукацыю сялянскага сына мэтанакіраванасцю. Быў ён тытанічна працаздольны і меў выключную памяць. Праўда, у Залучы таксама адчуваўся недахоп літаратуры. Сыракомлеў кнігазбор пад той час не дасягаў і 400 экземпляраў. Тым не менш тут адкрылася мажлівасць часцей знаёміцца з мастацкімі навінкамі, змешчанымі ў перыядычных выданнях, віленскіх, пецярбургскіх, варшаўскіх, шырэй уведаць творы паэтаў-лаціністаў і вывучыць старыя хронікі, якія Сыракомля нястомна перакладаў тады на польскую мову. Яго арыгінальная паэзія (гутаркі, заснаваныя на мясцовых паданнях, і вершы, сугучныя тутэйшым песням і светаўспрыманню сялян, прасякнутыя празрыста балючай любасцю да радзімы і адмаўленнем прыгонніцтва), захапленне апрацоўкай гісторыка-краязнаўчых матэрыялаў, звязаных з акаляючымі мясцінамі, надзвычай ураджвалі здольнага юнака, як і ўсю дэмакратычна настроеную моладзь Беларусі і Літвы, абуджалі і выкрышталізоўвалі яго асабістыя творчыя інтарэсы і задумы. Двухгадовы залучанскі перыяд жыцця быў для Вінцэся Каратынскага сыракомлеўскім універсітэтам.

Разам з Сыракомлем Каратынскі пераехаў у канцы 1852 года з Залуча ў Вільню, а вясной наступнага года — у

падвіленскі фальварак Барэйкаўшчыну, узяты ў арэнду «вясковым лірнікам» (так пад той час пачалі называць Сыракомлю чытачы). Памочнікам свайго літаратурнага настаўніка Каратынскі заставаўся і тады, калі, ажаніўшыся, жыў сваім домам і меў шмат журналісцкіх і грамадска-культурных абавязкаў. Ён супрацоўнічаў у «Тэцы Віленьскей», быў членам рэдкалегіі газеты «Кур'ер Віленьскі» і карэспандэнтам «Газэты Варшавскей», уваходзіў у склад Віленскай археалагічнай камісіі, з'яўляўся членам Статыстычнага камітэта ў Вільні, рыхтаваў матэрыялы ў «Слоўнік польскай мовы» і рэдагаваў яго.

Паэтычны дэбют Вінцэся Каратынскага — публікацыя верша «Над калыскай» у аўтарытэтным польскім часопісе «Бібліотэка Варшавска» (1856, т. 2) — суправаджаўся апякунскім выступленнем Сыракомлі ў «Газэце Варшавскей» (1856, № 149). Дбаючы пра чытацкае суперажыванне і пра добразычлівае стаўленне крытыкі да маладога паэта, «вясковы лірнік» пісаў: «У майскім нумары «Бібліотэкі Варшавскей» грамадскасць сустракае пад хвалюючым вершам «Над калыскай» невядомае ёй дагэтуль імя Вінцэнта Каратынскага. Мы ведаем многа твораў гэтага аўтара, з якіх малы зборнік «Чым хата багата, тым рада» ідзе ў гэтую хвілю ў друк. Аўтар абуджае ў нас занадта моцнае спачуванне, каб мы віталі новую з'яву дачаснымі пахваламі. Цярністую дарогу пісьменніка ён выбраў сам — сам сабе няхай будзе абавязаны сваім поспехам,— а ці можам яго прадказваць, мяркуйце самі па гэтаму малому ўрыўку з прадмовы «Пастрыжыны» да зборніка ягонай паэзіі:

...Святочную праўлю бяседу, равеснік,
За чынай святой, за абрадам.
Вось хлеб мой з мякінай, нясвежыя песні:
Чым хата багата, тым рада.
Літвін я — ах, людцы, вялікі мне сорам
За свой перад вамі дабытак:
Прысмакаў не мае сялянскі мой хорам,
Ласункам не ўсцешыць спажытак.

Хто так спявае, той не ўбогі ў хаце сваёй душы — ён складзе вам калі-небудзь пачастунак з пажыўных калачоў, з птушынага малака і мёду; толькі вы павінны будзеце часам прабачыць яму перцавую горыч, якая незаўважна з цяжкай атмасферы жыцця трапіла ў ежу, прыгатаваную братняй рукою».

Горыч жыццёвай атмасферы... Ці не таму, каб яе, гэтай горычы, у кнізе было меней, па-за зборнікам Каратынскага, які з'явіўся на паліцах кнігарань у сярэдзіне 1857 года, засталося шмат вершаваных твораў — і ў рукапісу, і надрукаваных у перыёдыцы? Верш «Пасля сватання» — гэта маналог сялянскага хлопца, які, вяртаючыся дадому, нанава перажывае вельмі істотны ў сваім лёсе ўрачысты момант. Усё як быццам ідзе ладам: ён пасватаўся да каханай дзяўчыны, і яна, у адпаведнасці са звычаем, падаравала пляшку з жытам — адзнаку бацькоўскага благаславення і яе згоды на шлюб. Але як ні парываюцца хлопцавы думкі ў свет, здавалася б, блізкага шчасця, іх перапыняе прадыктаванае рэчаіснасцю пытанне: «Ох, ці толькі пан дазволіць?» Няпэўнасць прымушае хлопца мроіць аб заступніках — каралю і богу, але і ад гэтага не лягчэй, бо ізноў наплывае пытанне: «Ох, ці толькі пан дазволіць?» Ён — і кароль і бог. Ад яго залежыць, ці быць каханым разам. І не толькі гэта. Ужо ў другім вершы Каратынскага персаніфікаваная бяроза, якая і ўзрасла шчаслівa, і спазнала радасць кахання, і ўсвядоміла, што гэта і ёсць жыццё, нечакана выкажа:

Совы, дзеці цёмнай ночы,
Тут, у нас, не маюць спрату...
Чалавек мяне азмрочыў:
Ломіць розгі, б'е ён брата!
*(«Бярозка»)*

**У творах, уключаных у кнігу «Чым хата багата, тым рада», «перцавая горыч» прыгонніцкай рэчаіснасці выяўляецца не так кантрастна, як у вершах «Бярозка» і «Пасля сватання», але «прысмак» яе на старонках зборніка адчувальны, яна**

неад'емная «прыправа» бадай кожнага вёрша: «паншчына гэтак скавала мне рукі і ногі», «ўся зямліца — камяніца, дзе ж цяпло-спагада?», «збожжа ў нас было многа — вераб'і падзяўбалі», «і ў гуменцы, і ў каморы сум ды гора», «світа шэрая», «спахмурнелі нябёсы», «бядача». Паэзія Каратынскага жывілася не аддаленымі ўяўленнямі аб беларускім сялянстве, а любоўю да яго, прыніжанага і зганьбаванага вышэйшымі класамі, любоўю, неадлучнай ад роздуму аб родным краі. Таму зусім натуральна, што змрочныя малюнкі ці з'явы быцця, знаёмыя паэту з дзяцінства, змяняюцца ў яго творчасці натхнёнымі радкамі спадзявання на лепшыя, сонечныя дні («Першы дзень вясны»), веры ў надыход справядлівасці на зямлі, калі ў людзях сальюцца тры любові — да сям'і, чалавецтва і радзімы («Любасць»).

Тагачасныя крытыкі схільны былі бачыць у паэце перш за ўсё наследавальніка Сыракомлі, хоць больш правільна было б гаварыць пра творчы ўплыў «вясковага лірніка», што найбольш адчувальна адбіўся на вершаваных апрацоўках паданняў і некалькіх гутарках Каратынскага. У астатнім жа гэта хутчэй падабенства роднасці, блізкасць своеасаблівасці, пра што якраз і сказаў Сыракомля ў сваім «Слоўцы да чытача», якім адкрываў зборнік Каратынскага. «Колькі гадоў жывучы ў маім доме, з тых жа вясковых крыніц, любові да народа, прыроды, кнігі, долі і нядолі чэрпаў ён натхненне, што і мы самі,— пісаў папулярны паэт пра свайго малодшага паплечніка.— Надзелены ад нараджэння здольнасцю, ад нас, можа, пераняў ён ахвоту да песні, пры нас, можа, развіў яе, але развіў самабытна».

Усведамленне непаўнаты першага зборніка і аўтарскай недавыказанасці пачуцця аб родных прынаваградскіх мясцінах, аб працавітых і тым не менш гарапашных насельніках гэтага маляўнічага кута Беларусі, аб нялюдскіх стасунках панскага двара і падданай вёскі, аб пачварнасці грамадства, якое здрабніла, знікчэмніла чалавечыя інтарэсы, падштурхнулі Каратынскага да стварэння паэмы «Таміла». Выдадзеная ў 1858 годзе, яна працягвала з чытачом гутарку, напоўненую

тым жа клопатам, што і папярэдняя кніга, аднак з большым абсягам жыццёвых рэалій, канкрэтызаваных і выпукла матэрыялізаваных у мастацкіх вобразах. Зацятае змаганне старога Тамілы з неўраджаем і сялянскай нядоляю завяршаецца яго паражэннем: ён пазычыў насенне ў пана, а вярнуць, хоць і настала восень — пара прыбраных палёў, не было з чаго, бо «гумно як падмецена, пуста ў каморы і хлеба апошні ўжо бохан пачаты». Каб разлічыцца з панам, Таміла прадае пярэстага коніка — і траціць апошнюю надзею на які-небудзь паратунак ад галечы... Спачувальнае аўтарскае апавяданне перакрыжоўваецца ў паэме з думкамі галоўнага героя, якія, трымаючы яго ў замкнутым коле замацаваных беспрасветным існаваннем забабонаў і паглыбляючы разгубленасць перад несправядлівасцю лёсу, усё-такі не даюць адказу, хто ў гэтым вінаваты (Ох, долечка ж наша, адкуль ты наслана?). Ідучы ад рэчаіснасці, Каратынскі, паводле яго слоў, «вывеў на сцэну народ такім, які ёсць, і прымусіў яго прамаўляць аб самім сабе ўласнымі песенькамі, прымаўкамі і выслоўямі». Адсюль, напэўна, і частыя беларусізмы ў гэтым «абразку з народнага жыцця» (сёрбаць, нядобры, статак, пакалець, вымысліць і інш.).

Паэма «Таміла» пісалася ў час палемікі аб тэндэнцыйнасці літаратурных твораў, якая, пачаўшыся ў польскай перыёдыцы з абмеркавання вострасацыяльнай аповесці Ю. І. Крашэўскага «Два светы», выявіла розныя погляды пісьменнікаў на мэты і задачы літаратуры, паказала, што прыхільнікам чыстага мастацтва процістаяць сілы, здольныя адлюстроўваць жыццё па новых прынцыпах — рэалістычных. Менавіта імі кіраваўся Каратынскі ў сваёй працы над буйным творам. Трагічны вобраз Тамілы выпісаны з любоўю, але без той ідэалізацыі, якая была яшчэ ўласціва, напрыклад, сыракомлеўскім гутаркам, звернутым да «братоў у капоце і братоў у сярмязе». Увасобіўшы ў паэтычнай практыцы сваё разуменне тэндэнцыйнасці літаратурных твораў, Каратынскі не прамінуў падмацаваць яго тэарэтычна ў каментарыях да паэмы. «Што такое тэндэнцыя? — ставіць пытанне Каратынскі і сцісла

тлумачыць: — Увогуле гэта імкненне да праўды, у тым ці іншым кірунку, гэта цэнтр, асноўная думка, душа твора». Як і рэвалюцыйныя дэмакраты, паэт супраць эстэцтва, ён за мастацтва, звязанае з жыццём, праўдалюбнае і дзейснае.

Клопат Каратынскага пра ідэйны змест напісанага, выказаны ў афарыстычных заўвагах да «Тамілы», ні ў якім разе не засланяў сабою працу над удасканаленнем мастацкай формы твораў. Ягоная лірыка багатая на разнастайную страфіку. Паэт амаль не карыстаецца лёгкай дзеяслоўнай рыфмаю. Ён вельмі чуйны да рытмічнай арганізацыі радка, пераважна сілаба-танічнай, але і з яркімі ўзорамі народнага танічнага верша («Сірата»). Натуральна і абноўлена ўліваюцца ў паэзію Каратынскага пераплаўленыя ёю матывы і рэмінісцэнцыі беларускага фальклору. Паэт умела сінтэзуе элегічную інтанацыю і алегарычны стыль, каб праз канкрэтна-пачуццёвае ўяўленне і яго сэнсавую інтэрпрэтацыю данесці да чытача невясёлую праўду рэчаіснасці і свае дэмакратычныя ідэі.

Публіцыстыка, гісторыка-краязнаўчыя нарысы Каратынскага таксама сведчаць, што іх аўтар дбаў, як паўстануць перад публікай ягоныя думкі і тыя ці іншыя звесткі. Каратынскі надрукаваў два цікавыя нарысы пра свайго вялікага земляка Адама Міцкевіча, у якіх, апіраючыся на невядомыя тагачасным літаратуразнаўцам дакументы, удакладніў некаторыя дэталі ў біяграфіі паэта. Яго пяру належыць даследаванне «Саламон Рысінскі», здаецца, самае поўнае з усяго, што калі-небудзь публікавалася пра гэтага збіральніка беларускіх прымавак XVII стагоддзя. Публіцыст напісаў творчыя партрэты Яўстафія і Канстанціна Тышкевічаў, заснавальнікаў навуковай археалогіі ў Беларусі, фалькларыста Рамуальда Зянькевіча і др., мноства артыкулаў пра беларускія гарады (Віцебск, Слуцк, Валожын, Стоўбцы і інш.) ва ўсеагульную польскую энцыклапедыю. Урэшце, Каратынскі — аўтар аб'ёмістага нарыса «Карціны з берагоў Нёмана», які не страціў краязнаўчай цікавасці да нашых дзён.

Пасля выдання 1859 годзе кнігі «Выпіў Куба да Якуба» Каратынскі надзвычай рэдка выступаў у друку з вершамі.

Шасцідзесятыя гады складваліся для беларуска-польскага паэта і публіцыста нешчасліва. Восенню 1862 года памёр Уладзіслаў Сыракомля. Пазней удзячны вучань складзе свайму настаўніку і паплечніку найлепшы помнік — дзесяцітомны збор ягонай паэзіі.

Надзеі, звязаныя з паўстаннем 1863 года, не спраўдзіліся. Жандарскія вобыскі, падозранні ў напісанні нелегальных агітацыйных брашур, абмежаваныя магчымасці друкавацца на радзіме, спустошанай мураўёўскай рэакцыяй, і матэрыяльная нястача вымусілі Карацынскага на пачатку 1866 года пакінуць Вільню. У Варшаве ён цалкам прысвяціў сябе польскай журналістыцы, супрацоўнічаючы ў «Газэце Варшавскей», а потым і ў часопісе «Тыгоднік Ілюстрованы» і толькі калі-нікалі вяртаючыся, як у памяць, у хату сваёй паэзіі. 7 лютага 1891 года Вінцэсь Карацынскі памёр.

З усёй беларускамоўнай спадчыны паэта-дэмакрата да нас дайшлі тры вершы — «Уставайма, братцы, да дзела, да дзела!», прысвячэнне А. Вярыгу-Дарэўскаму і «Туга на чужой старане». Гісторыкі літаратуры неаднаразова выказвалі меркаванне, што Карацынскі напісаў беларускую вершаваную пракламацыю «Гутарка старога дзеда», якая выдавалася ў падпольнай беластоцкай друкарні напярэдадні студзеньскага паўстання. Ёсць таксама здагадкі, што аўтар «Тамілы» прычыніўся да стварэння агітацыйнай антыцарскай «Гутаркі двух суседаў», прынамсі, да яе трэцяга і чацвёртага выпускаў. Гэтыя думкі, на першы погляд, выключаюць адна адну. Але толькі на першы погляд. Абедзве гутаркі зыходзяць з адной ідэі і ўяўляюць сабой стылізацыю пад народнае, прытым вельмі блізкую па свайму характару і нават лексічных сродках. Значыць, яны выйшлі з-пад пяра аднаго аўтара, хутчэй за ўсё Вінцэся Карацынскага. Нездарма сын паэта Бруна згадвае ў сваіх мемуарах пра напісаны бацькам па-беларуску *цыкл* агітацыйных антыўрадавых вершаў. Калі ў гутарках гнеўныя словы ў адрас царызму былі кінуты ананімна ці, так сказаць, завочна, то ў вершы «Уставайма, братцы...» аўтар, звяртаючыся да цара, гаварыў пра «ноч» над роднай

старонкай, пра «чорную святліцу», дзе не прымеш высокага госця, пра «матку-зямліцу», яе неўрадлівы «жаўценькі» пясок, што прамакае расою слёз, гаварыў адкрыта, у вочы: твор быў укладзены ў альбом-адрас, які падрыхтавалі віленскія літаратары і паднеслі Аляксандру II пад час яго прыезду ў сталіцу так званага Паўночна-Заходняга краю ў верасні 1858 года. Каб не ўносіцца ў пахвалах «яго вялікасці», а нагадаць яму пра народную цемру і пакуты, ды яшчэ на забароненай мове,— трэба было мець грамадзянскую мужнасць. Зусім іншае — прысвяціць верш паэту-аднадумцу. Каратынскі ўпісаў яго ў альбом беларуска-польскага паэта Арцёма Вярыгі-Дарэўскага праз месяц пасля свайго «вітання» цара. Запіс сагрэты аўтарскім адчуваннем братняга пляча на абранай дарозе і аднаўленнем веры ў здольнасць паэзіі актывізаваць у людзях памкненні да лепшай будучыні, да патрыятычнай дзейнасці. Ці не Вярыгу-Дарэўскага, сасланага ў Сібір за ўдзел у студзеньскім паўстанні, ці не тых сяброў, якія, пазбягаючы царскага праследу, пакінулі радзіму, меў на ўвазе паэт у элегіі «Туга на чужой старане»?

Адарвалі сіраціну
Ад сваёй зямлі,
Даўшы розум, хараміну,
Шчасця не далі...

Было тут і асабістае. У 1864 годзе перад Каратынскім ужо стаяла суровая неабходнасць ад'езду з Вільні, расстання з радзімай — хатай свайго натхнення. Але дзверы ў гэтую хату ён не замыкаў.

УЛАДЗІМІР МАРХЕЛЬ

## ПАСТРЫЖЫНЫ

*Слоўка да прыхільных чытачоў*

Сягоння, братове, мае пастрыжыны,
Вітаю вас хлебам і соляй!
Ні бацькі, ні маці няма між сябрыны —
За іх надзяляцьмеце доляй.
Малітвамі неба ўласкаўце паслухаць —
Не марнымі просьбамі ў бога
Расы жыццяноснай спрагнёнаму духу
І целу высілку зямнога.
Святочную праўлю бяседу, равеснік,
За чынай святой, за абрадам.
Вось хлеб мой з мякінай, нясвежыя песні:
Чым хата багата, тым рада.

Літвін я — ах, людцы, вялікі мне сорам
За свой перад вамі дабытак:
Прысмакаў не мае сялянскі мой хорам,
Ласункам не ўсцешыць спажытак.
І брама, і дзверы гасподы тут насцеж,
І чужасцю сэрца не сцята.
Не гэткай бяседай гасцей сваіх шчасцяць
І песняй не гэткай на свята.
Мой хлеб у сурвэце, хлеб цьмяны ратая,
Вясёлым вачам не прынада,
Убогая песня, ды сэрцу святая...
Чым хата багата, тым рада.

Віно зеляное вы піць бы паселі,
Дзівіліся б на частаванне:
Я вас малаком бы птушыным звяселіў
І зіхамі росаў буяння.

Ды дзе тыя дзівы? Як быў я падлетак,
Ніхто не ўказаў мне дарогі!
Калі ж адгадаў сам, то паншчына гэтак
Скавала мне рукі і ногі,
Што свет у айчыне не мілы мне наскай,
Працую за так і да ўпаду.
О, добрыя людзі! Не грэбуйце ласкай:
Чым хата багата, тым рада.

Я ведаю, край мой дзівіў песнярамі,
Пры іх не хмурнела гасціна,
Бо радасць святліла з душы прамянямі
Шчаслівай да слёзаў часінай.
Такіх не спаткаў я: народ, як пракляты,
За працай нядзелі не бачыць;
Спявае тут жнея, спявае араты,
То водгалас долі бядачай.
А звычай без песні ў святой мне хвіліне —
Расчатая глумам ашчада,
Ламаць яго нельга! Прабачце літвіну!
Чым хата багата, тым рада.

Як роднае вёсцы заззяюць тры сонцы
І люд абнадзеяць на свеце;
Як ніва нарэшце плён выдасць старонцы,
Напоўніўшы бедныя клеці,—
Прашу я тады вас на іншыя святы,
На хлеб, што з мукі мы замесім,
На піва і жыўнасць, на гутаркі ў хаты,
На песні — не гэткія песні!
А сёння вам дзякуй, здалёк завіталі,
Мой дзень меў асвяцце абрадам,
Паслухалі песні і хлеб паспыталі...
Чым хата багата, тым рада.

*1856 г.*

## УСТАВАЙМА, БРАТЦЫ!..

Уставайма, братцы, да дзела, да дзела!
З поўначы певень залопаў крылом.
Ну жа, каб жыва работа паспела,
Выслаць гасцінец жаўценькім пяском!

Дружна, грамада, ў сардэчнай ахвоце,
Духам насілкі на плечы уздзень!
Ох, толькі ноччу няспорна ў рабоце!
Узыдзі нам, соўнейка! Прывядзі нам дзень!

Едуць к нам, едуць дарагія госці —
Зямель шырокіх моцны гаспадар.
Верныя служкі пры яго мілосці,
Дабра і шчасця за ім доўгі шар.

Як хадзіў пан-бог па земскай дарозе,
Кожын слаў світу ды зялёну віць.
Што ж разасцелем мы сваёй ўспамозе?
Узыдзі нам, соўнейка! Скажы, што рабіць!

Гдзе яго прымем? Чорная святліца,
Залатых тканак не судзіў нам бог.
Што наймілейша — то матка-зямліца,
Жоўты пясочак на яе палёг.

Цябе ж на плечах, зямля дарагая,
Велькаму госцю пад ножкі нясу.
Ох, ды расою пясок прамакае!
Узыдзі нам, соўнейка! Падбяры расу!

Зара-зарыца бяжыць ужо з неба,
Любачкі звёзды блікнулі жывей.

З богам, браточкі, канчайма, што трэба!
Лёгка на сэрцы, а вачам святлей.

Зарыца кажа: вы — божыя дзеткі;
Звёзды міргаюць: братам стане пан...
Вот туман цёмны рынуў на палеткі.
Узыдзі нам, соўнейка! Разгані туман!

Божае сонца бліснула на галі,
Дзяньку вясёла гуляць на дварэ,
Шле да нас пташкі, каб пець памагалі,
Туман прагнала, расу падбярэ.

І наша сонца да нас прыбывае,
Дабро і шчасце рассявае ён...
Здароў будзь, велькі гаспадару края!
Здароў будзь, соўнейка! Паклон! О паклон!

*1858 г.*



*А. Вярыгу-Дарэўскаму*

Далібог-то, Арцім,
Што прыплыў ты к сваім!
І зямля тут твая,
І народ, як сям'я:
Ён з табою з вякоў
Адно цела і кроў.
Хоць няма каліты,
Ды гамоніць, як ты;
Роўна з песні твае
Думу-думку снуе,
І не то абы з рук —
Чалавек не пінчук!

Што марочыш нас тут?
Лезь, браточку, на кут
Ды настрой нам Дуду!
Я па вёсцы пайду:
«Бог паслаў да нас дар!
К нам Наддзвінскі Дудар
Заблудзіў аж сюда.
Пад рукою — дуда
І звініць, і гудзе,
Як па масле ідзе.
Будзе пець мужыком
Аб Язуску святом,
Аб матульцы святой,
Аб зямліцы радной,
Аб сардэчных палёх,
Аб мужыцкіх панох,
Аб суддзях, што як змей,
Аб свабодзе людзей,

Аб дабры, што бог дасць,
Як адрыне напасць!»

Роўна мухі на мёд,
Зачне біцца народ
Ды нясці, што бог даў:
Той махоркі рукаў,
Той закускі крыху,
Той барылка ў мяху,
Вот закураць, зап'юць,
Разагрэецца грудзь,
Як на весну папар.
Ну, здароў будзь, Дудар!
Цяпер песні нам сей,
То і ўзыдуць жывей,
То і пусцяць пышы —
Будзе хлеб для душы.

Не, дык што ж, Дударок,
Гэты з намі дзянёк
Адпачынь ды паграй,
Тужыць сэрцу не дай!..

Ой, бяда ды бяда!
Прыблудзіў ты сюда —
Як агню ухапіў,
Так сказаць, як не быў!..
Ідзі з богам здароў!
Не гудзі літвіноў,
А скажы там сваім,
Што ты міл нам, Арцім!

*1858 г.*

## ТУГА НА ЧУЖОЙ СТАРАНЕ

Ой, саколка, ой, галубка!
Не пытайся, не,—
Што мне тошна, мая любка,
Ў гэтай старане...
Я ж зямліцу меў радную,
Быў свабодзен сам!
Ох, ці днюю, ці начую —
Я ўсё там ды там!
Там гукнеш ў сардэчным краю —
Разлягнецца свет.
Тут гукаю, прамаўляю —
Адгалоску нет.
Там палосы сенажаці
Красны, як нідзе,
Стануць птушкі прыпяваці —
Ў сэрцы аж гудзе.
Там дзяўчаткі на вячорках
Словейкам радным
Кажуць казкі, прыгаворкі —
Душа ліпне к ім.
Там дзяўчаты, маладзіцы —
Красен цвет-тымян;
Глянеш толькі ім ў ачыцы,
Як ад мёду п'ян.
Там, як птушка на свабодзе,
Я быў жыць прывык,
Не пытаўся: «Мала? Годзе?» —
Быў вясёл і дзік.
Як дубочак маладзенькі,
Гібкі — проста віць,
З воч маланка вылятае,
Кроў агнём кіпіць!
Ах! Цяпер жа, ой, палеткі

Роднага сяла,
Не пазналі б тае кветкі,
Што там зацвіла!
Паглядаю праз аконца —
Чоран цэлы свет;
Усім людзям свеціць сонца —
Мне прасветку нет.
Бо за мною, прада мною
Поўна божых сёл,
Ўсе ў грамадзе ды з раднёю —
Я адзін як кол.
Адарвалі сіраціну
Ад сваёй зямлі,
Даўшы розум, хараміну,
Шчасця не далі...
Я не смею прытуліцца
Ні к яму, ні к ёй:
Хараміна — чужаніца,
Розум — вораг мой.
Ад зарыцы да зарыцы
Туга кроў мне п'ець.
Пяюць хлопцы, маладзіцы —
Я не ўмею пець...
Бо пры люлі родна маці
Мне не пела дум;
Ў чыстым полі, для дзіцяці,
Граў мне ветру шум.
З шчаняткамі збегаў поле
Мілай стараны —
Не судзіла горка доля
Жыці, як яны.
Ой, не будзе над радную,
Ды не будзе нам,
Ці я днюю, ці начую —
Там, ой там, ой там!

Сакалочка, галубочка!
Хочаш мне памоч?
Дай маё мне, дай сялочка —
Туга пойдзе проч.

*1864 г.*

## НАД КАЛЫСКАЙ

Люлі, дзетка, ручаняты
Разняволь, чакае змора.
Бестурботнасць знойдзе спраты —
Птушкай выпырхне за мора.
Дзень вясёлы крутам-мутам
Пройдзе, стане цесна ў хатцы.
Матцы, пану, шмат каму там
Будзе трэба твая праца.
Рукі звіснуць у адчаі,
З правых не сыходзь дарог!
Бога кліч, ён літасць мае,
Неба сілы дабаўляе,
        Там ласкавы Бог.

Люлі, мруж за вочкам вочка,
        Спаткі час!
        Вунь сарочка,
        Белабочка,
З-за лясоў спяшае ў хатку,
Залаты нясе дзіцятку
        Вабны пас!

Люлі, спі! Заснулі слонкі.
Ані чуе неслух спеву.
Лапкі дай свае ў пялёнкі,
Ўраз звяжу цябе без гневу.
Я звяжу хусцінкай смела...
Можа, будзеш у нядолі
Лахмана не мець ніколі,
Каб прыкрыць хоць крыху цела.
Толькі колькі сілы стане,
Нішчы наракання лёх!
Бога кліч, хоць у лахманні,

З неба кветка мае ўбранне,
Там ласкавы Бог.

Люлі, мруж за вочкам вочка,
Спаткі час!
Вунь сарочка,
Белабочка,
З-за лясоў спяшае ў хатку,
Залаты нясе дзіцятку
Вабны пас!

Люлі, дзетка. Вецер плача!
Што страляеш вокам коткі?
Трэба даць грудзей няйначай
Ласунку на сон салодкі.
Светлы час заўжды кароткі:
Ссі ж! Магчыма, ў цяжкай долі
Мець не будзеш хлеба, солі
Ад уроку, ад паводкі.
Хоць ад слёз растануць росы,
З ног не падай ад знямог!
Бога кліч галодны, босы:
Спыняць гнеў вады нябёсы,
Там ласкавы Бог.

Люлі, мруж за вочкам вочка,
Спаткі час!
Вунь сарочка,
Белабочка,
З-за лясоў спяшае ў хатку,
Залаты нясе дзіцятку
Вабны пас!

*1856 г.*

## ПРЫТУЛАК ШЧАСЦЯ

Слухайце ўважна, думайце, людцы,
Як у клубочак ніткі наўюцца.
З гэтай гісторыі возьмеце весці,
Дзе прыхавана шчасце на свеце.
Жыў чалавек у нейкай краіне
Па-за гарамі, морам там сінім,
Меў трох сыноў і цешыўся дужа.
Першы да чынаў створан быў мужных,
Муштру любіў ён, мечык пры боку
І не ступаў без цыркуля кроку,
У сне ён ваячыў, глобус прамерваў —
Трапіў нарэшце ў шэраг жаўнераў.
Біўся як мог, не ведаў нядзелі
І заслужыў — на шчыт свой кудзелю.
Потым... Але! — другі вось, мой пане,
Той да навукі меў, бач, прызванне,
Стаўся вучоным думкі высокай,
Што залятала дзесь за аблокі!
Мог ён тлумачыць з'явы прыроды —
Слухалі ў здзіве людзі заўсёды:
Як гэта неба ўсё-ткі без даху,
Як пасмяяцца з д'ябла без страху,
Дзе знайсці можна розныя боствы,
Як сумнявацца ў ісцінах проста,
Як залатой не прагнуць манеты,
Як пагарджаць...— ды потым пра гэта.
Трэці быў як бы прыдуркаваты,
Спаў у запечку бацькавай хаты,
Тузаў ката за хвост ваяўніча,
Часам трубіў у рог паляўнічы,
Еў сабе смачна,
пацеры звучваў,
Чуў сябе добра ў шчаснасці зручнай.

Трохі пазней (прашу вас даслухаць!)
Першы пры зброі выйшаў на зуха,
Думаў узняцца — многа ці мала —
Над Леанідам і Ганібалам,
Стаў ганарысты, кінуў распусту,
Дзесьці двух шведаў сцяў на капусту,
Крыжык займеў і знак нарукаўны,
Нават у рангах выбіўся праўна:
Зваўся харунжым з нейкай нагоды
І, дачакаўшы слаўных паходаў,
Меў стаць... Але! — дастаў у лоб кулю,
Слаўна памёр — здароў быў, татуля!
Той жа другі жыў іншай патрэбай,
Мала зямлі меў, прагнуў ён неба —
І па драбінах складных сафізмаў
Аж у святыню бога даціснуў,
Сам быццам богам стаў у святыні,
Ды не ўтрымалі штосьці драбіны:
Шуснуў з тэорый слаўных знянацку,
З мудрай падставы ў дом ён вар'яцкі,
Потым памёр нібыта вясёлы
І пахаваны быў ля касцёла,
І ў яго памяць медаль быў адліты.
Трэці, васпане, продае жыта,
Поле арэ і ведае меру —
П'е ён кмянкоўку, а не мадэру,
Талераў склаў не менш за асміну
І ажаніўся з ладнай дзяўчынай,
Спадчыну ўсю забраў на астатку,
Кажа ў гуморы: «Вось як, мой татка!
Хіба ад славы грэх схаваць шыю?
Мудрыя змерлі — дурні жывыя...»

*1856 г.*

## ПЕРШЫ ДЗЕНЬ ВЯСНЫ

Рупіць сонцу ды ў старонцы
Шчыра веснаваці.
Ніва, дрэвы пад прыгрэвам,
Тлее снег на хаце.

Ранак весні поўніць песняй
Жаўруковай душы,
І паволі ўсё з няволі
З ласкі сонца рушыць!

Крочыць з хаты і араты
З думаю вясновай.
Кожны сэрца ў паняверцы
Ўсцешыў марай новай.

Я ж маўклівы і тужлівы!..
Сэрца, што з табою?
Ці ж не годзе й пры нагодзе
Ўвесну жыць з журбою?

Усплывае як жывая
Мне вясна здалёку!
Меў я шчасце без напасці,
Не было марокі!

Так пяяннем, так каханнем
Пачуццё гарэла —
Апантана неспазнаны
Свет абняў бы цэлы!

Быў я зрокам так высока,
Ля сядзіб анёлаў,
А сягоння мне ў далоні
Цяжка вісне голаў.

Жаўрукова тая мова
Кратала мне струны.
Сёння быццам не ў блакіце,
А ў бязводнай студні.

Бег шалёны на абгоны
З ветрам той часінай.
Сёння крочу — долу вочы,
Як за дамавінай.

Час зімовы стаў суровы
Аж — ад лістапада,
Ўся зямліца — камяніца,
Дзе ж цяпло-спагада?

У нядолі так адолець
Свет змагло акуцце,
Нават нішчыць папялішчы
Найсвятых пачуццяў.

Вось дзівосы!.. У нябёсах
Пташка-прадраканка:
«Шчэ не тое, не такое
Пачалося зранку!

Не пазналі, прывіталі,
Радыя нібыта —
То ж прадвесне, шчэ ўваскрэсне
Ўсім вясна з нябыту!»

Толькі, можа, сон паможа
Ўбачыць мне вачыма
Тыя буры і віхуры —
І жыццё ў зачыне?

Гэткай звязкай явы й казкі
Дасць адчуць былое,

Сэрцу верне сілу веры,
Пачуццё святое?

І так лётна думка-лодка
Вырвецца з мялкоцця,
Што ёй ёрмы, што ёй штормы,
Жудасць ды страхоцце?!

Божай воляй тут мне доля
Так наканавана:
Сум парушыць гусляў мушу
Песняю нязнанай!

Будзе песня сонцам веснім —
Сілай веснавання,
З небам звонкім і старонкай
Злучыцца пяянне.

*1856 г.*

## ЛЮБАСЦЬ

Дух адзін лучыць гоні сусвету,
Зваць яго Любасць; светлая мара
Ў квецені буйнай, бегах планетных
Дух той спазнае, дух жыццядарны.

Лучнасць сямейкі — першая повязь,
Зерне, з якога Любасць вякуе.
Круг той замкнёны быццам бы дробязь,
То вакол восі рух зямной кулі.

Больш ёсць другая чыстай, прыгожай,
Любасць да краю, з першае плыніць,
Нам абавязак, місію множыць,
То вакол сонца кулі пуціна.

Трэцяя лёсіць з гэтых дзвюх першых,
Розум дзівуе лучнасцю весняй:
Любасць да люду еднасць завершыць
Думкі зямное з думкай нябеснай.

Любасць як будзе ў сэрцах супольнай
Да Сям'і, Краю, Люду планеты,
З ёй як зямля ўся станецца вольнай —
Бог загасцюе ў лучнасці свету.

*1856 г.*

## ВІЦІННІК УВЕСНУ

Сонца хмары адправіць,
І вясна загаворыць
З Нёмнам мовай ласкавай —
Будзе неба і мора.
Мы там шляхам-пуцінай
Паплывём на віціне.

Нам змагацца з вадою,
Не спалохаюць беды!
Хто адважны — стралою
Да Кралеўца, Клайпеды!
Як пра ластавак весніх,
Пра віціны там песняць.

Край наш вельмі прывабны...
«Эгэй, васпан!» — гукае
Немец тлусты, нязграбны,
То купец нам махае.
Ой, ад злосці ён звяне,
Жыта ў нас як не стане.

Збожжа ў нас было многа —
Вераб'і падзяўбалі,
Бракавала падмогі,
Як маглі ратавалі.
Рэшта трапіць да Гданска...
Воляй боскай і панскай.

Хоча есці й чужына,
Целу мецць прахарчунак.
Нам падносяць там віны,
Мы ім — божы дарунак.

Так абмен распачаты,
Будзе кожны багаты.

Мачта, дружа адзіны!
Будзеш мною прыбрана
І ў штандары, і ў ліны,
Быццам стужкамі панна.
І да хаты літвіны
Паплывуць на віціне.

*1856 г.*

## СІРАТА

Не ў мяне ты, сівы воле,
Мой саколе,
Не ў мяне авечак поўна
З белай воўнай.
І ў гуменцы, і ў каморы
Сум ды гора.
І ніхто не завітае —
Сірата я.

Бацька спіць мой у пясочку
Днём і ночкай,
Маці бога не ўпрасіла —
І магіла
Ёй засыпала павекі
На век-векі.
Віхар след іх замятае —
Сірата я.

Не ў сям'і жыццё — чужына!
Як каліна,
Зранку ўсыпана расою
Срабраною,
Птахам б'юся з сеткі-голля
На прыволле.
З плачам лёс свой каратаю —
Сірата я.

А равесніцы — пры модзе,
Абыходзяць,
Зіхацяць парчы іх хвалі
І каралі,

Косы ў кожнай з каснікамі —
Аганькамі.
Рутачку сабе ўплятаю —
Сірата я.

Іншай можна бегчы з поля
На сваволю,
Сустракаці з любым ночку
У таночку.
Бачу раз свайго — ў нядзелю,
Бо на дзеле.
Плётак хтосьці наскладае —
Сірата я.

Божа, божа! Жарты ж тыя
Маладыя.
Ці ж не зычыць нам ніколі
Сэрца волі?
І за працу потым судзяць...
Вось дык людзі!
Думка ў іх заўжды святая —
Сірата я.

Плёткі нам не перашкодзяць —
Сэрцы ў згодзе.
Пад вянец калі я стану —
Перастануць.
Чарка поўная ўласкавіць...—
Будуць славіць:
Працаўніца маладая —
Сірата я.

Божы мой пасаг турботны,
Заработны.
Ручанькі, мо жыць вам годзе
Ў асалодзе

З любым, што мяне мілуе
І цалуе?..
Вам я не паспагадаю —
Сірата я.

*1856 г.*

## МАЕЙ СВІЦЕ

Світа, світа-даматканка!
Нам з табой няма збавення,
Век сцякае безустанку
Чалавека і адзення.
На спатканне, мы тут госці,
Крочым, анідзе не звернем,
Покі не ў магіле косці,
Покі ты не на паперні...
Ці ж успомніць нас хто словам?
Шлях ці апяе жыццёвы?

Жыў калі б я дзеля хвілі,
Век бы мой не стаў сярмяжны,
Гузікі б табе прышылі,
Ды якія — з гербам княжым.
Як састарылася б цела,
Што й не даць хваробам ліку,
Белую б ты скрыню мела,
Я ласкавы хлеб — упіку.
І па смерці люд заможны
Помніў бы з табой нас, можа.

Як бы сэрца жабравала
Міласці свайму каханню,
Даў бы крой табе прыўдалы,
Каб прывабіць вочы панны;
Не пярэчыла б галубіць
Ля касцельных нават кратак.
Ладны б я пасаг зашлюбіў,
Жонку ладную ў прыдатак.
І па сконе —
год бязмала
Нас бы, пэўне, ўспаміналі.

А як слава б спакусіла,
Мною б свет быў здратаваны,
Як той Цэзар ці Атыла
Між людзямі стаўся б знаны.
Не зрабіў бы ёй уцінкаў
Дзень апошні, дзень пакуты,
Трэны на маіх памінках
Сведчылі б, што я славуты.
Ты ў музей пасля расстання
Трапіла б на векаванне.

Ды табе і мне ганебна
Крой мець гэты, крой бясчэсця.
Дум пра бляск і дум пра неба
Галава мая не змесціць.
Світа шэрая, паволі
Крочма ў край, сабраўшы сілы,
Песні верныя і долі,
І народу да магілы.
Мець там будзем пашаноту,
На дзяды паклічуць потым.

*1856 г.*

# ДВА КАХАННІ

Над рачулкай каліна глядзіцца ў вадзіцу;
У сяле прыгажуня, што толькі дзівіцца.
У каліны і зелень, і квецень, і росы;
У дзяўчыны і росквіт, і ў вочках нябёсы.
Салавей да каліны лятае штовечар;
Стрэў дзяўчыну юнак — голаў страціў навечна.
Адзін песні каліне пяе несупынна;
Другі ў сэрца ўбірае, што скажа дзяўчына.
Салаўя рада слухаць да рання каліна;
Пакаханая хлопцам, кахае дзяўчына.
Згляне ў кроплі расы салавей сябе жыва;
У дзявочых вачах — хлопец лёс свой
шчаслівы.
Адзін голас мацуе ў залётах вясенніх;
Другі сіл набірае для светлых здзяйсненняў.
Бура стрэсла з каліны ўсе кропелькі росаў;
У дзявочых вачах спахмурнелі нябёсы.
Прыляцеў салавей — на сябе не дзівіўся;
Глянуў хлопец дзяўчыну — не ўчуў сябе ў высях.
Салавейка замоўк, паляцеў ён за мора;
Збіўся з тропу юнак ад кахання і гора.
Жыве тая каліна — пяюн адзавецца;
Жыве тая дзяўчына... у памяці сэрца.
Незнарок зноў ляціць салавей да каліны;
Незнарок голаў траціць юнак з-за дзяўчыны.

*1856 г.*

## ВІЦІННІК УВОСЕНЬ

Вейце, ветры!
                    Хутчэй у вярхоўе!
Станься птахаю, наша віціна!
Вось блакіт для твайго толькі лёту,
Вось нябёсы і хмаркі-кустоўе.
Мусіш быць ты прывязанай потым
Да зямлі, дзе вякуюць літвіны,
Як надыдзе расстання часіна...
Вейце, ветры!
                    Хутчэй у вярхоўе!

Час табе ўжо дадому, бядача!
Хай свой кут пакідаць не прыспічыць,
До зімнейшай ад лёду знаць плыні,
До жывіцца ядою чужачай,
До чужой падабацца дзяўчыне!
Родны край і свая... цябе кліча,
Дні, калі развіталіся, лічыць.
Час табе ўжо дадому, бядача!

Каб таго дачакацца мне ранку —
Вёску родную ўбачыць і хату!
Ёсць дарункі з чужое краіны:
Вельмі радая будзе каханка,
Вышываную дам ёй хусціну,
І суседу ёсць нешта, і брату —
Мае скарбы без пошліннай платы...
Каб таго дачакацца мне ранку!

Вейце, ветры! Хутчэй у вярхоўе!
Станься птахаю, наша віціна!
Адпачнеш за зіму бесклапотна —
На рацэ запануе бязмоўе.

Каб далёкім не быць і самотным
І не здоўжыць разлукі часіну,
Я плыву, пакідаю чужыну...
Вейце, ветры! Хутчэй у вярхоўе!

*1856 г.*

## У АЛЬБОМЕ

Сцяты сцюжаю адчаю,
Ветрам родным толькі ўчуты,
Цёплым сэрцам прыгарнуты,
Тут адчуў — жыццё знікае.

Ох! Спазналі грудзі ў золі,
Як жа маюць шмат улады
Сонца весняга пагляды,
Словы цеплыні на волі.

Зноў пачуцце ўзелянела,
Заквітнела завязь ласкі,
Як вясною рунь, што ласы
Паспытае промень смела.

Зноў з шаўкоў я тку надзеі,
Цеплыня, святло са мною;
Ў шчасце ўласнае, людское
Вера даўняя яснее.

Добра ж час забыць шалёны,
Ўмлеўшы ад ружовых тонаў,
І абдымкі чуць мільёнаў,
І пакутваць за мільёны.

Сэрцам, подыхам адзіным,
Думкай браць Сусвету змогу.
Ды гучыць нашто «ў дарогу!» —
Сык у спеве салаўіным?

«У дарогу!» — ўздрыгне сцята,
Ўдарыць векам дамавіны...
Тут жыву, бо жыць павінны,
Ні для света, ні для свята.

«У дарогу!» — сум сустрэне.
Што ж аддам за пагасціны?
Маю толькі скарб адзіны:
Думкі, сэрца — з летуцення.

Ах! Не доля — залатую
Нітку мар снаваць бясконца.
Вецер нёс мяне да сонца,
Хай адносіць. Не шкадую.

Галаву чакае плаха,
Рукі — мукі. О, Ўсявышні!
Што ж, скачы, паяц увішны:
Трэба хлеб і апранаха.

А як марна згіну дзе я,
Не кляні мяне, ні долі:
Зразумеў мяне даволі,
Выбачыць, хто разумее.

Раз жагнае лёс нагодай,
Спагадай жа ў добрых слоўках;
Хай мне будуць у вандроўках
Падмацункам, ахалодай.

Хай жа помніцца ў адчаі
І ў лагодзе, што жывая
Ёсць яшчэ душа, якая
Разумее, прабачае.

На дарогах лёсу лютых
Той старонкай зірк прыкуты,
Дзе быў сэрцам прыгарнуты,
Быў суцешаны ў пакутах.

*1856 г.*

## СВАТЫ

Па цясовым мосце
Едуць, едуць госці.
Павітайся,
Запытайся:
Хто вы, ягамосці?

Сэрцайка ўжо знае:
Той, хто завітае,
Дасць мне долю,
Возьме волю
І хваліці мае.

Белы стол накрыты,
Белы твар умыты.
Хвіляй тою
Ў бісер мною
Шыя апавіта.

Гуртам адпаведным
На падворак едуць.
Бачу ў зборы,
Мой каторы,
Я па клячы гнедай.

Як бы іх не знала,
Я пры печы б стала —
У куточку,
Долу вочкі,
Сценку б калупала.

«Добры дзень» ён змовіць,
І пачнуць сватове,

Будуць плесці,
Хто ды дзесьці,
Лгаць на кожным слове.

Трапілі куніцу —
Іншым і не сніцца.
Трэба гуртам
Выгнаць хутка
З нашае пшаніцы...

До туманіць, сваце,
Ў свячанае хаце.
Ясна з мовы,
Тут каго вы
Хочаце шукаці.

От і на падворы!..
Горачка мне, гора!
Нават божа
Не ўспаможа...
Лепей — у каморы!

*1856 г.*

## СОН НАЯВЕ

Гэй, сосны, неба вас гайдае,
І вецер млее ад пяшчоты;
Таму ў слязах я, маладая,
Не дадавайце мне гаркоты.
Бы ў дамавіне, на чужыне —
Паветра цісне, радасць вяне.
Прыедзь, хай сум мяне пакіне,
Мая матулька, на спатканне.
Конь вараны, зайдзіся ў бегу:
Дам корму, мурагу з пашанай!
Едзь, мамка, хутка, без начлегу,
Едзь неўмыванай, недаспанай!
Рукам тут будзе бела мыцца,
Ад пылу ўтрэш тут твар міленькі:
У студні, як сляза, вадзіца,
Мой ручнічок, як снег, бяленькі.
Цябе мае ўкалышуць грудзі,
Замружыць вочы сон знямогі...
Дзятва, маўчы, хай ціха будзе!
Матулька, адпачні з дарогі!
І сэрца сэрцу ў ціхай скрусе
Раскажа ўсё лагодным чынам.
Пачаставаць, дзятва, парупся
Матульку малаком птушыным...
Ах, як жа блага спіць!.. Мой Божа!
А дзеткі птушкамі ў падстрэшшы
Сон разбудзілі... стыне ложак...
Праводжу мамку не сустрэўшы...

*1856 г.*

## ПАСЛЯ СВАТАННЯ

Добра ўсё, харошы сваце!
Запрасіла матка ў госці:
Стол ужо накрыты ў хаце.
Рады з намі размаўляці,
Жыта ўнеслі — то і досыць.
Пры дзяўчыне, ой, не хлушу,
Сэрца гутарыць міжволі;
Міласць нам з'яднала душы!
Што той долі, долі, долі!
Ох, ці толькі пан дазволіць?

Дочка ў матку, гаспадыня!
Род такі ў іх непаганы:
Ці ў касцёле, ці то ў гіні
Анікому не павінны.
Ды не тыя думкі ў пана!
Хто мне сэрца моцна сушыць —
Не спытаў ён аніколі...
Міласць нам з'яднала душы!
Што той долі, долі, долі!
Ох, ці толькі пан дазволіць?

Вочкі тыя — свецік цалы:
Зазіраюць аж да сэрца,
Нібы сонца ў дзень Купалы,
І задумны, і прыўдалы.
Маладзеюць годы, здэцца,
Як за птушкай, здэцца, рушу
У край свабоды, свет саколлі...
Міласць нам з'яднала душы!
Што той долі, долі, долі!
Ох, ці толькі пан дазволіць?

4 Зак. 1377

Як бы словы ўмела складваў,
Напісаў бы каралю я:
Ясны пане, векаслаўны,
Тое дай далонню спраўнай,
Што дала ўжо нам матуля,
Блаславі нас, непарушны,
Не ганьбуй жа хлеба, солі;
Міласць нам з'яднала душы!
Што той долі, долі, долі!
Ох, ці толькі пан дазволіць?

Як бывала ў час прыгожы,
Калі бог хадзіў між намі:
Рукі, ногі твае, божа,
Расцалоўваў бы я, можа,
І заліў бы іх слязамі.
Свой бы гнеў ты не абрушыў,
Даў бы зведаць вольнай волі:
Міласць нам з'яднала душы!
Што той долі, долі, долі!
Ох, ці толькі пан дазволіць?

Вы сказалі... паўтарыце...
Ён пабрацца не ўзбароніць,
Бо схаваны ў хлопскім быце,
Знае думкі іх і жыцце,
Ім і сэрца — на далоні?..
Як цярпець я, бедны, мушу!
Сваце, едзеш ты паволі...
Міласць нам з'яднала душы!
Што той долі, долі, долі!
Ох, ці толькі пан дазволіць?

*1857 г.*

## БЯРОЗКА

Вецер нёс мяне зярняткам
І кружыў з нястомнай сілай,
Ды зямля мяне, як матка,
Прыгарнула, прытуліла.

Росы, буйныя на дзіва,
Аздаблялі мяне міла,
Сонца, наш мастак адзіны,
Лісце мне пазеляніла.

Я ўзрастала год за годам
Легкадумна, нетрывожна,
Нібы ўся мяне прырода
Блаславіла быць прыгожай.

Я сваволіла з ахвотай,
Не тужыла ані хвілі,
Ды салоўкі ў час залётаў
Марыць, марыць навучылі.

Птушка дробная — сініца
Пры сваёй маленькай хатцы
Шчабятала на галінцы,
Што пара мне закахацца.

Я прымоўкла на астатак,
Аж галінкі ўсе абвіслі...
Ад яго чакала сватаў,
Ад каханага з-над Віслы...

Ох, чакала і ад смутку
Паглядала ў люстра Нёмна!

Нёман вымавіў ціхутка:
«Ён кахае непрытомна!»

Май, ліслівец зелянюткі,
Мне расчэсваючы косы,
Гаварыў: «Не трэба смутку!
Бачны ясна госць даўлосы!»

Прамінула дзён багата;
Мой каханы, верны слову,
Выслаў вецер мне за свата,
Што прынёс пылок жыццёвы...

Усміхнуліся нябёсы:
Падрастаюць побач дзеткі,
Купкай зеленавалосай
На мяне глядзяць прыветна!

Спаважнела, як не тая,
Разумею добра, здэцца:
Што каханнем называем,
Тое шчэ й жыццём завецца.

Совы, дзеці цёмнай ночы,
Тут, у нас, не маюць спрату...
Чалавек мяне азмрочыў:
Ломіць розгі, б'е ён брата!

*1857 г.*

## УЛАДЗІСЛАВУ СЫРАКОМЛЮ

Тут, пад літоўскімі стрэхамі, слыне
Вестка аб бусле — жаданым суседзе.
Толькі зіма з краю гэтага схлыне,
Прыхадзень наш у нялюбай чужыне
Чуе: нявольнікам болей не ўседзіць.

Ледзь жыватворны праменьчык вясняны
Снег растапляць пачынае па сёлах,
Бусел, сардэчнай сумотаю гнаны,
Болей не хоча заморскіх бананаў
І на Літву адлятае вясёлы.

І ўжо ляціць да суседа-ратая,
Да сваёй нівы, роднае грушкі,
Дзе ён заўсёды гняздо укладае,
А на крыло яго ў лёце сядае
Дробная ластаўка — кволая птушка.

І цар прасторы вядзе з ветрам спрэчку —
Ён усвядоміў, як ёй нялёгка,
Туліць пяшчотна пад крыллем малечу
І над марамі нясе, над пустэчай
Да чарадзейнай радзімы далёкай.

Ох, не нацешыцца роднай зямлёю!
Хоць яшчэ холад навокал суровы,
Ластаўка й бусел кажуць абое
Сэрцу людскому, што пахне вясною,—
Шчыры літвін верыць іхняму слову.

З добрай душою прымаюць літвіны.
Птушкі будуюць супольны свой домік,
Каб жыць па сэрцы сям'ёю адзінай:

Бусел аснову кладзе, падваліны,
Ластаўка калівы носіць саломін.

А як не зрыне гнязда віхар весні,
Птушак не выжане ў шлях небяспечны,—
То яны людзям надзею ўваскрэсяць,
Душам іх вымаляць гарт сваёй песняй,
Плённага жніва ім нашчабечуць.

*1857 г.*

## НОВЫ ГОД

Па-над бязмежжу краіны
Зорка далёка ўзнікае,
Чэзнуць вякоў успаміны,
Мкнецца рака людская —
Зорка далей уцякае.

К зорцы той абаронцам
Сонца прастуе ў прасторы,
Мчыцца зямля за сонцам,
Човен услед па моры,
Ў чоўне вандроўнікі ў горы.

Мучыць душу і цела
Шлях, ды ідуць народы
За Габрыэлем смела.
Каб залагодзіць нягоды,
Бог даў анёла для згоды.

Юным плячам і волі
Простыя ўсе дарогі.
Сёння пакут даволі,
Заўтра адчай знямогі,
Зрэшты — вянок перамогі.

Позірк старэчы адрынуў
Бляск недасяжны, далёкі.
Ў райскія шаты ўспамінаў,
Чуючы марныя крокі,
Бегчы б ад памяці спёкі.

Час крэсліць кола за колам,
Мы абрастаем гадамі,
Рупімся з сэрцам вясёлым

З нашых слядоў шляхамі
К зорцы, што вечна над намі.

Будзь жа, наш год пражыты!
Слаўся, юнак імпэтны,—
Далі твае з блакіту!
Лаўрамі будзе сагрэты
Той, хто дасягне мэты!

*1870 г.*



Хочаш вялікае штосьці сатварыць,
Прыклад з прыроды вялікай бяры:
Ціха скалу час разбурыць у тло,
Каб на зямлі плённа жыта расло;
Ціха экватар разносіць цяплынь,
Каб улагодзіць полюса стынь;
Ціха ліецца ад сонца прамень,
Каб навакола жыццё было, дзень;
Ціха сусвет паўтарае ізноў
Круг ля крыніцы меры й гадоў —
Глянь на прыроду, рабі, як яна:
Думай, працуй і маўчы, як труна.

# ТАМІЛА

*Абразок з народнага жыцця*

**(выбраныя раздзелы)**

## I

Дзякаваць богу! Хоць клопат вярэдзіць,
Ды я ўсё ж вярнуўся да ніў прадзядоўскіх.
Вітай мяне, Нёман, стары мой суседзе!
Вітай жа мяне, прынямонская вёска!
Чужынай апёкшыся, зведаўшы беды,
Іду я спачыць пад страхою з саломы...
Нівы дабра! Ці ж мяне вам не ведаць?
Я прыяцель ваш, я ваш даўні знаёмы.
На лобе маім рала здоўжаных летаў
Барозны кладзе, як на вашых прасторах.
Вы ўжо не такія, і я не падлетак;
І мы толькі сэрцам пазнаемся скора.
І толькі у сэрцы, як з плоднага жніва
Ашчадна пакінуты колас на вёсны,
Застаўся ўспамін, што малюе мне жыва
І час маладосці, і родную вёску.
А з гэтага зерня ці вырасце збожжа?
Яно ж не красуе пад снегам скарэлым!
І што гэта робіцца, моцны мой божа?
Ці свет мо змяніўся? Ці я састарэлы?

## II

Свет не змяніўся. Сардэчная вёска
Ніву дабра засяваць не пакіне,
Зрошвае потам надзеі палоскі,
А зло не знікае, як з ветрам мякіна.
На панскіх абшарах ці ўласным загоне
Гнецца над плугам мужык гэтаксама,
Як некалі, босыя дзеці й сягоння

Сваволяць чародкай ля сельскае брамы.
А вось і вясковыя гутарацць сваты:
З парабкам дзед у сярмязе нядзельнай,
Ручнік павязаны — то ўмова прынята,
І злучыцца пара.
Заўтра вяселле.

Ад той жа бярозы, па той жа сцяжыне,
Да той жа гаючай крыніцы схаванай
Другая па воду збягае дзяўчына,
Спяваючы песню сваю аб каханым.
Тыя ж наводдаль з буслянкамі вербы,
Ды дзе жыхары іх? Прыблудам бяздомным,
Як мне, ім злавесна пазначыла неба
Ляцець, а куды і чаго — невядома.
І крыжык той самы, замшэлы, пахілы,
Вецер вянок на ім ссохлы хістае.
Божа мой, божа!
Хапіла б мне сілы
Дагледзець карціны роднага краю.
Хаткі ўсё тыя ж ліпяць на падпорах,
Аконцамі жальбы глядзяць на раздолле.
Паціху шарэе такі ж надвячорак,
І гэтак жа статак вяртаецца з поля.
На могілках тая ж рагатая хвоя,
Вісіць на ёй звон па-ранейшаму, бачна,
Ды ён ужо звоніць як быццам не тое,
І пацеры я прамаўляю іначай...
Гляджу і гляджу... Самотна мне, горка:
Равеснікаў многіх зямліца накрыла.
Здаецца, учора вялі мы гаворку,
А тут ужо свежы пясок на магіле.
Вечны пакой вам, былыя суседзі!
Са мной ваша думка, яна не завяла...
О маці мая! І ты нават ледзьве
Мяне пры звяртанні сягоння пазнала.

А мне тут знаёмыя постаці, твары,
Толькі імёны другія страчаю.
Тая ж тут радасць і п'яная мара,
Высокая беднасць і беднасць ў адчаі.
Тую ж тут сеюць надзею на ўдачу,
А жнуць, як і некалі, марнасць надзеі,
Як некалі, вёска спявае і плача:
Свет не змяніўся — а я дык старэю.
На небе пахмурным няма той вясёлкі,
Што сны малявала пад час мой прадвесні.
Над вухам павіс нейкі звон невясёлы:
Юнацтва маё адляцела за сёлы,
І праўда жыцця — нeспяваная песня...

## V

Схавалася сонца. А за папарам,
На самым ускрайку вясковых палеткаў,
Таміла стары, ну, як быццам пад лета,
У зрэбнай кашулі арэ яшчэ ўпарта,
Каня падганяе з адзінаю мэтай:
«Жвавей жа, Пярэсты, мой конік аддан!
Закончым араць, адпачынем абое,
Тады напаю ўжо крынічнай вадою
І сенам цябе накармлю я духмяным.
Кажу, як сцяне... Но! Каб з табою...
Хіба ты не бачыш? Сяўба ўжо на сходзе...
Дашчэнту звяла ўсё мне летась *завітка:*
Ды бог дасць, на той год зародзіць,
Хоць позні засеў, дачакаемся жытка».

Хто ведае, дзед! Думкі дзесь за гарамі,
А ласая смерць тут як тут, побач з намі.
Пара адпачыць, дзед, ад працы ахвотнай.
Вяртайся дадому — засядзь там за ежу,
Пярэстаму ў жолаб спажывы кінь свежай,

Бо хутка падыдзе паборца пад вокны
І гучна спытае, ці ёсць, што належыць.
А праўда, ці ёсць? Як помню я, колісь
Ты быў гаспадар у ваколіцы першы:
Хата, як шклянка, ў каморы даволі,
Стог на пругмені, валоў два найлепшых;
Глядзець было люба, як едзеш за вёску,
На фэст пад касцёл, што ў суседнім мястэчку;
Там, на алтары, з пчалінага воску
Гарэлі заўсёды дзве твае свечкі;
Двух меў сыноў ты, майго недзе ўзросту,
Ужо выглядалі на добрых аратых;
Шапталі на вёсцы, што ўсё вельмі проста,
Што ты чараўнік, а таму і багаты!
Цяпер, я дачуўся, не тое, што ўчора!
З унукамі беднасць прыйшла на астатак,
Расселася ў хаце і з'ела ўсё скора:
Гумно як падмецена, пуста ў каморы
І хлеба апошні ўжо бохан пачаты;
Сабака, і кот, і Пярэсты, вядома,—
Увесь твой набытак! Вяртайся дадому.

Паставіў саху на *смалакі* старэча,
Насунуў на вушы ён шапку з аўчыны,
Накінуў дзіравую світку на спіну,
З ражка пацягнуў тытунёвай гарчэчы,
Пажаліўся коніку скупа на долю,
Уздыхнуў і да вёскі падаўся паволі.

## VI

Нібыта дзяўчына ў сукенцы падранай,
Ужо цёмнай хусткаю вёска накрыта,
Стулілася, бедная, дзякуе ночы,
Што ўбоства нарэшце яе прыхавана,
Як быццам за гэта прад богам ёй брыдка!

Свіцяцца аконцы, як воўчыя вочы,
Чорнае вёскі, як лёс яе чорны,
У хатках прыгорбленых, цемрай засланых,
Нахіленых долу маўкліва, пакорна,
Як спіны сялян перад воблікам пана.
І думкі зацягвае цемра такая ж,
Людзей пазбаўляючы рысаў праўдзівых,—
Хоць простая голаў і носіць, бывае,
Задуму, што ўчынак святы спарадзіла б...
Ды хіба да ўчынкаў! Голад спрадвеку,
З якім тут цярпліва абвыкліся знацца,
І розум, і сілы, і цягу да працы —
Усё адбіраў пакрыху ў чалавеку.
Хто посціць сем пятніц на тыдні, дык тому
Можна драмаць з поўным правам, вядома,
Таму і не дзіва, што ціха наўкола,
Што ў гэтай труне хоць жыццё, але глуха,
Што ўчуў бы, напэўна, і крылцы анёла,
Калі б заляцеў ён на гэтую скруху!
Толькі стары бор за вёскай няшчаснай
Узорна вячэрнія пацеры шэпча,
Ды чутна, у вокны пастукаюць часам —
І голас Кандрата раздасца ў глушэчы.
Таміла пазнаў гэты голас пабораў
І заспяшаўся з канём на падворак.

## VIII

Конь у хляве ўжо, на месцы;
Кошка прыбегла, зачынены дзверы;
Паснулі, хто дзе, як забітыя, дзеці;
Таміла спакойна засеў за вячэру.
Хрыста не забыўшы, належным чынам,
Як маці навучала яго шчэ малога,
Перахрысціўся, шапнуў «хвала богу»
І *сёрбаць* пачаў ён без хлеба патроху

Пракіслае, клятае марна бацвінне.
Кошка, не маючы дрэнных прывычак
(Таму гаспадар да яе і зычлівы),
Сядзіць на каленях старога, мурлыча,
Цярпліва чакае чагось на спажыву...

Тут скрыпнулі весніцы — крокі Кандрата,
І голас пад вокны:
«Хай бог памагае!
Таміла, ну як, ці гатовая рата?»
«Няма!»
«Тады заўтра, як сонца зайграе,
У горадзе будзь ты».
«А з чым жа, Кандратка?»
«Жыта вязі ці сувой палатняны».
«Ой, каб знайсці, трэба ўстаць вельмі рана!»
«А можа, каня адвядзі на астатку
Ці ў двор падавайся, бо так загадана».

. . . . . . . . . . . . . . . .

## XII

У пана, як слухаў старога ласкава,
Нібыта сляза ў вачах засвяціла;
Ды, крыху падумаўшы потым над справай,
Сказаў ён:
«Няма, бачыш, рады, Таміла!
Сам ведаеш добра: табе даў насенне,
Голад ідзе, а клопат з ім тлумны,
І я мушу ўрэшце даваць пракармленне.
Ці ж бог мне, па-твойму, прыносіць у гумны?
Ці, можа, *нядобры* мне поўніць кішэню?
І ты, мне вядома, працуеш крывава,
Як вол у ярме, як не чуеш знямогу,
І бачу, не траціш налева, направа,

Ды цяжка змяніць, што назначана... богам.
Каня ты прадай — і заплаціш падатак,
І грош нейкі ў хаце за сена асядзе.
Зіму перакідайся — ўвесну дам *статак*,
А ўжо ж да вясны, калі будзе ўсё ў ладзе,
Хоць хлеба кавалак ашчадзіш на свята.
Такія загады мае напаследак».
«Паночак, але ж... імем боскае маці!
Зіма... гэты конік — маё ўсё багацце...
Прадаць — чым жа ў лес я па дровы паеду?
*Пакалеюць* жа дзеткі ў мароз на палацях!»
«Ну, не памерзнуць: у жылах у хлопа
Агню ёсць нямала. Гучкоў напрыносьце.
Бывайце здаровы. Гаворкі ўжо хопіць!»
І выгляд зрабіўся суровы у пана.
Затым заспяваў ён сумнае штосьці
І тут жа ў акно заўглядаўся старанна...

## XIII

Вярнуўся з маёнтка Таміла убогі,
Пярэстага дужа карцела пабачыць
І сенам яго пакарміць на дарогу
Чужую, як заўтрашні лёс іх бядачы.
І быў пры кані ён ля жолаба доўга,
Стаяў утрапёны, без думкі, без плачу...
«Ці ж гэта папраўдзе патрэбна ўсё богу?
Не нам дапытацца... Ой, бедны каняча!
Ты дзесяць гадоў адслужыў мне пачціва,
Каб трапіць пад старасць да новага пана
І косці пакласці на нечыей ніве...
Ох, долечка ж наша, адкуль ты наслана?
І пану пакрыўдзіць мяне нецікава,
І ў вёсцы шкадуюць усе маіх дзетак;
Здаецца, працую — з-пад рук уцякае...
Ды што тут чыніць, калі суджана гэтак.

Як тому дурному, здавалася мне шчэ:
Дробязь — завіткі, дробязь — знахарства,
Бог з мяне скіне гэтыя клешчы...
Праўду казаў ты, пракляты Архарца!»

## XV

Пеўні пяюць — будзе ранак займацца.
Сяло, дачакаўшыся вольнай нядзелі,
Мацуецца сном пасля цяжкае працы.
Таміла паціху сцягнуўся з пасцелі,
Перахрысціў сваю хату ад ліха:
«Спяць, дзякуй богу... хай спяць бесклапотна,
Хай добрыя сны ім убачацца потым».
І выйшаў за дзверы, ўздыхнуўшы, паціху.
Цішком да каня заспяшаўся з аброццю,
Цішком яго вывеў, агледзеўся сумна,
Цішком з ім пратупаў ля градаў, пры плоце,
Хату мінуў і пусціўся за гумны.
А ноч, а цямноцце, хоць выкалі вока,
Што страх і падумаць пад злую часіну.
Стары ледзь намацаў, ступіў на сцяжыну —
І здаўся на міласць канячага зроку,
І цуглі аслабіў: «Свайго не абмінем...»
Думка, што ў дзейнасць, як шашаль, утрэцца,—
Знявага вар'яцкая розуму й сэрца!

## XIX

Бліжэй і бліжэй да ліхое мясціны,
Што крок, то ўзмацняецца галас нядзельны;
Збягаюцца з розных бакоў пуцявіны,
Карчомкі часцей, а крыжы парадзелі.
На возе звычайным ці ў пышнай карэце
Едзе цівун, што пачаў ад'ядацца,
Ці пан аканом, што ніяк не ад'есца,

Ці добра-такі ўжо ад'еты пан радца.
І як тут не ўчэсціш паважнай фігуры?
Як шлях не саступіш? Паб'е і пратурыць!
Панок або крыжык — а люд утрапёны
Аднолькава нізка схіляе галовы
І адбівае пакорна паклоны
Прад панам сусвету і панам вясковым.
Кульгавы жабрак, пакалечаны ў працы,
На кій абапёршыся, моліцца сціха;
І шчодрасць адчуў нечакана пан радца,
І кінуў тры грошы, а люд стаў шаптацца:
«Глядзі, надарыў, быццам трасцу да ліха!
Каня паганяй!»

## XX

Але вось і горад.
Царква, з яе макаўкай зелена-свежай,
Касцёл вастраверхі упёрся ва ўзгорак,
Ля Нёмана, далей, Міндоўгава вежа,
Віціны на рэчцы, пры левабярэжжы.
Над берагам самым штосьці нібы мястэчка
Прысела, пускаючы з жэрла няспынна
І шум, і курадым нядзельнага ўздыму,
Як той рыбалоў, які вуду закінуў,
На кукішкі сеў, назірае за рэчкай,
І цягне цыбук свой, і пыхкае дымам.

## XXII

Уехаў Таміла, пад шум навакольны
Яго агарнуў неўсвядомлены пострах,
Хоць гоман любіў ён ажыўлены калісь
І ўмеў пашумець пры дзяўчатах і чарцы;
Цяпер жа ў натоўпе дух яго просты
Чамусьці міжвольна пачаў трапятацца.

Зайграла ў вушах яго жудасць абразы,
Агонь у вачах усхадзіўся кругамі,
Аж перахрысціўся ён, плюнуў тры разы:
«Няхай твая воля ды будзе над намі!
Ці то звар'яцеў я папраўдзе, мой божа?
Ці свет звар'яцеў? Ці ў сне гэта, можа?
Але гэта рынак: і вось даўні замак,
Вось хвалі калыша няўрымслівы Нёман,
А вось і плябаня, касцёлы таксама,
А галак тых колькі разносіць крык-гоман!..
Знаёмыя тут... як жа маешся, куме?
Прывёў я каня... ох, і памяць прапала...
Ступіў праз парог, мусіць, левай нагою
Ці стрэўся з Кірылам нядобрай парою...»
Нахлынуў натоўп на старога навалай,
Папхнуў, закружыў і панёс яго ў тлуме.
А тлум мнагафарбны, як хваля, іскрысты
Віруе, ліецца і пеніцца ў пырсках.

## XXIII

Нібыта арол аглядаючы горад,
На стромай гары стаіць замак разлеглы
З камення вялізнага, моцнае цэглы.
Няўважны да лёсу натоўпу, гаворак,
Смелыя плечы падставіў вышыням
Часоў спарахнелых сучаснік пануры.
Маршчыны стагоддзяў на ім як разоры,
Ды ён, пра мінуласць заняты ўспамінам,
Шчэ выклікі шле перунам і віхурам.

Нямала пражыў ён і бачыў нямала,
І памяць свая ім шануецца вельмі.
Племя гігантаў яго будавала,
За мілю братам перакідвала кельмы.
Мінулася тое — і волаты зніклі,

Здрабнелі эпохі, героі звяліся —
Пігмеі змянілі тых продкаў вялікіх.
Але ў жылах замка вякі нясуць мыслі!
Жыве ён мінуўшчынай, колішнім гартам,
На нашу таўпеч пазірае з пагардай.

«Мне сорам глядзець на драбноцце такое!
Такіх чалавечкаў, што бачу сягоння,
Раней чалавек мог з валамі й сахою
Трымаць, быццам муху, на ўзнятай далоні!
Вы дробныя пня-велікана расліны,
Вы духам нібыта мацнейшыя новым,
Ды дзе тая моцнасць, якую ўзнялі вы?
Гучнейшае слова — але толькі слова!
Мінуўшчына — гэта багацце палеткаў:
Сівое жыццё, што здранцвела санліва,
Завялыя думкі, адмерлыя леты
Данеслі ім вільгаць, цяпло і ўрадлівасць.
Але добрым плёнам зямля не задзівіць,
Калі не ўрабляць яе ў цяжкім мазолі;
А вы, на даўнейшай рассеўшыся ніве,
Прыемнымі слоўкамі полеце поле.
На вуснах ахвярнасць, любоў, чалавечнасць,
Асвечана ўзнятыя вамі прад светам;
На справе ж вакол эгаізм, бессардэчнасць
І мэты мізэрныя, буднія мэты!
Вялікія! Ціснеце меншых ганебна,
Няўжо на зямлі вам прасторы замала?
Ці зоркі, высока міргаючы ў небе,
Адным свецяць доўга, другім — нетрывала?
Плачуць адныя няўцешна слязамі,
Каб іншыя болей яшчэ весялелі;
Прагрэс аб'явілі — а гандаль той самы,
Які быў раней, у затую нядзелю.
Калі ж і далей гэтак пойдзе на свеце,
То я дачакаюся, так стацца можа,

Што вашых дзяцей падрабнелыя дзеці
Сваё пад гаршком малаціць будуць збожжа».

Тут вецер аднекуль нарваўся драпежны —
І ў думках замкнуўся няскораны замак;
Цагліны сыпнуліся з даўняе вежы,
Гмах плакаў каменнымі, здэцца, слязамі.

## XXIV

Ужо і на нешпар касцёлы ўсе звоняць;
Улёгся патроху гармідар страшэнны.
З канём, праціраючы вочы далоняй,
Таміла не ўстоіць, разведвае цэны.
Слухмяны Пярэсты, вазіў ён салому,
Цягаў яму сошку, і сена з балота,
І дзерава з лесу, не маючы стомы,
Не ўмеў наравіцца і еў не ў ахвоту,
Хадзіў непадкуты па слізкіх дарогах,
Калі ж прыціскала няшчасце старога,
Вёз труны і сына і жонкі ад дому.
Таму падалося Таміле старому,
Што золатам можна асыпаць такога.
Але памыляўся прасцяк паважаны:
Калі яго з конікам людзі абступяць,
Усякі ахвотна гаворыць насупраць,
Знаходзіць не вартасці — бачыць заганы,
Як соляй у вочы кідае няскупа.
Адзін разглядзеў,
што ступае конь бокам,
Другі, што худы ён і тонкі, як трэска,
А той неўзлюбіў, што не косіцца вокам,
*Вымысліваў* іншы, што чорная грыва,
А хтосьці пытаўся, чаго ён пярэсты,
Чаму ў яго леты яшчэ ён не сівы.
Ніхто не купляе — з ахвотаю бэсціць,

І сыплецца крыўда, як град густы з неба.
Ды тут цыганы заявіліся ўрэшце,
Пазналі, што дужы, што скача як трэба.
Кляліся сумленнем, аж білі ў галовы,
Сарвалі за старасць цану на астатку
І талераў выклалі дзеду дзесятку,
*Карончыкаў* тры далажылі гандлёвых,
А *з сябрам барыш* — папалам па закону.
Далі па руках і закончылі міла!
У рукі благія пайшоў добры конік,
Падаўся ў карчму наш пачцівы Таміла.

## XL

Ля самай дарогі, ў Рыгаравай хаце,
Вялікае свята і рух адмысловы,
Людзей, што мурашак, сабралася ўрэшце:
Жаніх і дружына, сватове і свацці.
«Хоць клікалі іх пасланцы каралёвы,
Яны зажадалі ўсё ж ехаць да цешчы».
А цешча даўмецца была ўжо гатова,
Што значылі гэтыя гучныя словы.
Накрылі на стол, не парушыўшы звычай,
Ашчаджаны продкамі ў розных нягодах,
Заселі за стол маладыя паволі,
Як ружы абое. Глядзяць з асалодай
На зграбныя постаці іх, на абліччы.
А зводдаль, на лавах, дзяды ў сваім коле
Ражкамі дымяць,
як на колішнім вечы,
Прыгадваюць даўнасць, гавораць пра долю.
Бабулі, ўздыхаючы ціха аб нечым,
Сядзяць у запечку, а дзеці — на печы.
А моладзь вясёлая гоцае ў сенях,
Прытупваюць хлопцы у танцы зухвала.
Скрыпач, пры ім *гудак* на кадзі заселі

І так уцінаюць старанна, прыўдала,
Што нават старыя тупочуць памалу...

Але цішыні сват агульнае просіць,
Прыгожыя словы да ўсіх прамаўляе —
І вось ужо бачаць прымоўклыя госці,
Як зняў ён сняжысты ручнік з каравая
І кроіць пачаў на кавалкі ўрачыста
Дзявочага ўмельства шэдэўр залацісты.
Дзяльба каравая вядзецца парадкам,
І кожны імкнецца паднесці дарунак:
Стары абяцае цяля ці ягнятка,
Кабета кладзе палатно ці пакунак,
Дзяўчына узорысты пояс даруе,
А хлопец прыносіць траячку-другую,
І кожны для пары зычлівіць, як можа,
У новым, супольным яе падарожжы.

## XLI

Як толькі складанне дарункаў спынілі,
Узняўся пaборца Кандрат і прамовіў:
«Браты дарагія, суседзі, кумоўе,
Яшчэ малады быў — па імю Таміла,
А жонкі ягонай Нядоля назоўе.
Дык вось раскажу. Ў маю сёння хату
Зайшоў адпачыць,
як па колішняй дружбе,
Паліца, што з Руты, што быў у салдатах,
Там страціў руку і вярнуўся са службы.
У горадзе ўчора ён бачыў Тамілу
І ведае добра,
што з ім учынілі.
Не мог дзед сплаціць ані раты пабору
І, гнаны на досвітку ўласнай галечай,
Паехаў з канём на кірмаш ён у горад.

Купілі каня цыганы аж пад вечар,
Пасля абакралі, як мелі на мэце.
Няварта й казаць пра агіду такую,
Бо кроў нашу піць усялякі мяркуе,—
І ўжо так вядзецца на ўсім белым свеце...»
. . . . . . . . . . . . . . . .

*1857 г.*

## З КАМЕНТАРЫЯЎ ДА ПАЭМЫ «ТАМІЛА»

Сумнае гэта становішча мастака, калі для праверкі вагі скарыстанага на статую металу ён вымушаны даваць сваім суддзям шлак, які выдзеліўся ў час адлівання. Не прысвойваючы сваёй кніжцы імя статуі, не патэнтуючы сябе на мастака, мы прызнаёмся, што апынуліся ў тым самым становішчы. Верш да В. Пшыбыльскага, які павінен быў адразу застацца на прыватных руках, але пазней дзеля высвятлення пазіцый аўтара ўвайшоў у кнігу замест прадмовы, мы напісалі ў час газетнай вайны наконт тэндэнцыі.

Сігнал да гэтай вайны першы падаў пан М. Г. Ён адмаўляў аповесцям Крашэўскага ў мастацкасці таму, што ў іх ёсць тэндэнцыя; іншыя падхапілі гэтую нібы новую думку і развілі яе да вельмі смешных крайнасцяў. Але пан Г., кіруючыся дэвізам *«навошта вам думаць, калі другія пра вас думаюць»,* быў, прынамсі, верны самому сабе. Інакш было з паслядоўнікамі. Развіваючы і каменціруючы яго погляды, яны не заўважылі, што фальшывяць перад уласным вызнаннем веры. Праца наша наскрозь прасякнута тэндэнцыяй, і, каб пазбегнуць ганьбавання за грэх, які мы не лічым грахом, неабходна апраўдацца перад чытачом. Мы паўтараем, што сумная гэта для нас задача.

Што такое тэндэнцыя? Увогуле гэта імкненне да праўды, у тым ці іншым кірунку, гэта цэнтр, асноўная думка, душа твора. Як цела без душы толькі груда зямлі, так і мастацкі твор без тэндэнцыі, без асноўнай мэтанакіраванай думкі, усяго мёртвы зле-

пак, фарфоравая статуэтка з ярка намаляванымі шчокамі. Ад «Іліяды» да «Валенрода», ад «Страчанага раю» да «Мёртвых душ», ад Фідыевага «Юпітэра» да «Узнясення Хрыста», ад «Рэквіема» Моцарта да «Паланеза» Агінскага — усе творы маюць сваю тэндэнцыю, хоць не кожны зможа яе ўбачыць.

Гэтая тэндэнцыя звяртаецца да пачуццяў, каб схіляць да прасякнення *Праўдай жыцця*, якая разбеглася на тысячы праменьчыкаў, пульсуе ў рэчаіснасці жыва, хоць і прыхавана. Сабраная ў адзін фокус творам мастацтва, яна бачна як на далоні. Таму няхай што хочуць гавораць пра мастака, творчасць яго — гэта лінза, што канцэнтруе промні думак сучаснага яму свету: геніяльнасць — гэта чысціня і збіральная моц лінзы; арыгінальнасць — гэта колер шкла, з якога яна зроблена, колер, які больш-менш добра або дрэнна фарбуе белыя думкі народа; папулярнасць — гэта вынік яднання мастака са сваім народам, вынік думання яго думамі, адчування яго адчуваннямі. Як паводле Гамера ўведваем старажытны свет, паводле Арыёста — рыцарства, паводле Беранжэ — Францыю, паводле «Тадэвуша» — мінулае літоўскай шляхты, так у аповесцях Крашэўскага бачым сучасную Польшчу, і гэта дзякуючы тэндэнцыі, непрыемнай для пэўных асоб, але любай для шырокіх колаў.

Радавод тэндэнцыі вельмі просты: мінулае народа і яго сучасную дзейнасць мастак параўноўвае з думкай таго ж народа, памкнёнай у будучыню, і розніцу паміж імі адлюстроўвае ў сваёй працы як у люстэрку. Мастак, канцэнтруючы ў сабе думку калектыву, шырокіх колаў пра будучыню, у імя гэтай будучыні дамагаецца грамадскай рэформы там, дзе, на яго погляд, пэўныя асобы шкодзяць (так сказаць) справе будучыні; дзеля дасягнення сваёй высакароднай мэты ён мае права карыстацца ўсімі

сродкамі, без іх карыкатуравання, каб выклікаць сімпатыі або непрыязнасць. Высакародная мэта — праўдзівая, а што праўдзівае, тое прыгожае ў мастацкім сэнсе, гэта значыць, можа быць прадметам мастацтва. Так разумеючы задачы мастацтва, мы ні ў якім разе не падпарадкуем яго маральнасці, бо маральнасць у звычайным яе значэнні абапіраецца, як вядома, на пачуцці і звычаі, якія самі маюць патрэбу ў падначаленні розуму. Мы сцвярджаем толькі, што мастацтва павінна кіравацца праўдай, павінна змагацца за справу *вечна жывой праўды*, бо ў процілеглым выпадку, як з'ява без мэты ці з часовай мэтай, яно зробіцца абыякавым для грамадства. Гэта пацвярджаецца гісторыяй усёй псеўдакласічнай літаратуры і мноствам вершаў, напісаных з выпадку. Барацьба мастацтва за праўду не зганьбіць яго — наадварот, праслед за праўду ўвысакародзіць яго! Адсюль ужо натуральна вынікае, што мы не можам зміріцца з шырока распаўсюджанай формулай «мастацтва для мастацтва». Толькі забаўкі мы робім, каб імі забаўляцца, а твор мастацтва дзеля таго, каб уздзейнічала думка, заключаная ў ім. Мастацкі твор складаецца з двух элементаў: са знешняга адзення вобраза, а таксама з унутранага зместу, з думкі, якая дзеліцца на дзве састаўныя часткі — на свядомае ўспрыняцце праўды або розум і несвядомае або пачуццё. Розум і пачуццё ў творы мастацтва з'яўляюцца неаспрэчнай уласнасцю духу грамадства. Ці ж можна сказаць, што твор мастацтва, які не мае праяў уласнай волі, зроблены на аснове праўды, праяўленай у глыбіні людскога духу, і, будучы адзеннем думкі чалавека, не з'яўляецца яго ўласнасцю, а належыць сам сабе? Твор мастацтва ёсць увасабленне думкі-ўтваральніцы, заклікanай да дзейнасці свабоднай воляю чалавека,— а праз гэта і неаспрэчная ўласнасць яго-

нага духу. А калі належыць духу, то належыць усім яго састаўным і непадзельным часткам — таму належыць і сумленню. А сумленне — гэта ўжо толькі неўвасобленая тэндэнцыя. Адсюль вось і ўзнікае неабходнасць тэндэнцыі. Пан Г., які ахайвае тэндэнцыю, высмактаную з духу народа, у той самы час мае сваю пабочную, якую мы ведаем як лысага каня; паслядоўнікі пана Г., што таксама ахайваюць тэндэнцыю, заклікаюць да *святла* ў вобразе — змена назвы рэчаў не мяняе.

Іншая справа — умелае ці няўдалае выяўленне тэндэнцыі. Калі мастак, хочучы ўзняць нашы пачуцці любоўю да прыгожага, намалюе нам жабу, то хоць ён залатымі літарамі падпіша, што гэта харасство, ніхто гэтаму не паверыць; калі, хочучы зняславіць распусту, пакажа яе так, каб паказытаць нервы, задума яго не будзе дасягнута; калі, малюючы прыроду, зробіць, як Альдона, лісце вышые ў чырвона, а кветкі ў зялёна, то твор будзе таксама няўдалы, таму што тут віна не тэндэнцыі, а яе выяўлення. Кожная думка павінна быць у самай поўнай гармоніі з выказваннем — і гэта называецца мастацкасцю твора. Пад гэтым кутом гледжання мы не можам апраўдваць сваёй кніжкі: самі ведаем многія яе недахопы. У адным толькі нам хацелася б апраўдацца — у выяўленні некаторых думак не з дапамогай вобразаў, а проста праз апавяданне. Дзве прычыны схілілі нас да гэтага: першая, што становішча нашага селяніна робіць яго не прыдатным да маральна свабоднай дзейнасці ў грамадстве; другая, што пэўныя грамадскія думкі выяўляюцца толькі ў цэлым шэрагу пакаленняў, а не ў асобным чалавеку...

Аднак не сам погляд на «Тамілу» вымусіў нас да высвятлення гэтага прадмета. Польская паэзія, вырваная нашымі вялікімі песнярамі з абдымкаў га-

ласлоўнай класічнай *рыфматворчасці*, у апошні час ізноў пачынае лічыцца забаўкай. Нават людзі з незвычайным талентам, калі даходзіць да пісання вершаў, здаецца, уцякаюць ад мыслення. Іх творы нібы тыя жанравыя карцінкі, дзе ў адной кучы з усім багаццем каларыту і фантазіі намаляваны пучок пятрушкі, галоўка капусты, бохан хлеба, заяц, курапатка, кумпяк і язык — падсуньея толькі і апляртай, але не болей. Цяперашняя вайна супраць тэндэнцыі хоча асвятліць тэорыяй такі погляд на мастацтва. Не прымаючы гэта, мы адчувалі сябе абавязанымі выказаць прычыны, чаму не прымаем.

Гаворачы пра «Тамілу», мы назвалі некалькі шэдэўраў мастацтва; нельга думаць, што мы параўноўваем з імі сваю кніжачку: няма патрэбы гаварыць, што такая думка была б вельмі смешнай. Назвалі мы іх таму, што і ў акіяне і ў кроплі расы сонечныя промні праламляюцца паводле аднаго закону, але не абавязкова, каб кропелька расы была акіянам. На гэтым канчаем нашу доўгую споведзь, якая, здавалася нам, была патрэбна для паразумення з чытачом і за якую найсардэчней просім у яго прабачэння.

* * *

Песні і казкі народа — гэта вобраз яго сэрца і фантазіі, паданні і прымаўкі — гэта яго гісторыя і філасофія. Толькі яны з усёй шчырасцю могуць намаляваць нам разумовы стан народа; не даследаваўшы іх і не прасякнуўшыся імі, не варта выказваць пра яго. Прыхільнікі старога і новага парадку рэчаў не раз бралі народ за канву, на якой вышывалі сваімі колерамі свае ўласныя памкненні. Былі адны, што, хочучы апраўдаць узурпацыю праў чалавека, а па сутнасці ганьбуючы самі сябе, ад-

маўлялі народу ў вялікіх пачуццях і розуме; былі другія, што прыпісвалі яму сімпатыі, вартыя апрабы з крышталю ці чырвонага дрэва. Адсюль недавер да іх выказванняў. Імкнучыся пазбегнуць гэтага, вывелі мы на сцэну народ такім, які ёсць, і прымусілі яго прамаўляць аб самім сабе ўласнымі песенькамі, прымаўкамі і выслоўямі. Добры і злы бок знайшлі месца побач: добры, каб быць зведаным; злы, каб знайсці і знішчыць яго вытокі. Не палохалі нас ані сумніцельная калісьці маральнасць гэтых выслоўяў, ані відочна прапагандаваныя забабоны, бо мы не ставім мэты пісаць маральнай аповесці для дзяцей... Урэшце, народ наш усяму гэтаму верыць рэлігійна. Навука Хрыста зрабіла на яго толькі фармальны ўплыў: селянін нізашто не сядзе за стол, не вымавіўшы пацеры, але вымаўленых пацераў не разумее.

* * *

Не надта адхіляючыся ад прадмета гаворкі, мы шчыра выказваем пачуцці шкадавання аб тым, што на Літве занядбана народная літаратура. Калі ў іншых правінцыях даўнейшай Польшчы народная літаратура мела і мае такіх працаўнікоў, як Вуйціцкі, Максімовіч, Вацлаў з Алеска, Жагота Паўлі, Кольберг і іншыя, то ў нас, за выключэннем Хадакоўскага, які даследаваў песні і паданні толькі пад гістарычным кутом, за выключэннем аўтара «Казачніка», які паданні і казкі запісваў па ўласнай памяці, а не з вуснаў народа, а таксама некалькіх імён, пасля якіх засталося не шмат урыўкавых накідаў,— на ўсёй прасторы літоўскай Русі, ад Дзвіны да Прыпяці і ад вытокаў Дняпра да Буга, Літва дала толькі двух працаўнікоў на гэтым полі — Яна Чачота і Рамуальда Зянькевіча, але апошні абмежаваўся

адной Піншчынай. Натуральная з'ява, што гэтыя сумленныя працаўнікі не маглі зрабіць нават дзесятай часткі таго, што патрэбна зрабіць, і паслядоўнікаў яны не маюць. А гэтая ж непісьмовая літаратура — самая істотная падтрымка адроджанай народнай паэзіі, вобраз разумовага жыцця мільёнаў! Сумна падумаць, як поўныя прывабнасці, пачуцця і непадробнай маляўнічасці песенькі губляюць натуральнасць і знікаюць штодзень, ці то ў выніку *недахопу спрыяльнай для спеваў хвіліны*, ці то пад уплывам чужых, прыцягальных навізною вялікарасійскіх песень, якія рассейвае раскватараванае тут войска. Мы не ведаем, чаму ўладальнікі вёсак, прынамсі, тыя з іх, хто неабыякавы да каштоўнасцяў айчыннага пісьменства, чаму яны не маглі б у сваіх вёсках збіраць гэтыя песенькі і паданні, маючы вялікія на тое сродкі? Запісаныя па частках і складзеныя ў цэлае чалавекам, які мае ўяўленне аб прадмеце, яны давалі б багаты матэрыял для паэта, гісторыка, філосафа — і, хто ведае, можа, многія пазнаёміліся б бліжэй з народам, аб якім вядома мала болей за тое, што ён *«на нас»* працаваць павінен.

*1857 г.*

# НЕКАЛЬКІ ПАДРАБЯЗНАСЦЯЎ ПРА СЯМ'Ю, МЕСЦА НАРАДЖЭННЯ І МАЛАДОСЦЬ АДАМА МІЦКЕВІЧА

Сем элінскіх гарадоў вялі спрэчку за гонар лічыцца месцам нараджэння Гамера, хоць ён пры жыцці ні ў адным з іх не меў прытулку. Нешта падобнае здарылася і з нашым Міцкевічам. Усе даўнейшыя ўспаміны аб ім, а таксама апошні, напісаны А. Ходзькам для «Dictionnaire général de biographie, d'histoire», месцам нараджэння Адама вызначаюць Наваградак. К. Вуйціцкі ў жыццёпісе, далучаным да Мэрцбахаўскага выдання твораў Міцкевіча, а таксама ў дадатку да «Часу», апіраючыся на пісьмо Ул. Сыракомлі да Хэнцінскага, вызначае *Асавец.* Іншыя ж, а сярод іх і я ў артыкуле пра Наваградак, падхапіўшы мясцовую звестку, падаюць *Завоссе.* Дык дзякуй богу, што хоць не сем, а тры месцы нараджэння адной асобы, бо з часам, можна спадзявацца, дабралі б і да сямі.

Але, здаецца, мы так далёка не пойдзем. Асавец і Завоссе гэты гонар прысвойваюць сабе на аснове простага вуснага падання, якое заўсёды з'яўляецца вартым увагі, аднак павінна адступіць перад больш важкімі довадамі. Ды ні Завоссе, ні Асавец такіх довадаў не маюць.

З сямейных дакументаў, ласкава паказаных мне стрыечнымі сёстрамі Адама, відаць, што Асавец ніколі не быў уласнасцю Міцкевічаў і што паданне памылкова прычынілася да яго. Ва ўсіх паперах Міцкевічаў і Стыпулкоўскіх, якія былі перада мной, няма ніякіх упамінкаў пра спадчыну гэтага маёнтка. Інакш выглядае справа з Завоссем, хоць і тут, як хутка ўбачым, паданне таксама памылілася. Для

канчатковага высвятлення справы я вымушаны крыху сягнуць у мінулае і закрануць радавод Міцкевічаў, што мне чытач ахвотней прабачыць, калі возьме пад увагу, што нашы старыя генеалагісты, не прадбачачы будучага з'яўлення вялікага чалавека і не маючы чаго ахвяраваць на карысць езуітаў, ледзь упаміналі пра гэты дом Пораяў *.

Стрыйкоўскі паказвае на княскае паходжанне сям'і Міцкевічаў, а Мікуцкі нядаўна вывеў яе прозвішча ад нейкага рускага імя. Усё гэта можа быць, але пад архівялікай няпэўнасцю, прынамсі, для мяне. Са слоў Стрыйкоўскага з поўным праўдападабенствам можна ўзяць адно толькі тое, што Міцкевічы ў яго час, або незадоўга да таго, павінны былі адчуваць сябе добра і ўзвышацца над натоўпам. Мы не ведаем, якім чынам гэтая сям'я прыйшла была да ўбоства, але з уласнаручнага дакумента бацькі Адама відаць, што першы прыгаданы ў тых паперах Ян Міцкевіч, прадзед паэта, меў «мізэрную маёмасць», і то толькі рухомую. Пасля яго смерці засталася ўдава Мар'яна з Лешчылоўскіх з пяццю сынамі: Якубам, Адамам, Юзафам, Стэфанам і Базылём. Двое з іх, Адам і Стэфан, «будучы здольнымі да земляробства», разам з маткаю трымалі спачатку арэнду, а пасля правам закладу, «без мужыка і парабка», фальварак Гарбатавічы (у Наваградскім павеце за дзве вярсты ад Варончы); а трое «ў раннім юнацтве, бедна апранутыя падаліся на службу». Ім шанцавала на працу і сумленных

* Бабровіч у выданні Нясецкага далучыў Адама да іншых Міцкевічаў герба Налэнч; але гэта адна з вельмі многіх наўмысных і ненаўмысных памылак выдаўца, як, між іншым, мы бачым з жартаўлівых слоў самога паэта:

«Порай — княскі герб, фон залаты і мітра,
Так Стрыйкоўскі піша густа»,— Міцкевіч крыкнуў.
(«Пан Тадэвуш»)

людзей: за клапатліва сабраныя грошы Міцкевічы набылі ў 1770 годзе фальварак на вечнае карыстанне пад залог у 1000 злотых, і да сённяшняга дня ён застаецца ўласнасцю іх нашчадкаў. Да таго ж яны сабралі значныя капіталікі. Якуб, родны дзед паэта, хоць і непісьменны, павінен быў мець не абы-якія душэўныя і разумовыя вартасці, калі змог заваяваць каханне і руку заможнай панны Тадоры Пянкальскай, якая прынесла яму ў дом 4000 злотых пасагу і, акрамя таго, каштоўнасці, сярод якіх былі і пярсцёнак з сямю дыяментамі, і бранзалетка, пранізананая рубінавымі перламі, і сталовае срэбра.

Сынам Якуба быў Мікалай, бацька паэта, які нарадзіўся ў 1765 годзе. «Выгадна ажаніўшыся і маючы такі маёнтак, што жыццё праходзіла ў дастатку», бацька Мікалая меў магчымасць забяспечыць патрэбы ў выхаванні сына, але смерць над распачатай справай закрыла клапатлівыя вочы бацькоў — першай маці, а пазней, у 1773 годзе, і бацькі.

Пасланы на вучобу ў Наваградак, Мікалай распачаў яе ў езуітаў. Пасля закрыцця іх ордэна ён скончыў навуку ў дамініканаў пад апекаю аднаго з дзядзькоў. Стажыраваўся Мікалай таксама ў Наваградку і стаў нарэшце адвакатам. Дагэтуль жыве шаноўная старэнькая Кацярына Гафовічава, вусная хроніка даўнейшых часоў Наваградка, у бацькоў якой некаторы час кватараваў Мікалай. Калі б мы не мелі ніякіх іншых сведчанняў, дастаткова было б ведаць аб прызванні бацькі нашага паэта, каб загадно паведаміць, што ён павінен быў жыць у горадзе пад бокам судовых палат, а не за некалькі міль. Бо што там было б рабіць са сваёй адвакацкай кваліфікацыяй? Як бачым са службовых актаў, дзе запісваліся нададзеныя яму грамадзянамі паў-

намоцтвы, ён дзейсна веў справы ў наваградскіх судах.

У той час Завоссе — Калдычэва (у Наваградскім павеце Сталавіцкай парафіі) належала двум братам — Міхалу і Юзафу Яновічам, спадчынным уладальнікам трох валок зямлі і адной сялянскай хаты. Суцяжнікі і звадыяшы, напэўна, павінны былі шумець па-юнацку, бо абодва былі павінны Міцкевічам, дзядзькам Мікалая, і, не аддаючы ні грошай, ні працэнтаў, судзіліся з імі *. Нарэшце Міцкевічы правам і сілаю выйгралі ў 1784 і 1785 гадах, а потым адзін з іх — Базыль — перадаў у 1787 годзе свайму брату Юзафу правы ўладання адабраным у Яновічаў фальваркам. Гэтаму апошняму Завоссе належала ажно да самай смерці, якая надышла 21 лютага 1798 года. Пасля смерці брата Завоссе адышло да Базыля, які трымаў яго да *5 мая 1799 года*, пакуль не перанёсся ў вечнасць.

Пасля смерці бяздзетнага Базыля Міцкевіча на

* Цікавы гэта, хоць не новы прыклад судовага разбору, калі «трыбунал пісаў дэкрэт, а шляхта выконвала». Юзаф Яновіч быў павінен Юзафу Міцкевічу 902 злотыя; калі, пакліканы ў суд, ён не з'явіўся, бясспрэчным дэкрэтам яму быў вынесены прысуд заплаціць капіталу, працэнтаў і судовых выдаткаў разам 1435 злотых. Здавалася б, што на гэтым павінна было б скончыцца. Але дзе там! Да заканчэння патрэбна было яшчэ шэсць рэмісійных і бясспрэчных дэкрэтаў, якія перамяжаліся трыма міравымі, у выніку чаго сума паступова ўзрастала да 1857, 2527, 3303 злотых. Усё гэта было пустым гукам, пакуль Міцкевіч, атрымаўшы раз адпор і папаўшы паўторна, напралом не адабраў паловы Завосся ў 1784 г. Брат Юзафа Міхал Яновіч, уражаны такім хуткім выкананнем судовага рашэння, не мог нічога іншага зрабіць, як аддаць Міцкевічу другую палову Завосся пад заклад у 1785 г. Працэс, аднак, цягнуўся 40 гадоў з нечым і ледзь закончыўся ў першых гадах бягучага стагоддзя ў карысць Міцкевічаў. Зусім як у песні Адама: «Цягнуўся працэс, аж выйгралі ў сёмым калене».

Завоссе атрымалі права яго браты і іх дзеці, значыць, і бацька Адама. Было гэта вельмі на руку Мікалаю, бо, пабраўшыся з небагатай паннай Барбарай Маеўскай, ён меў з ёю ўжо двух сыноў, а на ўсе патрэбы вымушаны быў зарабляць. Узгадніўшы са сваякамі, узяў ён на сябе кіраўніцтва ўсім фальваркам у верасні 1799 года і трымаў яго бадай два гады.

Як толькі прайшоў гэты час гаспадарання, якое пры нявопытнасці вялося, відаць, няўдала, тым больш што мінтрэжыла адвакацкая практыка, Міцкевіч спачатку, у 1801 годзе, пусціў Завоссе ў арэнду, а затым, у 1806 годзе, аддаў яго цалкам Вінцэнту Стыпулкоўскаму, мужу сваёй роднай сястры Барбары, у сям'і якіх яно засталося да канца трэцяга дзесятка бягучага стагоддзя, а пасля перайшло ва ўласнасць казны.

Якраз у той час, г. зн. каля 1806 года, за ўзятыя, як мне здаецца, ад Стыпулкоўскага і з падзелу спадчыны ў Гарбатавічах грошы Мікалай набыў мураваны дом у Наваградку і паднавіў яго. Дом гэты стаіць недалёка ад даўнейшай езуіцкай калегіі, на левым баку завулка, што вядзе да Траецкай вуліцы. Атрымаў яго ў спадчыну ад нейкага Філіповіча наваградскі бургамістр Фёдар Тычына, які прыкупіў яшчэ і пляц побач. Дом, верагодна, быў змураваны або пры Тычыне, або пры папярэдніку. Бо ў закладной на гэты дом, выдадзенай Тычынам у 1668 годзе Чаховічу, чытаем, што тыя пляцы пераходзяць пад заклад за 2000 тагачасных злотых «з вялікай забудовай, драўлянай і мураванай». Ад Чаховіча, таксама пад заклад, у 1673 годзе дом забраў Ул. Вольскі, гродзенскі і наваградскі пісар, а пасля, у 1675 годзе, за даплату ў 400 злотых Тычыну «пляц з часткай мураванага будынку» застаўся Вольскаму на вечнае карыстанне. З таго часу дом

заўсёды належаў сям'і Вольскіх, і яшчэ ў 1780 і 1781 гадах знаходзім выразныя ўпамінанні ў іх дакументах пра «камяніцу». На гэтым канчаюцца звесткі, якія мог я пачэрпнуць з папер, ласкава паказаных мне сённяшнім уладальнікам дома. Навейшыя аўтэнтычныя дакументы павінны знаходзіцца ў іншых руках. У актах адшукаць іх не ўдалося, і таму невядома нават, калі гэты пляц і забудова былі набыты Міцкевічам. Адно толькі напэўна: паданне, распаўсюджанае ў Наваградку аб нараджэнні Адама ў гэтым доме, зусім памылковае. Яго рашуча абвяргаюць рахункі Мікалая Міцкевіча са Стыпулкоўскім: з іх відаць, што ў *верасні 1798 года*, за тры месяцы да нараджэння Адама, Міцкевіч браў у швагра грошы «на задатак для Антона Камінскага, з якім заключаў кантракт на кватэру», а праз некалькі дзён «пазычыў грошы, каб заплаціць Дабравольскай за кватэру, у якой жыў». Несумненна, Адам павінен быў нарадзіцца ў доме Камінскага. Але дзе той дом і чый ён цяпер — пра гэта я не мог даведацца: хіба што з часам роспыты на месцы нешта памогуць высветліць, каб нам не было сорамна, што толькі ў Германіі можа прайсці па шматлікіх выданнях такая памятка, як выява доміка Шылера. Што б там ні было, дом Міцкевічаў не застанецца для нас абыякавы ад таго, што не ў ім нарадзіўся пясняр: тут пастарэлі і памерлі яго шаноўныя бацькі, тут ён сам з братамі жыў да 16 год, увесь той час, калі душа, як вясенняя кветка, убірае ў сябе акаляючую атмасферу дабра ці зла, каб дыхаць ёю ўсё жыццё. Святая там была атмасфера, і сцэны гэтага дома павінны павяваць на на нас ёю. Камянічка гэтая належала сынам яе набыўцы недзе да 1832 года, пасля, перайшоўшы ва ўласнасць казны, была перададзена ў 1837 годзе цяперашняму яе ўладальніку Юліяну Біёлту.

Калі мы цяпер прыгадаем, што Мікалай Міцкевіч як адвакат па прызванню не мог жыць у Завоссі, за сем вёрст ад судовых палат, што Завоссе яшчэ некалькі месяцаў пасля нараджэння Адама належала камусьці іншаму, што ў той час бацька паэта пазычаў грошы ў швагра, каб заплаціць за старую і наняць новую кватэру, і калі да гэтага дадамо, што ў той жа час Стыпулкоўскі дастаўляў Міцкевічу ў Наваградак свініну і да таго падобнае, як відаць з рэестраў, змест якіх ад верасня 1799 года, г. зн. ад пераезду Міцкевічаў у Завоссе, становіцца поўнасцю гаспадарчым (тычыцца валоў, лыка, зямлі на засеў і г. д.),— то мы павінны рашуча адмовіць Завоссю і аддаць Наваградку права гонару за нараджэнне на свет Міцкевіча. Бо слушная мясцовая традыцыя і болей дакладныя за яе касцельныя кнігі вельмі адзінадушна гэта сцвярджаюць.

У Наваградку ў 1796 годзе ў Мікалая Міцкевіча, як сведчыць метрыка наваградскага касцёла пад № 133, нарадзіўся першы сын Францішак-Браніслаў. У Наваградку з'явіўся на свет малодшы брат Адама Юліян-Аляксандр — у 1801 годзе (№ метрыкі ў кнізе 21). Тамсама ў 1804 годзе — Казімір-Ежы (№ метрыкі 193). Тамсама ў 1805 годзе — астатні, Міхал-Антон, які памёр яшчэ немаўлём. У Наваградку *16 мая 1812 года* ў 47 гадоў памёр бацька Адама. Пахаваны ён на бернардынскім цвінтары (№ у кнізе 476). Тамсама 9 кастрычніка 1820 года перанеслася ў вечнасць маці паэта. Пахавана яна побач з мужам (№ у кнізе 647). Дастаткова было б таго, што я прывёў, каб прызнаць надзвычай слушнымі прэтэнзіі Наваградка. Але вось яшчэ даставерная выпіска хроснай метрыкі самога Адама з кніг парафіяльнага касцёла (кніга з 1799 г., № 315).

«Года божага 1799 месяца лютага 12 дня. Правялебны ксёндз Антоні Постлет, канонік курлянд-

скі, ахрысціў немаўля імёнамі *Адам-Бярнард*, сына народжанага Мікалая Міцкевіча, каморніка мінскага, адваката наваградскага, і Барбары Маеўскай, высакародных мужа і жонкі. Кумамі былі яснавяльможны Бярнард Абуховіч, земскі суддзя мазырскі, з народжанай Анэляю Узлоўскай, жонкаю пагранічнага суддзі Наваградскага павета». Значыць, лічыць вырашаным прызнанне за Наваградкам таго, што яму належыць па праву: ён родны горад вялікага песняра, а прэтэнзіі Завосся і Асаўца спыніць назаўсёды. Мо занадта многа я пра гэта гавару, але памылка настолькі вялікая, што патрэбна сіла слоў дзеля абвяржэння яе адной.

Са сціплай кніжачкі гісторыі Завосся ўсё-такі нельга выдзіраць самую каштоўную старонку з імем Адама Міцкевіча. У гэтым маленькім шляхецкім дворыку старажытнай структуры, цяпер зморшчаным і пахіленым да зямлі, пясняр у юнацтве правёў амаль усе канікулы ў сваёй цёткі. У гэтым пакойчыку над свірнам ён заўсёды з ахвотаю сядзеў і ўглядаўся ў цудоўныя ваколіцы засценка, «збіраючы фарбы для вобразаў», якія ў будучым з любоўю, як ніхто іншы, меўся намаляваць. З гэтых аконцаў цудоўна глядзіцца згаданая ім Жарновая гара, самая высокая ва ўсёй ваколіцы, якая па форме сваёй дзіўна нагадвае велізарныя млынавыя жорны. Тут сцены і шыбы акон былі пазапісваны яго дзіцячай рукой. Але дворык перайшоў у іншыя рукі. Сям'я рассыпалася па свеце, вецер паразбіваў шыбы, і дзіркі пазаклейвалі паперамі, шпалеры са сцен паападалі і ператварыліся ў смецце. Акрамя намаляваных на ўнутраных сценах залы рукой падлетка Адама касцёлікаў, ашчаджаных часам і непагаддзю, засталіся яшчэ толькі горкія ўспаміны ў сэрцах самых блізкіх.

За вярсту да Завосся ў спадчынным фальварку

Стыпулкоўскіх Белай жывуць дзве дзядзькавыя сястры паэта, ветлівасці якіх і прыязнаму пасрэдніцтву п. В. Клімовіча абавязана ўсё тое, што я мог паведаміць пра Завоссе і сваякоў Мікалая Міцкевіча. Аднак рукапісаў Адама, менавіта са школьнага і універсітэцкага часу, у іх не знайшлося ніякіх. Паважаныя матроны гаварылі, што папер было нават многа, але як схавалі іх, то і самі пасля не маглі адшукаць. Абяцалі ўсё-такі прыкласці намаганні, каб знайсці гэтыя рукапісы. Можа, калі і ўбачым іх.

У ваколіцы Завосся жывуць яшчэ некаторыя школьныя калегі Адама Міцкевіча, ды і ва ўсім Наваградскім павеце не аднаго з іх можна яшчэ знайсці. Але ці мы ў нешчаслівую хвілю з некаторымі сустрэліся, ці, можа, час юнацтва незваротна вылецеў як з іх памяці, так і з сучаснасці, бо на гэтай дарозе амаль нічога дагэтуль сабраць не ўдалося. Пакуль пры спачуванні людзей, добразычлівых да мяне і краёвай славы, я збяру пра юначыя гады Адама ўсё, што ўдасца знайсці (гэты абавязак ляжыць на нас, наваградчанах), падам тут, што ёсць у мяне для будучага біёграфа: праўдзівыя дэталі, якія ўзяты са школьных кніг, што захоўваюцца цяпер у архіве наваградскай гімназіі.

З бацькоўскага дома і «за кошт бацькоў» 13 верасня 1807 года быў прыняты Адам Міцкевіч у першы клас павятовай наваградскай школы, якою кіравалі тады мясцовыя ксяндзы дамінікане ў сваім кляштары. Думкі настаўнікаў аб поспехах вучня выпісваю цалкам:

Год 1807, снежань 21 дня. Клас першы.

Узрост 8 год. Здароўе добрае. Стараннасці добрай. У латыні добры. У арыфметыцы добры. У маральнай (навуцы) добры. У чыстапісанні пасрэдны. Паводзіны добрыя.

Год 1808, студзень 19 дня. Клас першы.

Узрост 10 год (так напісана). Здароўя добрага. Стараннасці добрай. У латыні добры. У арыфметыцы пасрэдны. У маральнай добры. У чыстапісанні пасрэдны. Паводзіны добрыя.

Год 1809, студзень 2 дня. Клас другі.

Узрост 11 год. Здароўя слабога. Стараннасці вялікай. У латыні добры. У маральнай добры. У чыстапісанні пасрэдны.

У паводзінах ураўнаважаны.

Год 1809, чэрвень 29 дня. Клас другі.

Узрост 11 год. Здароўе здавальняючае. Стараннасць вялікая. У латыні добры. У арыфметыцы добры. У чыстапісанні пасрэдны. У паводзінах ураўнаважаны.

Год 1809, снежань 20 дня. Клас трэці.

Узрост 12 год. Здароўе здавальняючае. Стараннасць надзвычайная. У латыні пасрэдны. У геаметрыі добры. У фізіцы і натуральнай гісторыі добры. У маральнай добры. У гісторыі добры. Паводзіны добрыя.

Год 1810, чэрвень 29 дня. Клас трэці.

Узрост 12 год. Здароўя добрага. Стараннасць надзвычайная. У латыні надзвычайны. У геаметрыі пасрэдны. У фізіцы і натуральнай гісторыі добры. У маральнай добры. У гісторыі добры. Паводзіны добрыя.

Год 1810, снежань 29 дня. Клас трэці.

Узрост 13 год. Здароўя добрага. Стараннасці добрай. У латыні добры. У геаметрыі добры. У фізіцы і натуральнай гісторыі добры. У маральнай добры. У гісторыі добры. Паводзіны добрыя.

Год 1811, снежань 30 дня. Клас чацвёрты.

Узрост 13 год. Здароўя здавальняючага. Стараннасці добрай. У геаметрыі добры. У фізіцы і натуральнай гісторыі добры. У маральнай і праве доб-

ры. У гісторыі добры. У польскім красамоўстве і латыні добры. Паводзіны добрыя.

Год 1812, снежань 30 дня. Клас пяты.

Узрост 14 год. Здароўя слабога. Стараннасці добрай. У алгебры выдатны. У фізіцы і натуральнай гісторыі добры. У маральнай і праве надзвычайны. У гісторыі надзвычайны. У польскім красамоўстве і латыні выдатны. Паводзіны добрыя.

Год 1813, снежань 30 дня. Клас пяты.

Узрост 15 год. Здароўе добрае. Стараннасці добрай. У алгебры добры. У фізіцы і натуральнай гісторыі вельмі добры. У маральнай і праве вельмі добры. У польскім красамоўстве і латыні добры. Паводзіны добрыя.

Год 1814, чэрвень 29 дня. Клас пяты.

Узрост 15 год. Здароўе добрае. Стараннасць надзвычайная. У алгебры добры. У фізіцы і натуральнай гісторыі добры. У маральнай і праве добры. У гісторыі добры. У польскім красамоўстве і латыні добры. Паводзіны добрыя.

Год 1814, снежань 30 дня. Клас шосты.

Узрост 16 год. Здароўе добрае. Стараннасць добрая. У логіцы добры. У фізіцы і натуральнай гісторыі добры. У маральнай і праве вельмі добры. У гісторыі вельмі добры. У літаратуры добры. Паводзіны добрыя.

Год 1815, чэрвень 20 дня. Клас шосты.

Узрост 16 год. Здароўе здавальняючае. Стараннасць надзвычайная. У логіцы выдатны. У фізіцы і натуральнай гісторыі выдатны. У маральнай і праве добры. У гісторыі добры. У літаратуры добры. Паводзіны добрыя.

З пераходам Міцкевіча ў чацвёрты клас пачалі падавацца рапарты аб выдатніках. З таго часу імя Адама побач з імем Яна Чачота заўсёды на тых ганаровых старонках фігуравала. Застаючыся ў пя-

тым і шостым класах, Адам Міцкевіч два гады быў хатнім наглядчыкам вучняў, у чым выявіў, як прызнала за ім школьнае начальства, «добрую здольнасць» і «стараннае выкананне сваіх абавязкаў». Са школы ён выбыў 29 чэрвеня 1815 года і ўзнагароджаны дыпломам. Абагульняючае меркаванне пры ягоным звальненні было наступнае: «здольнасць да навук добрая, поспехі добрыя, паводзіны добрыя».

Даючы выпіску са школьных кніг, якая паказвае ступень разумовага развіцця вялікага чалавека і з'яўляецца адначасна цікавай праграмай рэфармаваных пазней духоўных школ, падкрэсліваю пару выразаў, каб пры зручным выпадку выправіць адну са шматлікіх памылак, што знаходзяцца ў брашуры, выдадзенай неўзабаве пасля смерці паэта пад назвай «Адам Міцкевіч». Там паведамляецца, што *трынаццацігадовы* студэнцік у 1812 годзе прасіўся са сваімі калегамі ў *аднаго* камандуючага прыняць яго ў дзеючую армію, а прыняты, як прымаецца капейка ўдавы, насіў карабін і нават удзельнічаў у некалькіх сутычках. Не адзін з навааградчан яшчэ памятае падзеі 1812 года, але дарэмна я дапытваўся аб гэтай дэталі: ніхто не згадве ні пра дзіцячы гераізм, ні пра большае яшчэ дзяцінства камандуючага, які прыняў бы трынаццацігадовых хлапчукоў і ўзваліў бы ім на плечы карабін, калі, як вядома з праўдзівых крыніц, нават дарослым не хапала зброі. Не ведаю, хто быў той камандуючы. Мне вядома толькі, што галоўнакамандуючы правага крыла арміі Напалеона кароль Геронім Банапарт, даганяючы князя Багратыёна, быў у Наваградку са сваімі вестфальцамі і пакінуў аб сабе надта прыкры ўспамін рабаваннямі горада і апаганьваннем святыняў (наваградская фара была ператворана ў ваенны склад). Акалічнасці складва-

лiся так, што трэба было не хлапечым розумам глядзець на развiццё падзей, каб пакiнуць у самоце толькi што аўдавелую мацi i пайсцi пад цяжкi карабiн. Са школьнай жа выпiскi мы бачым, што Адам Мiцкевiч — *слабога* здароўя i *добрай* стараннасцi — у 1812 годзе паспяхова вучыўся i ў снежнi быў пераведзены ў вышэйшы клас. Не мог ён удзельнiчаць у некалькiх сутычках, бо ў ваколiцах Наваградка адбылася толькi адна такая пад Мiрам. Здаецца мне, што ўвесь гэты дабрадушны анекдот вырас са слоў Адама пра тую «насычаную надзеяй цудоўную мару ў сне, вясну ўраджаю, якую меў адну толькi ў жыццi». Але насычаная надзеяй вясна i плоднае на няўдачы для гэтага краю лета былi дзвюма рознымi рэчамi для дзiцяцi, якое хоць i мелася калi-небудзь стаць дубам-велiканам, аднак было тады толькi маленькiм парасткам.

Усё жыццё Адама Мiцкевiча было такой цудоўнай паэмай, што ў параўнаннi з iм бляюнуць i здаюцца смешнымi падобныя легенды, як гэтая, якую я прывёў. Праўда ягонага жыцця так асвятляе сваiм сонечным бляскам нашы вочы, што яшчэ доўга i вельмi доўга мы не зможам адважыцца на адно толькi дакладнае адлюстраванне гэтай праўды. А калi так, чаго мне нiхто не аспрэчыць, то якую ж можа мець вартасць няўдалая спакуса паэтызаваць такое жыццё? Пясняр, надзелены творчай фантазiяй Мiцкевiча, з'яўляецца братам iдэалаў — дзяцей будучынi, i толькi будучыня з далучанымi да яе братамi-iдэаламi паэта спляце карону, вартую яго скроняў.

*1861 г.*

# САЛАМОН РЫСІНСКІ

Прызначаны да таварыскага і грамадскага жыцця, чалавек напоўнены высакародным пачуццём любові, каб яно лучыла яго не толькі з сучаснымі, але з мінулымі і наступнымі пакаленнямі чалавечага роду. Без сувязі ў гэтым ланцугу, «які расцягваецца, але не рвецца», як хораша гаворыць паэт, удасканальванне чалавецтва было б немагчымым. Калі б кожны, пачынаючы і канчаючы на сабе дарогу маральнага развіцця, нічога не браў ад іншых і нічога іншым не пакідаў у спадчыну ад працы свайго духу, ніхто не змог бы ўзвысіцца над жывёламі. Таму вось чалавечая думка, узнятая ці то разумовым пераконаннем, ці схільнасцю сэрца, з нецярплівасцю залятае на крылах паэзіі ў бязмежныя абшары будучыні, з вялікай настойлівасцю імкнецца знайсці і ўвекавечыць кожную, хоць бы дробную крупінку мінулага. Дык няхай не папракаюць нас чытачы, што, маючы пад рукамі некаторыя гістарычныя дакументы, мы крыху затрымаем іх увагу на адным з неапошніх пісьменнікаў XVII стагоддзя.

Саламон Рысінскі, празваны па-латыні паводле тагачаснага звычаю Пантэрус, сённяшняму пакаленню вядомы толькі як містычны першазбіральнік польскіх прымавак у пачатку XVII стагоддзя. Прымаўкі гэтыя, разам з далучанымі да некаторых з іх лацінскімі адпаведнікамі, упершыню выйшлі ў 1618 годзе ў радзівілаўскім маёнтку Любчы над Нёманам друкам Пятра Бластуса Кміты пад назвай «Польскія выслоўі, сабраныя Саламонам Рысінскім,

цэнтурый васемнаццаць». Дакладна кажучы, гэта не строгі падбор удалых зліткаў народнай думкі ў адным жанры, бо тут даволі-такі шмат прымешана пабочных рэчаў, як і ў кнігах самага першага пісьменніка падобнага роду, збіральніка грэчаскіх выслоўяў Эразма з Ратэрдама. Праца Рысінскага падзяляецца на тры асобныя часткі: на прымаўкі, што амаль усе жывуць дагэтуль у вуснах народа, ад якога яны ўзяты; на фразы маральныя, штучна зробленыя па ўзору прымавак ці перакладзеныя з чужых моў; урэшце, на выразы паэтычныя. Першыя, натуральна, пераважаюць у кніжцы, і, натуральна, найбольш іх узята з вуснаў народа, толькі некалькі чыста шляхечых, як напрыклад: In diebus Eliae, калі зведаць кія; хто даў, а Гаштольд узяў; Comes de Wątory, дзе адзін мужык, а тры дворы і іншыя. З другой групы дастаткова будзе прывесці некалькі, каб паказаць іх крыніцу: голас народа — голас божы (з латыні); хто з мячом ваюе — ад мяча гіне (з біблii); не кожны возьме пасля Бекварка лютню (з Каханоўскага); у часныка галава белая, а хвост зялёны (таксама Каханоўскага); пры каралі Альбрахту вынішчылі шляхту (з Бельскага). Сюды ж адносяцца сентэнцыі, зарыфмаваныя, верагодна, самім Рысінскім, як напрыклад з Віргілія:

Міла пазіраць туды, дзе ў цудоўным целе
Розум з дабром гняздо сабе сцеле.

Або наступная:

Добры дыямент золатам акаваны,
У талковым сэрцы розум прыхаваны...

І іншыя. Да трэцяй групы належаць такія выразы, як напрыклад: слуга нюрнбергскай работы; ляпае абы-што; ох, сена, сена, каб цябе князі елі; от ілжэ, аж сцены сохнуць і да таго падобныя. Калі б складаць збор выслоўяў сёння, то належала б абмежа-

ваца першай групай. Разумовыя выразы крыху іншага парадку, уключаныя тут у другую, а тым болей у трэцюю групу, выпадала б аднесці кудысьці ў іншае месца.

Але што б там ні было, мы не намерваемся з-за пергэтага прыніжаць заслуг Рысінскага. Задума першага пераадолення цяжкасцяў у збіранні выслоўяў, рассыпаных шырока, «як расстрэленыя ў полі стрэлы», назапашванне іх у адным «калчане» і выданне такой кнігі ў пачатку XVII стагоддзя — усё гэта было на той час справай зусім новай у польскім пісьменстве. Важна, што гэтая праца была вельмі шчаслівай. Такая кніга паварочвала розумы ад шкалярскіх галаваломак, памножаных касцельнымі дыспутамі, да роднай, здаровай крыніцы ведаў. Ажыццяўленне падобнай задумы ў тую эпоху прыраўнівалася, бадай, да смеласці першага, хто адважыўся выступіць супраць паэтыкі Буало ў адным з ім стагоддзі! Як адзін, так і другі, мелі яны тое самае на ўвазе: вывесці розумы з бездарожжа шкалярства і паказаць, што і без «паважнага Тастата» можна пераканацца, як «пасля цёмнай ночы ясны дзень надыходзіць». Але дзёрзкі замах, які для рамантычнай школы ўвянчаўся поўным поспехам у галіне паэзіі, не прывёў Рысінскага да ўдачы ў краіне мыслення. Паэтычная рэформа сустрэла падрыхтаваную думку і магутнае заступніцтва прыхільнікаў. Рысінскі ж выступіў дачасна і застаўся бадай у адзіноце, без падтрымкі. Праўда, першае ўражанне, выклікане ягонай кнігай, было, відаць, незвычайнае. На працягу некалькіх гадоў ад яе выдання ў Любчы да 1634 года выйшлі ў розных гарадах даўнейшай Польшчы ажно тры новыя выданні «Выслоўяў». Адно без указання года і месца друку, знойдзенае і апісанае К. Ул. Вуйціцкім у «Бібліотэцы Варшавскей» (1842, ліпень), павінна

было выйсці пры жыцці аўтара, да 1625 года, бо толькі перапрацоўка Рысінскага ў сувязі з яе новым выпускам дае здавальняючае тлумачэнне многіх адрозненняў між гэтым і наступным яе выданнем — з 1629 года. Трэці раз кніга выйшла ў Любліне і належыць да меней рэдкіх. Не спыняючыся на ёй падрабязна, прыгадаем толькі, што з яе быў зроблены перадрук у «Старажытнай бібліятэцы» Вуйціцкага. Нарэшце, чацвёртае і апошняе з даўнейшых выданняў з'явілася ў 1634 годзе. Яго экземпляры, што знаходзяцца ў Торуні і ў галоўнай варшаўскай бібліятэцы, занатаваў В. А. Мацяёўскі ў сваім «Польскім пісьменстве». Акрамя гэтага, у той жа час Гжэгаж Кнапскі, выдаючы «Адажыё палоніка» ў 1632 годзе, амаль увесь збор Рысінскага ўключыў у сваю працу. Аднак поспех гэты быў толькі часовы. Кнапскі і Анджэй Максімільян Фрэдра, асабліва апошні, намагаліся развіць упершыню закранутую Рысінскім думку народнай філасофіі. Але дарэмна ўжо Фрэдра напамінаў, «што польская мова мае неблагі скарб добрага розуму!». Блытаная сістэма тагачаснага ўдасканалення розуму вымушала на простую праўду накладваць пачварную тканіну сілагізмаў, вучыла не думаць, а красамоўнічаць. У параўнанні з цэлым лагерам распаўсюджвальнікаў разумовай распусты што́ маглі зрабіць дзве ці тры сціплыя кніжкі? Праца Рысінскага, кінутая ў паняверку, дзвесце гадоў ляжала забытая. Толькі ў апошні час, калі абуджэнне думак адкрыла вочы на правільную дарогу, прыйшла чарга ўзняць гэтую працу і даць ёй адпаведную ацэнку. Старанны папулярызатар краёвых помнікаў п. К. Ул. Вуйціцкі нанова перадрукаваў «Выслоўі» Рысінскага ў 1843 годзе ў другім томе сваёй «Старажытнай бібліятэкі польскіх пісьменнікаў». Дзякуючы яго старанню была вернута страта, выкліка-

ная легкадумнасцю, і кожны сёння можа мець гэтую працу, якая імю Рысінскага здабыла ў пісьменстве заслужаную памяць.

Акрамя гэтай кнігі, Саламон Рысінскі быў яшчэ аўтарам дзвюх іншых, цяпер бадай зусім невядомых. Адна з іх — як па часе выхаду, то старэйшая за «Выслоўі» — носіць назву «Некаторыя псалмы Давідавы, часткова выпраўленыя, часткова зноў перакладзеныя на старыя ноты ад Саламона Рысінскага. Па даручэнню старэйшых. У Любчы над Нёманам, у друкарні Пятра Бласта (Кміты). Р. П. MDCXIV». Гэта брашура ў чвэрць, складзеная з двух аркушаў друку, і адрасавана яна, паводле вершаванага прысвячэння, апекуну аўтара Крыштафу Радзівілу. Паколькі даўнейшы пераклад псалмаў, што спяваліся ў евангельскіх касцёлах, не адпавядаў у некаторых месцах патрабаванням, Рысінскі ўзяўся іх «паправіць», і вынікам гэтай работы стала названая кніжка. У ёй змешчаны, такім чынам, нанава перакладзеныя ўрыўкі з псалмаў 1, 10, 27, 32, 42, 100, 119, 137, 143 і, акрамя таго, у канцы дадзены алфавітны спіс усіх псалмаў. Экземпляр гэтай невераемна рэдкай кніжкі знаходзіцца ў багатым курніцкім кнігазборы. Упершыню яго апісаў, раскрыўшы змест, Мацяёўскі ў сваім «Пісьменстве». Пра паэтычныя вартасці працы ён нічога не гаворыць, а гэта якраз было б цікава для чытача, бо дагэтуль выключна з чужых слоў мы ведалі, што Рысінскі «патрэбна і шчасліва» перакладаў тыя псалмы і, больш таго, «да найвыдатнейшых паэтаў і дасціпных розумаў свайго стагоддзя належаў». У нас жа не было магчымасці ўбачыць гэту белую бібліяграфічную варону, а таму мы не можам даць пра яе паўнейшых звестак.

Апошні, вядомы дагэтуль толькі па назве друкаваны твор Рысінскага — гэта «Помнікі, пастаўле-

ныя розным асобам», выдадзеныя ў Любчы над Нёманам у малой чвэртцы памерам каля пяці друкаваных аркушаў. Час іх выхаду мы не можам вызначыць дакладней, чым каля 1615 года, бо адзіны вядомы нам экземпляр гэтага твора, які ёсць у бібліятэцы М. Маліноўскага ў Вільні, пад уздзеяннем часу вельмі пашкоджаны. Ён уяўляе збор надмагільных надпісаў, складзеных пераважна для членаў радзівілаўскай сям'і біржанскай лініі або асоб, якія парадніліся з ёю, а таксама для некалькіх знакамітых мужоў і жанчын пратэстанцкага веравызнання. Рысінскі пісаў іх так, як яны павінны быць высечаны на камені, вялікімі літарамі; выразы афармляў досыць удала, каб цешылі вока прыгажосцю. Усе яны напісаны па-латыні. Мова правільная, але ў многіх месцах занадта пышная. Не хапала Рысінскаму той сцісласці, якая ўласціва старажытным эпітафіям: многія з іх грашаць неймавернай шматслоўнасцю, а ў лішку пахвальбы не было месца на біяграфічныя дэталі і нават на дадзеныя пра час і месца жыцця, што магло б прыдацца. Акрамя гэтага збору, надрукаванага ў Любчы, пакінуў Рысінскі рукапісную эпітафію для каралевы Барбары, неймаверна доўгую, для Анджэя Воляна і для Пятра Кахлеўскага. У дзвюх апошніх болей, чым у якіх-небудзь іншых, маецца ўпамінанняў пра галоўныя падзеі ў жыцці яго прыяцеляў і калег па службе ў Радзівілаў.

Абедзве гэтыя кніжкі да такой ступені рэдкія, што іх назвы ажно да апошняга часу паўтараюцца толькі паводле павярхоўнага ўпамінання Анджэя Вянгерскага ў яго «Systema historico-chronologica ecclesiarum slavonicarum» (Утрэхт, 1652, 454 с.).

Іншых друкаваных прац Саламона Рысінскага мы не ведаем. Яму прыпісваецца безыменна выдадзеная брашура «Сатыра на твар Рэчы Паспалі-

тай», а таксама «Канцыянал», які выйшаў у Кракаве. Але гэта памылка. Што да «Сатыры», то Маяркевіч і іншыя пайшлі, відаць, за каталогам бібліятэкі Каятана Квяткоўскага, у якім пад № 142 беспадставна прызнаецца аўтарства нашага пісьменніка. Залускі ўжо ведаў, што аўтарам гэтага памфлета сапраўды быў Рысінскі, але другі, па імю Анджэй. Брашура была выдадзена ў 1640 годзе, праз пятнаццаць гадоў пасля смерці Саламона, імя якога, сцвярджае Залускі, тады ўжо не было патрэбы ўтойваць. Пазнейшыя пошукі паказалі, што «Сатыра на твар Рэчы Паспалітай», а таксама яшчэ адна брашура падобнага зместу, якая носіць назву «Сатыра на твар дворскі», належаць аднаму пяру. Намёкі, якія ёсць у гэтай апошняй працы, а дакладней — словы, прысвечаныя нейкаму Дабіславу з Цэкліна Цэклінскаму, пад якімі выразна падпісаўся «ва ўсім зычлівы і пакорны слуга Анд. Рысінскі», паказваюць, што не Саламон быў аўтарам гэтых твораў і выдавалі іх па гарачых слядах, адразу ж пасля напісання. Такім чынам, прозвішча першага збіральніка польскіх выслоўяў у дачыненні да аўтарства названага вышэй памфлета канчаткова адпадае. Тое ж самае і з «Канцыяналам», які быў прыпісаны Рысінскаму Бянткоўскім і Сярчынскім. Евангелісты, друкуючы ў Гданску вершаваны пераклад «Псалтыра Давідавага» ў 1618 годзе, змясцілі там 25 псалмаў старога перакладу з кракаўскага «Канцыянала»; а паколькі некаторыя з гэтых псалмаў былі часткова лепей нанава перакладзены Рысінскім, дык з ягонай кніжкі, выдадзенай на некалькі гадоў раней у Любчы, яны перанеслі папраўкі ў сваю працу. Адсюль у прадмове да «Псалтыра» з'явіўся наступны ўпамінак: «Псалмы, якія здаўна былі ў кракаўскім «Канцыянале», а іх 25, уклалі мы так, як яны былі патрэбна і шчасліва

выпраўлены высакародным панам Саламонам Рысінскім, якому надзвычай удзячны». Вось чаму, пакуль брашура Рысінскага была невядомай, лёгка было пасля гэтых крыху блытаных выразаў схіліцца да таго, каб прыпісаць яму выданне нейкага канцыянала, якога ніхто не мог бачыць, бо яго на свеце не было. Але цяпер, калі гэтая кніжачка ўжо вядомая, дастаткова параўнаць прыведзены ўпамінак з апісаннем «Некаторых псалмаў», выдадзеных у Любчы, каб высветліць генеалогію перадруку.

Што, аднак, застаецца для нас нявысветленым у адносінах да Саламона Рысінскага, дык гэта думка, быццам ён належаў да найвыдатнейшых паэтаў і дасціпных розумаў свайго часу. Цяжка дапусціць, каб перакладзеныя ім урыўкі псалмаў маглі паслужыць асновай для такой гучнай ацэнкі; але не меней цяжка паверыць, каб хоць урыўкі, хоць назвы твораў, якія праславілі пісьменніка, не дайшлі з тагачасных помнікаў да нас. Выбіраючы з двух адно, мы павінны дапусціць, што не ўсё, напісанае Рысінскім, нам знаёма нават па назве. Знойдзеныя ў радзівілаўскім архіве, побач з часткай аўтографаў прымавак, дзве напісаныя рукою Рысінскага эпітафіі, пра якія згадвалася вышэй, дазваляюць меркаваць, што іх магло застацца і крыху болей. Грамадскія няўдачы пазнейшых гадоў і, што болей сумна, празмерная стараннасць езуіцкіх выхаванцаў, якія, за гонар лічачы знішчэнне ўсяго, што паходзіла ад іншаверцаў — а Рысінскі якраз і быў ім,— не толькі зрабілі недаступнымі адны рэчы, але маглі аж да назвы загубіць іншыя працы гэтага пісьменніка.

Як бы там ні было, Рысінскі ўсё-такі належаў да мужоў з яснай галавой, якіх у XVII стагоддзі станавілася меней і меней. Адно ненадрукаванае дагэтуль сведчанне якраз дае нам магчымасць пацвердзіць тую думку аб першым збіральніку вы-

слоўяў, якую мы слушна павінны былі прыняць. Гэта ліст Бальцара Красневіча, свяшчэнніка сабора ў Вільні. Імя яго ў гісторыі рэфармацыі стала вядомым з-за прыгоды, якая адбылася з ім пад час уцёкаў вучняў акадэміі і натоўпу чэрні з таго сабора ў 1611 годзе. Дык вось, у пісьме ад 22 студзеня 1621 года Красневіч звярнуўся да Крыштафа Радзівіла, польнага гетмана літоўскага, з наступнымі словамі: «З Прагі ліст пісаны 1 жніўня 1620 года, ад ксяндза Скультата, аддадзены мне толькі што, і то раскрыты. Сэнс гэтага пісьма: просіць, каб далі пэўныя матэрыялы пра рэфармацыю касцёла на Літве і ў Польшчы, а гэта для таго, што знаходзіўся ў друку другі том касцельных штогоднікаў, у якім ён пісаў пра рэформу польскага і літоўскага касцёла. Я, прызнацца, сапраўды з гэтай рэччу незнаёмы. Здаецца мне, што міласцівы пан Рысінскі да гэтай справы найпрыдатнейшы: надзяліў яго бог болей за іншых як рознымі вартасцямі, так і знаёмасцю з касцельнай гісторыяй, асабліва ў Польшчы і Літве. Прашу яснавяльможнай міласці князя, зрабіце ласку, ваша княская міласць, скарыстайце яго, каб ён гэта апрацаваў як належыць». Гэтае пісьмо, вылушчанае з лацінскіх макаранізмаў, без аніякай, урэшце, змены падаем. Яно красамоўна сведчыць, што Саламон Рысінскі сваёй вучонасцю ва ўяўленні сучаснікаў стаяў вышэй за многіх іншых змагароў у шэрагах іншаверцаў. Што тычыцца згаданага ў гэтым лісце праекта напісання гісторыі рэфармаванага касцёла, то, відаць, ён ніколі не быў ажыццёўлены, і працу, даручаную Рысінскаму, выканаў праз некалькі дзесяткаў гадоў Анджэй Вянгерскі, якога мы ўжо ўпаміналі. Аднак можа быць, што Рысінскі па даручэнню князя працаваў над гісторыяй, але скончыць яе перашкодзіла смерць. Калі б хоць якія-небудзь захаваныя кавалкі знайсці ўдалося, было б

гэта для аматараў гістарычных помнікаў сапраўднай радасцю.

Але калі большая частка твораў Рысінскаг :-стаецца для сучаснага пакалення нязведаным ,ра-ем, то яго жыццё дагэтуль было абсалютна невядомае.

Паходзіў Саламон з шляхецкай сям'і герба Астоя. Але Нясецкі не ўпісаў той сям'і ў сваю «Карону», хоць прыводзіць іншых Рысінскіх герба Лешчыц, сярод якіх не прамінуў назваць Пятра, аўтара твора «Censura in axiomata Joanis Hussi haeresi» (Кракаў, 1524). Здаецца, мы недалёка адыдзем ад праўды, калі скажам, што не недахоп звестак, а непрыязнь да пратэстантаў выключыла Рысінскага і яго дом са шляхецкіх актаў, укладзеных рукою набожнага манаха. Калі б патрэбны былі доказы такіх паводзін, мы змаглі б прывесці прыклад, што вядомы перакладчык кніг Цыцэрона «Пра старасць» і ўкладальнік «Апафтэгматаў» Беняш Будны таксама быў шляхціцам, але з-за непрыязні да прозвішча ягонага брата, вядомага арыяніна Сымона, дом гэты таксама не трапіў у гісторыю Нясецкага. Трэба аддаць належнае езуітам: у пазнейшы час яны былі вылечыліся ад гэтай дзіўнай прадузятасці, і ўласная іх віленская друкарня выдавала працу Беняша Буднага, а член іх таварыства Казімір Нарушэвіч рассыпаў пахвальбу гэтай кніжцы. Але гэта наступіла пазней: у эпоху Нясецкага страсці яшчэ не ўлягаліся. Урэшце, не столькі гербавая калыска заслужанага збіральніка выслоўяў, колькі гістарычны факт нас займае.

Ні даты, ні месца нараджэння Рысінскага знайсці нам не ўдалося. У ягоным «Выслоўі» варта ўвагі тое, што бадай усе ўпамінкі пра мясцовасці адносяцца да геаграфічных назваў Малой Польшчы. Тут такія, напрыклад, выслоўі: справа горай, чым у

*Асеку*; бедны з *Клепажа*, хай бог табе ўкажа; яму ўжо і *сандамірскі* доктар не паможа; лепей яйкі ад *Дунайкі*, чым ад Віслы. Тады была б магчымасць меркаваць, што як яго калега па радзівілаўскім двары — Анджэй Волян — паходзіў з Вялікай Польшчы, так Рысінскі быў родам дзесьці з-пад Кракава або з Чырвонай Русі і там, можа, выхоўваўся.

Пра пазнейшыя каляіны яго жыцця Ф. Сярчынскі ў «Карціне часу панавання Зыгмунта III» паведамляе, што Рысінскі быў прапаведнікам евангельскага сабора і школьным настаўнікам у Гданску, хоць не дае звестак, адкуль гэтыя падрабязнасці ён пачэрпнуў. Аднак няма сумнення, што тут атрымалася памылка ў адносінах асоб і як працы іншай асобы, так і жыццё іншага Рысінскага прыпісаны Саламону. На гэта паказвае тая акалічнасць, што і ў прадмове да гданскага «Псалтыра» 1618 года, і ў прыведзеным вышэй лісце Красневіча ад 1621 года, і, нарэшце, у творах з 1625 года, якія мы цытуем ніжэй, Рысінскі ўсюды называецца *панам*, а не *ксяндзом*.

З другога боку, разнастайныя дадзеныя дазваляюць нам з усёй праўдападобнасцю заключыць, што Саламон Рысінскі з маладых год жыў на Літве. Звернемся тут ізноў да яго «Выслоўяў». Калі адкінем ад іх кніжныя рэчы і тыя, што носяць на сабе прыдворны характар, то ўбачым, што большая частка выслоўяў, змешчаных у ягонай працы, жыве дагэтуль у вуснах прынёманскага люду, на беларускай мове. Да таго ж у кнізе ёсць значная колькасць выслоўяў, якія ў аддаленых ваколіцах невядомыя, як напрыклад: і конь праз сілу не скочыць; адзін за васемнаццаць, другі за дваццаць без двух; дзіця не плача — маці не ведае, чаго яна хоча; даўшы рукамі, бяжы нагамі; баба з воза, калёсам лягчэй;

багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца; учарашняга дня шукае і іншыя. Што гэтыя выслоўі ўвайшлі ў кнігу Рысінскага дарогай перапрацоўкі з мовы тутэйшага народа, ёсць довады ў самой працы. Адны з іх становяцца зусім відочнымі пры параўнанні з арыгіналам. Напрыклад: «ні села, ні пала» даслоўна ў народзе гучыць «ні села, ні пала, падай, баба, сала» і высмейвае неабгрунтаванае дамаганне чаго-небудзь. Другія адносяцца да мясцовых з'яў, як напрыклад: святы той грош, што *копы* (60 грошаў) беражэ; аднаму падабаецца *поп*, другому *пападдзя*; хто даў дык даў, а *Гаштольд* узяў; кваліцца, як *папоўна* замуж. Некаторыя з-за рыфмы ці з-за цяжкасці перакладу захавалі нават беларускія словы, напрыклад: даюць хлеба *густа* (шчодра), калі ў роце зубоў пуста; *гаркаваму* гаварыць многа, г. зн. таму, хто цяжка вымаўляе гук *р*, хопіць і гаворкі. Іншыя, незнаёмыя тутэйшаму народу прымаўкі, асабліва гістарычныя ці да пэўных мясцін прывязаныя, лёгка было сабраць па дварах, калі стасункі шляхты, якая жыла па самых аддаленых ваколіцах, былі вельмі блізкія і частыя.

Такім чынам, Рысінскі доўгі час жыў на Літве. Але ўзнікае пытанне — дзе менавіта ён тут знаходзіўся? Відочных слядоў яго жыцця да 1614 года мы не знаходзім. Але калі ўзяць пад увагу, што Рысінскі не быў духоўнікам і, як даводзіцца ніжэй, не меў ліпы, як Ян Чарналяскі, што ў той час не было ганарараў, а наадварот — аўтары даплачвалі кнігарам за надрукаванне сваіх прац, то можна не сумнявацца, што выбіраць яму заставалася толькі заступніцтва магнатаў, калі ён хацеў прысвяціць сваё жыццё літаратурнаму рамяству. У адпаведнасці ж з гэтым, натуральна, перад здольным кальвіністам Рысінскім адкрываецца дарога на радзівілаўскі двор, дзе ўсе, хто вызначаўся здольнасцямі і спрыяў

рэлігійнай рэформе, знаходзілі пад той час ветлівы прыём. Пазнейшыя факты ягонага жыцця надзвычай яскрава пацвярджаюць гэтае меркаванне. У 1614 годзе Рысінскі прысвячае свае «Некаторыя псалмы» Крыштафу Радзівілу, польнаму гетману літоўскаму, і ў прысвячэнні выказвае яму ўдзячнасць за апеку. Прыкладна тады ж ён піша і выдае свае «Помнікі», у аснове якіх ляжаць успаміны пра радзівілаўскі дом і яго кліентаў. У 1618 годзе, відаць, з гетманскім дваром Рысінскі быў у Вільні, бо ў гэтым горадзе 30 кастрычніка пісаў прысвячэнне сваіх «Выслоўяў». У 1620 годзе мы бачым яго ў прынёманскіх ваколіцах, бо Красневіч, які піша з Вільні ў Нясвіж, гаворыць пра яго як пра блізкага князю чалавека і напамінае пра характар гэтай блізкасці, калі піша: «...зрабіце ласку, ваша княская міласць, скарыстайце яго, каб ён гэта як належыць апрацаваў». З ліста Набароўскага ад 16 лістапада 1625 года мы бачым, што ў гэтым радзівілаўскім маёнтку, дзе памёр Рысінскі, не ўсе яго рэчы знаходзіліся пры ім. Урэшце, у тым самым лісце гаворыцца, што завяшчанне нябожчыка было складзена «ў пана Воляна», аднаго з сыноў слаўнага Анджэя, які жыў у радзівілаўскім маёнтку Біюцішкі ў Ашмянскім павеце і таксама належаў да радзівілаўскіх кліентаў. З усяго гэтага відаць, што, прынамсі, ад 1614 года да скону Рысінскі пастаянна заставаўся непадалёку ад Крыштафа Радзівіла, наведваў калінікалі Вільню як асяродак рэформы, а пад старасць вёў вандроўнае жыццё, пераязджаючы з аднаго княскага маёнтка ў другі ў духу «panem bene merentibus» маёмаснага рэзідэнта. Такі вобраз жыцця Рысінскага, а таксама клапатлівыя паведамленні князю Крыштафу пра самыя падрабязныя асаблівасці яго хваробы і, нарэшце, пашана, якую прадпісаў зрабіць яму пасля смерці гетман польны, паказ-

ваюць, што іх адносіны намнога старэйшыя, чым сведчаць раскрытыя факты. Мы не ашукваем сябе, што ўсяго гэтага замала, каб стварыць у галаве чытача дакладны вобраз жыцця мужа, які мае права на памяць. Аднак зрабілі мы што маглі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Крыштаф Радзівіл, як відаць з пазнейшага распараджэння, загадаў пахаваць астанкі Рысінскага ў Любчы, дзе пры жыцці ён друкаваў свае працы. Неўзабаве пасля яго пахавання князь загадаў свайму любчанскаму чыноўніку Стрыйку: «Над магілаю пана Рысінскага высокі і чысты мураваны слуп узнесці і мармуровую табліцу ў яго ўставіць, а з тылу каля гэтага слупа чысты курган насыпаць». Няма ніякага сумнення, што той «высокі і чысты слуп» над сірочаю магілаю паэта быў узведзены і «чысты курган» насыпаны. Сёння, аднак, дарэмна мы будзем шукаць іх у Любчы: крохкая папера перажыла каменную пабудову і цяпер толькі сведчыць пра яе. Вялікія памяткі пратэстантызму так старанна тут вынішчаны, што ні малейшага знаку ад друкарні, школы, сабора і нават евангельскіх могілак не засталося ў Любчы. Над мястэчкам запанавала цемра, і памяць, скіраваная да магіл, анямела...

*1863 г.*

# ВІЦЕБСК

Віцебск, калісьці сталіца ўдзельнага княства, потым ваяводства, цяпер губерні, ляжыць над Дзвіною, ля вусця невялічкай ракі Віцьбы. У навейшых кампіляцыях рускіх хронік («Софийский временник» і «Никоновская летопись») ёсць самы даўні ўпамінак пра Віцебск пад 1021 г., калі вялікі князь кіеўскі Яраслаў аддаў гэты горад полацкаму князю Брачыславу. Верагодна, што Віцебск спачатку належаў сям'і сядзеўшых на Полацку нашчадкаў Рагвалода і Рагнеды і што толькі час ад часу адбіраўся ў іх князямі іншых ліній, як напрыклад у 1196 г., калі мы бачым, што тут сядзіць Давід, сын вялікага князя кіеўскага Расціслава. Горад пад той час быў сталіцаю асобнага княства, бо неаднаразова, як напрыклад у 1175 г., хронікі згадваюць пра віцебскіх князёў. Паводле Стрыйкоўскага (кн. VIII), калі Міндоўг паслаў быў сваіх сыноў заваяваць Русь, адзін з іх, Вікунт ці Вікінд, павінен быў здабыць Віцебск і асесці на ім каля 1239 г. Аднак грунтоўна і надоўга Літва авалодала Віцебскам пачынаючы толькі ад Гедыміна. Тады горад з удзелам атрымаў яго сын Альгерд, жанаты з Марыяй ці Ульянай, віцебскай князёўнаю, якая, невядома, ці з дому даўнейшых полацкіх князёў паходзіла, ці ад Вікунта. Яна фундавала пабудову Благавешчанскай царквы на Нізкім замку, а таксама другую, за валамі, пад назвай Сашэсце святога духа, пры якой манашак базыльянак асадзіла.

Пасля выгнання Яўнута і пераезду Альгерда ў Вільню каля 1342 г. Віцебск са сваім удзелам канчаткова быў далучаны да Вялікага княства Літоўскага і аж да ўтварэння ваяводства меў ужо толькі княскіх намеснікаў з мізэрнай староставай уладай. Нягледзячы на гэта, прэтэнзіі князёў Русі на Віцебск не адразу заціхлі. У 1386 г., пад адсутнасць Ягайлы на Літве, смаленскі Святаслаў захапіў быў Віцебшчыну, аднак скончылася тым, што горад абрабавалі і спалілі. У 1396 г., пасля смерці жонкі Альгерда, віцебскай княгіні, якая апошнія дні свае правяла тут, яе сын, малодшы брат Ягайлы — Свідрыгайла, наважыў завалодаць спадчынай па мацеры. Паклікаўшы на дапамогу крыжакоў, ён захапіў горад і намесніка Ягайлы Тодара Відсну скінуў з высокай сцяны замка. Але Вітаўт праз месяц аблогі ўзяў крэпасць, і захопнік быў зняволены. Пад той, відочна, час Вітаўт фундаваў пабудову віцебскай фары, тым болей што ў спрэчках паміж братамі палітыка скарыстоўвала, з аднаго боку, рэлігію каталіцкую, а з другога — грэчаскую. Фара гэтая, як усе першапачатковыя фундацыі Ягайлы і Вітаўта, была надзвычай шчодра забяспечана і непасрэдна падначальвалася біскупу і віленскай капітуле. Зыгмунт I з багатых яе маёнткаў вызначыў быў 100 коп грошаў на ўтрыманне вікарыяў пры віленскім кафедральным касцёле, а затым Зыгмунт Аўгуст у 1558 г. канчаткова далучыў тыя пamесці да ўладанняў капітулы, якая пры віцебскай фары ўтрымлівала ад сябе толькі вікарыя. Вітаўту Віцебск абавязаны таксама і магдэбургскім правам, бо ў прывілеі, дадзенай Вільні ў 1441 г., мы знаходзім наддзвінскі горад у ліку тых, якія тады ўжо мелі нямецкае права.

Пасля смерці Вітаўта па волі Ягайлы да ўлады над Літвою дарваўся Свідрыгайла, які ўвекавечыў

тут сваё праўленне жорсткасцю. У 1435 г. кіеўскі мітрапаліт Герасім, злоўлены ў Смаленску, быў пасаджаны на чатыры месяцы ў віцебскую крэпасць, а пасля за інтрыгі з Зыгмунтам Кейстутавічам спалены. У 1443—1445 гадах унук віцебскай княгіні, сын Лігвейна Ежы яшчэ раз узняў дынастычныя прэтэнзіі і, выступіўшы з Ноўгарада, захапіў Смаленск, Полацк і Віцебск. Але, не маючы сіл на супраціўленне Казіміру, хутка адышоў да Масквы. З таго часу Віцебск, карыстаючыся дабратворнасцю міру, пачаў уздымацца. Яго гандлёвыя магчымасці, дзякуючы размяшчэнню каля сплаўнай Дзвіны, здаўна былі вядомыя і цаніліся. Ужо ў заключаным паміж ганзейскімі гарадамі і смаленскім князем Мсціславам у 1228 г. дагаворы, што гарантаваў свабоду сплаву па Дзвіне да Рыгі, Смаленск, Віцебск і Полацк названы асобна. У 1478—1480 гадах горад настолькі быў зручным спратам ад ворага, што калі браты вялікага князя маскоўскага Івана Барыс і Андрэй, пазбягаючы праследу, уцяклі з краіны пад апеку Казіміра Ягелончыка, то мелі тут вызначаны ім прытулак. У 1503 г. Аляксандр Ягелончык даў Віцебску прывілею, у якой абяцаў гораду свабоду веравызнання, назначэнне ваяводы «згодна са старым звычаем, каго захочуць», вызваленне ад мыта ва ўсёй літоўскай дзяржаве і шмат іншых выгодаў. Гэта поўнасцю пацвердзіў у 1509 г. Зыгмунт I.

Аднак мірнае жыццё пагранічнага горада доўга не магло цягнуцца. У тых неладах паміж Польшчай і Іванам Грозным з боку апошняга ўзнікла яшчэ і дамаганне Віцебска. У адказ на гэта ў 1500 г., паводле каралеўскага загаду, была больш умацавана віцебская крэпасць, а ў 1502 г. наступіў час выпрабавання яе моцы. Царскія войскі аблажылі Віцебск, але, не здолеўшы ўзяць крэпасць, спалілі

толькі прадмесце. У 1519 г. маскоўскія ваяводы Гадуноў, Ялецкі і Засекін, падтрыманыя моцным атрадам татарскай конніцы, зноў падышлі да Віцебска і Полацка, перабілі нямала людзей, спалілі Віцебск, але ў замак не прарваліся. У 1534 годзе царскі намеснік Гарбаты спустошыў ваколіцы горада; у 1536 г. тое ж самае ўчынілі князі Гарэнскі і Барбашоў; у 1562 г. прынёс знішчэнне Курбскі; у 1569 г. таксама была спалена, невядома пад чыім кіраўніцтвам, вялікая частка горада, які паўставаў пасля з попелу. Але пад час тых баёў, што ўзнаўляліся адзін за адным, непрыяцель ні разу не прарваўся ў крэпасць. Зразумела, яна пастаянна была гняздом, адкуль у сваю чаргу рабіліся паходы ў межы Вялікага княства Маскоўскага. З таго часу да вайны пры Яне Казіміру горад зноў меў перадышку і хутка адбудаваўся.

Стэфан Баторы ў 1582 г. аднавіў магдэбургскае права і іншыя прывілеі, выкрадзеныя з гарадской скрынкі ў 1541 г. нейкімі людзьмі з Ноўгарада. Зыгмунт III зноў у 1592 г. зацвердзіў гэтыя прывілеі, а ў 1597 г. дазволіў новыя палёгкі, кірмашы і наладжванне рамесніцкіх цэхаў. Той жа прывілеяй Віцебску была дадзена пячаць з выявай святой Веранікі на блакітным фоне, з чырвоным мячом унізе, а таксама харугва з выявай св. Веранікі. На працягу 80 гадоў з чымсьці раз толькі, у 1602 г., Віцебск наведалі казакі, якія, аднак, былі адбіты, а іх атаман Дубіна трапіў у рукі віцябчан. Тутэйшыя ж мяшчане ваявалі дзесьці ў другім месцы. У 1605 г. адзін са знакамітых віцябчан Марка Ілініч Лытка на чале 500 мяшчан стойка змагаўся пад Фелінам, за што атрымаў шляхецтва з прозвішчам Фялінскі. У 1614 г. віцябчане хоць і без поспеху, але з вялікай мужнасцю ваявалі пад Глязамічамі. Уладзіслаў IV ва ўзнагароду за доблесць у баі пад

Кашавіцамі ўрачыста ў 1641 г. вярнуў гораду даўнейшыя правы, страчаныя ў 1624 г.

У 1640 г. смаленскі ваявода Корвін Гасеўскі фундаваў перш пры тутэйшай каталіцкай фары езуітаў, якія пазней атрымалі асобны касцёл і заснавалі калегію. У гэтай калегіі з вышэйшай школай езуіты выкладалі, апрача граматыкі, паэтыкі і рыторыкі, яшчэ і асновы філасофіі і ў дадатак, седзячы тут, займаліся вынішчэннем іншаверцаў. Пад іх уплывам заняпаў і больш не паўстаў кальвінскі збор, які існаваў у Віцебску ў XVI і XVII стагоддзях. Пад час вайны з царом Аляксеем Міхайлавічам у 1654 г., калі ўся Віцебшчына была ўжо ў руках праціўніка, Віцебск, абложаны трыццацітысячным рускім войскам пад камандаваннем Васіля Шараметава, доўга яшчэ трымаўся; толькі праз 14 тыдняў абароны, калі значная частка жыхароў загінула, абодва замкі былі ўзяты штурмам.

Віцебск, вернуты Польшчы пасля сканчэння вайны, не раз яшчэ зведаў розныя бедствы, асабліва пажары ў 1680, 1708, 1733 і 1752 гадах, якія амаль увесь горад ператварылі ў руіны. Тым не менш з сярэдзіны XVIII стагоддзя ў Віцебску ўзнікла яшчэ некалькі рэлігійных фундацый. У 1676 г. Ян Храпавіцкі, віцебскі ваявода, збудаваў для бернардынаў кляштар і касцёл святога Антонія, скасаваны ў 1832 г. На некалькі гадоў пазней, у 1682 г., Адам з Брусілава Кісель, падкаморы і земскі пісар віцебскі, фундаваў пры фары уніяцкі кляштар базыльянаў, а ў 1690 г. надзяліў гэтую фундацыю значнымі сродкамі. Кляштар іх разам з царквою Багародзіцы згарэў у 1708 г., але быў зноў адбудаваны. У 1758 г. узнікла фундацыя ксяндзоў трынітарыяў, пра якую вядома толькі, што была яна справай нейкага Рэута. Пры Аўгусце II і III віцебскі ваявода Марцыян Агінскі ўзвёў касцёл езуітаў

і пабудаваў пры ім капліцу святога Юзафа. Нарэшце, пры Аўгусце III была тут закладзена рэзідэнцыя піяраў. Яны ўтрымлівалі ў Віцебску шляхецкі пансіён і школы, у якіх выкладаліся матэматыка, гісторыя, філасофія і рыторыка. Гэта падштурхнула езуітаў таксама заснаваць шляхецкі пансіён. Яго стваральнікам быў Ігнацы Лускіна, а вучнем Францішак Князьнін. У выніку першага падзелу Польшчы ў 1772 г. Віцебск адышоў ад Расіі, урад якой у 1796 г. зрабіў яго губернскім горадам. Гэтым тлумачыцца тое, што, нягледзячы на ліквідацыю езуітаў у 1773 г., іх віцебскія калегіі былі захаваны Кацярынаю II разам з некалькімі іншымі на Белай Русі і ў Інфлянтах. Езуіты трымалі тут школы аж да апошніх год панавання Аляксандра I. Пасля яны былі скасаваны, а іх будынкі аддадзены пад ніжэйшыя казённыя ўстановы.

Горад у 1864 г. налічваў 24 455 жыхароў абодвух полаў, сярод іх купцоў 767. Дамоў было 3 146, у іх ліку 205 мураваных; крамаў і складаў 652; каталіцкіх касцёлаў 3 і кляштар 1, праваслаўных цэркваў 33, цэркваў старавераў, аб'яднаных з праваслаўнымі, 2, сінагога яўрэйская і 34 малітоўныя дамы. Фабрык і саматужных майстэрняў было 66, у іх ліку прадпрыемстваў канатных 16, гарбарняў 14, перагонных заводаў і па вырабу лаку 4, рукадзельняў ватных 2. Прамысловасць увогуле знаходзіцца на вельмі нізкім узроўні. Гандаль горада, калісьці надзвычай славуты, асабліва скурамі і футрамі, якія праз Віцебск ішлі ажно да Лейпцыга, цяпер абмяжоўваецца сплавам збожжа, ільну, канаплянага семя і звычайнага тытуню ў Рыгу, а ўзамен прывозяцца адтуль бакалейныя тавары. Чыгунка з Дынабурга да Віцебска, адкрытая ў 1866 г., несумненна, будзе спрыяць яго развіццю.

*1867 г.*

## КАНСТАНЦІН ТЫШКЕВІЧ

Канстанцін Тышкевіч, сын Пія і Аўгусты з Пляттараў, з'явіўся на свет у 1806 годзе ў даўняй вотчыне Тышкевічаў — Лагойску, што ў Барысаўскім павеце. Пачатковае выхаванне атрымаў ён дома, пад кіраўніцтвам настаўніка Гусека і пад наглядам адукаванай і набожнай маці, дабратворны ўплыў якой пакінуў на ўсё яго жыццё глыбокі след у лагоднасці абыходжання і нязломнай сумленнасці. Потым ён быў аддадзены ў езуіцкую школу ў Полацку і заставаўся там аж да закрыцця калегіі езуітаў, а затым год яшчэ вучыўся ў школе ксяндзоў дамініканаў у Забеллі, што ў Віцебскай губерні. Нарэшце, пераехаўшы ў Вільню, скончыў там гімназічныя навукі і ў 1823 годзе паступіў ва універсітэт, на юрыдычны факультэт. Там пад кіраўніцтвам юрыста Капэлі, палітэканома Вашкевіча, гісторыкаў Анацэвіча і Даніловіча і іншых прафесараў набыў ён вышэйшую адукацыю. У 1828 годзе атрымаў пасаду ў былым міністэрстве фінансаў польскага каралеўства і ў інтарэсах банка пасылаўся за мяжу, а пасля заканчэння сваёй місіі цалкам прысвяціў сябе прыватнаму жыццю.

Тут Тышкевічу давялося перш за ўсё выкарыстоўваць тэарэтычныя і практычныя веды ў галіне грамадскай эканомікі. Пачаў ён з таго, што адначасна са спробамі ўзняць сельскую гаспадарку за кошт набыткаў навукі адкрыў у сябе для лагойскіх мяшчан пазыковы банк, адкуль кожны ўладальнік дома атрымліваў паводле заявы і ў адпаведнасці з памерамі нерухомага залогу суму, якую

сплочваў на працягу года ратамі. У 1837 годзе Тышкевіч заснаваў у Лагойску фабрыку льняных і баваўняных тканін, якая праз дзесяць гадоў вырабляла штогодна каля мільёна локцяў рознага палатна і паркалю. Нарэшце, наладзіў у сваім маёнтку майстэрню па ліцці жалезнай руды і пераплаўцы яе на жалеза, прыдатнае для вырабу самых неабходных земляробчых прыладаў, якія да гэтага здалёк, а таму за немалы кошт вымушаны былі прывозіць. Усё гэта было новым, нечуваным у гэтай лясістай і багністай ваколіцы, куды нават рэха эканамічнага поступу пакуль не адважвалася залятаць.

Але Барысаўшчына, побач з выключнай адсталасцю ў прамысловасці, мела такую вялікую кольказсць скарбаў дагістарычных помнікаў, раскіданых на паверхні і ў нетрах зямлі, якая рэдка дзе-небудзь сустракалася. Сам Лагойск, са старажытным замкам валадароў крывіцкай зямлі Рагвалодавічаў, быў асяродкам рассеяных навокала замчышчаў, акопаў, гарадзішчаў і курганоў з дахрысціянскай мінуўшчыны.

З аднаго боку, перад даследчыцкім розумам Тышкевіча паўстаў выгляд гэтых загадкавых помнікаў, ажыўленых шматфарбнымі паданнямі, якіх наслухаўся ён у дзяцінстве; з другога — хуткі поступ даследаванняў старажытнасці некласічнага свету паказваў яму дарогу і заахвочваў да пошукаў. Увесь свет захапляўся пад той час адкрыццямі вялікіх дзеячаў, якія працавалі на полі нядаўна вызваленай навукі. Як Левер'е вылічэннем прадказваў становішча невядомага яму Нептуна, так Небур вызначаў месца, дзе знаходзіліся асірыйскія старажытнасці, якія толькі пазней з-пад зямлі меліся паказацца. Адначасова з Небурам, праўда, менш паспяхова, хоць і з аднолькавым запалам круціліся паблізу Ян Патоцкі, Вацлаў Ржэвускі, Адам Чар-

ноцкі і Таварыства сяброў навукі. Усё гэта некалькі гадоў аддавалася ў вушах Тышкевіча, а цяпер, у вясковай глушыні, мімаволі прыходзіла на памяць і заахвочвала да працы. Вось чаму траха не з хвіліны пасялення ў Лагойску пачаў ён назапашваць кнігі, у якіх расказвалася пра старажытнае мінулае славяншчыны, і прысвяціў сябе археалагічным даследаванням.

З таго часу і да самай смерці, на працягу трыццаці гадоў, не саступаў Тышкевіч з нівы археалагічных пошукаў, якія нястомна праводзіў то сам, разам з братам Яўстафіем, то, зрэшты, у таварыстве з іншымі вучонымі і віленскай археалагічнай камісіяй. Разнастайнасць і мазольнасць працы, бадай суцэльная навізна і складанасць прадмета, скупы і невыразны агеньчык кніжных хранікальных звестак — усё гэта, замест таго каб ахалодзваць, распальвала ў ім ахвоту да ўсебаковага даследавання. Агляд глебы, прамерванне і замалёўка старых замчышчаў, ахвярных гарадзішчаў і капішчаў, раскопванне старасвецкіх магіл, адкрытых ім у розны час болей за 500, складала для Тышкевіча самы працаёмкі бок пошукаў. Аднак гэта было ўсяго часткай задачы, бо сабраны матэрыял вымагаў ад шукальніка навуковага выкладу наконт зробленых назіранняў. Каб наблізіцца да гэтага, трэба было трымаць у памяці ўсё, што захавалі помнікі пісьменства і што аб пачатковай славяншчыне ўзялі ў спадчыну карпатлівыя даследаванні такіх вучоных, як Патоцкі і Шафарык. Адсюль разам з археалагічнымі знаходкамі, з першым урубам у зямлю рос у Лагойску кнігазбор, у якім цяпер поўна каштоўных друкаваных рукапісаў. Калі іх бракавала, даводзілася заклікаць на дапамогу народныя паданні і звычаі, у якіх глухім шолахам адбіваецца рэха даўнейшых вераванняў і падзей. Адсюль ізноў жа пай-

шлі этнаграфічныя даследаванні, дзеля якіх Тышкевіч рабіў нават асобныя падарожжы ўздоўж Дзвіны і Віліі. Урэшце, неабходна было параўноўваць уласныя набыткі з адкрыццямі, здзейсненымі дзе-небудзь, высвятляць іх падабенства і адрозненне, услухоўвацца ў каменне і бронзу, вызначаючы, што ў іх гучала мясцовага, а што аддавалася водгаласам чужаземшчыны. Адсюль вынiклі колькіразовыя навуковыя падарожжы па Еўропе, ад Кракава і Дрэздэна аж да Лондана і Венецыі, а таксама шырокая перапіска з вучонымі.

Вялікая добрасумленнасць і адмоўнае стаўленне да пераносу ілюзорных уяўленняў на абшары мінуўшчыны не дазвалялі Тышкевічу імкнуцца да паказных паспешлівых выступленняў са здабытымі звесткамі, а тым больш да пераймання нярэдкага прыкладу ў напісанні гістарычных дапаможнікаў перад пачаткам дакладных навуковых даследаванняў. Першую сваю працу, і то надта сціплага маштабу, выдаў ён праз пятнаццаць гадоў пасля таго, як прыступіў да пошукаў; апошнюю, як некалі Капернік, убачыў у друку толькі на смяротным ложы. Першай працай Канстанціна Тышкевіча была гістарычная частка ў працы ягонага брата Яўстафія «Апісанне Барысаўскага павета» (1847), дзе не толькі друкаваныя помнікі, але і мясцовыя архівы, і народныя паданні, і крыху археалогію паклікаў ён на дапамогу, дзякуючы чаму не адну невядомую дэталь вывеў на арэну. Другою яго працай на гістарыяграфічным полі, на полі, ужо чыста археалагічным, была кніга «Гістарычныя звесткі пра старажытныя замкі, гарадзішчы і акопы на Літве і літоўскай Русі» (1858), у якой, акрамя вядомых помнікаў, як напрыклад рэшткі замкаў у Заслаўі, Лагойску і Біржах, выводзіць ён колькі дзесяткаў невядомых гісторыкам капцоў і трапна іх класіфікуе.

Адначасна з гэтай вялікай навуковай працай выдаў Тышкевіч першую частку «Помнікаў краёвага гравёрства» (1852) пра некалькі сот гравюр на метале меншага фармату, назапашаных у сваім зборы, папярэдзіўшы яе гістарычным уступам і тлумачэннямі. Другая частка гэтай публікацыі, непрыкметнай, але цікавай для гісторыі мастацтва, у якой пададзены адбіткі з гравюр на метале вялікага фармату, гэтаксама, як і першая, са стараннасцю і нескупым тыражом адбіта на месцы ў Лагойску, не мае яшчэ друкаванага тэксту тлумачэнняў, але, зрэшты, цалкам гатовая, чакае свайго з'яўлення перад публікай.

Падарожжа Тышкевіча ў 1857 годзе па Віліі, ад яе вытокаў аж да вусця пад Коўнам, дало пачатак падрыхтаванай у наступныя гады працы «Вілія і яе берагі пад гідраграфічным, гістарычным, археалагічным і этнаграфічным кутом гледжання». Каштоўная гэтая праца, поўнасцю падрыхтаваная да друку, які затрымаўся з-за неабавязковасці лейпцыгскага друкара Бабровіча, знаходзіцца ў віленскім музеі. Яна забяспечана падрабязнай, на 12 уклейках картай Віліі, падрыхтаванай Шантырам, а таксама 62 малюнкамі, якія выканаў Бартальс. Толькі частку яе пераклаў на рускую мову і надрукаваў віленскі астраном Гусеў; рэштка з немалою шкодаю для навукі застаецца дагэтуль у рукапісу.

Апошняй працай Тышкевіча, якая напачатку павінна была складаць частку названага вышэй апісання Віліі, а пасля разраслася ў асобную кнігу, з'яўляецца вялізны трактат, што друкаваўся да выхаду арыгінала (1865) у скарочаным рускім перакладзе «Пра курганы на Літве і заходняй Русі» (1868). Праца гэтая ў арыгінальным выданні забяспечана 16 вялікімі ілюстрацыямі раскопак. Яна ўбірае ў сябе змест усяго, што на працягу больш

як трыццацігадовых намаганняў здабыў аўтар для высвятлення дагістарычнай мінуўшчыны. Гэтая кніга мае цікавасць нават для людзей, якія не прысвяцілі сябе археалогіі, і будзе нявянучым вянком на магіле незабыўнага працаўніка.

Але не па саміх працах, надрукаваных або падрыхтаваных да друку, належыць меркаваць аб шырокай навуковай дзейнасці Тышкевіча. Трэба бачыць у Лагойску тыя навуковыя скарбы, якія назапасіў ён у сваёй бібліятэцы, тыя фаліянты пратаколаў, якія спадарожнічалі кожнай раскопцы і ў якіх скрупулёзна запісваліся найдрабнейшыя акалічнасці кожнага адкрыцця; трэба прыгледзецца да тых тысяч рэліквіяў, якія ў сваёй большасці здабыты з зямлі ўласнай рукою Тышкевіча, якія не толькі стварылі цудоўны збор старажытнасцяў у Лагойску, але добра папоўнілі публічны віленскі музей; трэба, нарэшце, перачытаць яго шырокую перапіску з навуковымі таварыствамі, членам якіх ён быў,— каб ахапіць сукупнасць гэтай цудоўнай з'явы. Гэта выбягае за межы нашага ўспаміну; але, прынамсі, можна сказаць, што калі ў будучым славянская археалогія стане паходняю ў асвятленні дагістарычнай мінуўшчыны, то будзе абавязана такім працаўнікам, як Тышкевіч. Па ягоных працах, зборах і спосабах пошукаў належыць вучыцца цярплівасці ў працы, погляду на найдрабнейшыя дэталі, уменню стрымліваць фантазію, якая лёгка ўспыхвае, словам, усякім якасцям, захаванне якіх толькі і прыводзіць да сапраўдных навуковых адкрыццяў. Са славянскай археалогіяй цяпер так, як з граматыкай у часы Стаеньскага і Сматрыцкага; многа вады павінна сплысці, пакуль параўнальная археалогія зробіць для гістарычнай навукі столькі, колькі параўнальная лінгвістыка робіць сёння для мо-

вазнаўства. Між тым трэба задавальняцца клапатлівай падрыхтоўкай запасаў — а зрэшты, «час усё зробіць, бо мае час».

Акружаны агульнай павагай як вучоны і як чалавек сумленны і таварыскі ў жыцці, памёр Канстанцін Тышкевіч у губеранскім Мінску 13 ліпеня 1868 года. Ад шлюбу, узятага ў 1836 годзе з паннай Паўлінай Цеханавецкай, пакінуў ён адзінага сына Аскара, які ўзорна ўтрымлівае маёнтак і каштоўныя навуковыя скарбы, атрыманыя ў спадчыну. Не сумняваемся, што прыклад шаноўнага бацькі будзе для сына арыенцірам.

*1868 г.*

# РАМУАЛЬД ЗЯНЬКЕВІЧ

Трыццаць — сорак гадоў назад наша літаратура шчыравала вакол збірання народных песень, прытчаў і паданняў. Гэты рух, як усе амаль кірункі і перамены, якія надалі абліччу пісьменства мясцовы выгляд і каларыт, бярэ пачатак ад Міцкевіча. Будучы яшчэ студэнтам, прыкладна ў 1820 годзе, ён пачаў запісваць падслуханыя ў народа матывы, на якіх пазней засноўваў свае балады, некаторыя байкі і цэлыя ўрыўкі «Дзядоў» і нават адну сцэну «Пана Тадэвуша». Бачачы столькі самародных скарбаў, створаных у глыбінях сялянскага духу, як жэмчуг у прадоннях акіяна і дыяменты ў руінах Галконды, бачачы, з якім майстэрствам паэт вырабляе з іх аздобы, вартыя каралеўскіх скроняў, многія як мага кінуліся збіраць гэтыя скарбы, што да таго часу былі закінуты. Дзесьці ад 1830 да 1845 года не было года, каб не з'явіўся якісьці новы збор або зборнік народнай літаратуры... Былі надзеі знайсці ў народных творах і аснову роднай паэзіі, і зачаткі славянскай філасофіі, і нават праліць святло на дагістарычнае мінулае. Надзеі гэтыя ў асноўным не апраўдаліся, але не так па віне беднасці народнай творчасці, як праз няўменне карыстацца яе запасамі. Для мастака недастаткова спазнаць гэты гербарый, засушаны ў кнігах; трэба жыць з самім народам. «Nur wenn er glühet, labet der Quell», як добра сказаў Шылер. Мы бачым, што гэта ажыццявілі Міцкевіч, Залескі, Ленартовіч, Сяменьскі, якія непасрэдна ў народа чэрпалі. Што да выкарыстання народнай літаратуры ў філасофскіх

і гістарычных даследаваннях, цяжка пра гэта штонебудзь станоўчае сказаць, бо рукі да такой працы не прыкладаліся. Стосы назапашаных матэрыялаў буцвеюць у чаканні, пакуль ясная, падтрыманая шырокай навукай галава ўсё адным промнем думкі не ахопіць. Сціплая папярэдняя праца мужоў, якія прысвяцілі сябе запісванню народнай літаратуры, хоць і не поўнасцю ім належыць, аднак ад гэтага іх заслуг не прыніжае.

Рамуальд Зянькевіч у тых клопатах вакол збірання твораў народнай літаратуры належаў да ар'ергарду шчыравання. Апошні, здаецца, ён выйшаў у поле, і кніжка яго, калі не памыляемся, з'яўляецца апошняй вязанкай сабраных ім валошак і руты.

Нарадзіўся ён 1 лютага 1811 года ў Свянцянскім павеце Віленскай губерні ад бацькоў Шымана Зянькевіча і Канстанцыі з Самсановічаў. Вучыцца пачаў у 1820 годзе ў тагачаснай павятовай школе ў Паставах, адкуль у 1822 годзе перайшоў у Віленскую гімназію, а ў 1826 годзе паступіў на літаратурнае аддзяленне тамашняга універсітэта. Скончыўшы універсітэт у 1830 годзе са ступенню сапраўднага студэнта, некалькі гадоў займаўся выхаваннем моладзі ў прыватных дамах, пакуль у 1844 годзе не атрымаў пасаду настаўніка ў Росенскай павятовай школе. Аднак месца ў школе неўзабаве, у тым самым годзе, ён вымушаны быў вызваліць з-за адчувальнай для кожнага, але вельмі сумнай для разумовых працаўнікоў страты зроку. З таго часу ён зноў пачаў займацца прыватным настаўніцтвам, якое не пакідаў траха ні да апошняй хвілі жыцця. Адно з такіх хатніх настаўніцтваў трымала яго некалькі гадоў у доме князёў Геранімоўства Друцкіх-Любецкіх, і гэта прывяло яго да збліжэння з пінскім людам, збор песень і апісанне звычаяў якога сталіся самай выдатнай заслугаю Зянькевіча.

Заціснуты паміж Прыпяццю і Дняпром і апісаны паводле сумніцельных здагадак Герадотам, край той зусім не стаў прыдатнай глебай для развіцця мастацтва. Роўны, лясісты, багністы, пясчаны, неўрадлівы, імглісты і шэры, не дае ён багатага пасілку ні розуму, ні целу. Аднак прага прыгожага так моцна звязана з душой чалавека, што нават пакрыўджаны прыродаю пінскі люд умеў стварыць песеньку. Дзіўна шэрыя тыя песні, дзіўна аднастайныя і сумныя, бо нават калядныя і жніўныя, нават вясельныя песні спяваюцца там у мінорным тоне. Іх трэба было ўведаць і сабраць, і паколькі ніхто, маючы на гэта менш перашкод, нічога не зрабіў, Зянькевіч, дарма, што калека, узяўся за такую працу. Праз некалькі гадоў, калі ён пасяліўся ўжо ў Вільні, выйшлі ў 1851 годзе ў Коўне «Народныя песенькі пінскага люду» ў беларускім арыгінале з вершаваным перакладам збіральніка і з тлумачэннямі абрадаў, пры якіх бываюць спевы. Даволі вялікі том гэтага збору ўключае болей за 200 песень; некаторыя з іх блізкія да спяваных у іншых ваколіцах, некаторыя ж, зусім невядомыя ў іншых мясцінах, узбагацілі матэрыял у мастацкіх і бытавых адносінах для будучага песняра і даследчыка. Бо спеў гэты хоць і не бойкі, але заўсёды будзе служыць прыгожаму.

Як дапаўненне гэтага збору трэба лічыць працу Зянькевіча «Пра чары і звычаі пінскага люду, а таксама пра характар яго песні», надрукаваную ў «Бібліотэцы Варшавскей» за 1852 і 1853 гады, а пасля выдадзеную асобнай брашурай. Даследаванне гэтае вельмі добра паказвае тую пустэчу мастацкай стыхіі, сярод якой стварыў сваю тужлівую песню люд над Пінаю і ніжэйшым Гарынем. Няма чаго дзівіцца, што не зраўняўся з сербамі ці хоць бы з блізкімі па крыві маларусамі; хутчэй трэба дзівіц-

ца на тое, што нават у такіх умовах здолеў тварыць.

Што б там ні было, Зянькевіч добра зрабіў, што даў нам мажлівасць спазнаць Піншчыну з таго боку ўнутранага жыцця палескага насельніцтва, які да яго цалкам быў невядомы, што намаляваў яго сумным, з завязаным вакол галавы даматканым палатном, з думкай пра чараўнікоў і тапельцаў як надзвычай дзівосных з'явах, добра зрабіў, што намаляваў дакладна і з высакароднай любоўю.

Акрамя згаданых прац, пісаў Зянькевіч для зборнікаў, што выдаваліся ў Вільні, а таксама падрыхтаваў два зборнікі арыгінальных вершаваных твораў, з якіх адзін выйшаў у Вільні ў 1856 годзе пад назвай «Вершаваныя спробы», другі — тамсама ў 1857 годзе пад назвай «Вяселле, дашлюбны падарунак». Паэзіяй у высокім сэнсе гэта нельга назваць: творам яго не хапае вобразнасці і каларыту, а таксама вышэйшага лірычнага настрою; але думкі ў іх здаровыя, сагрэтыя цяплом пачуцця і любоўю да дабра ў людской зласлівасці, і выказаны яны гладкім, прывабным радком.

Апошнія дні жыцця, нароўні з настаўніцкімі клопатамі, Зянькевіч займаўся вывучэнннем польскай літаратуры і педагогікі. У рукапісу засталіся «Гісторыя польскай літаратуры», даведзеная да часу Міцкевіча, праца «Пра выхаванне моладзі, з пералікам абавязкаў бацькоў і настаўнікаў», а таксама «Сістэматычны агляд усіх навук». Папулярны і паважаны сярод знаёмых, якіх прыцягваў добрасумленнасцю і мяккасцю характару, Зянькевіч перанёсся ў вечнасць у Вільні 11 верасня 1868 года.

*1869 г.*

# ЯЎСТАФІЙ ТЫШКЕВІЧ

Лагойшчына ў павеце Барысаўскім, дзе нарадзіўся Тышкевіч, як бы створана прыродай і гісторыяй для сямейнага гнязда даследчыкаў старажытнай мінуўшчыны. Густая сетка балот, якія шырока цягнуцца па берагах Дзвіны і Дняпра, мноства рэк і рачулак, што імкнуцца да гэтых галоўных артэрый, а з імі да Балтыйскага і Чорнага мораў, глыбокія і непраходныя лясы, што наяршыліся з аднаго боку ад Палесся, а з другога — ад Дзісненшчыны, спрадвеку былі і да гэтага часу застаюцца як бы натуральнымі сценамі з абодвух бакоў прасторы, на якой асела Барысаўшчына. Дык вось і ў дагістарычны час, аддаленасць якога нават прыблізна немагчыма вызначыць, і ў пазнейшы, і ў наш час гэты праход бесперапынна быў гасцінцам вандровак народаў і навалы ўзброеных атрадаў. Сляды паходаў многіх дагістарычных пакаленняў, што цягнуліся, відаць, гэтым шляхам з усходу на захад, засталіся тут у курганах, акопах і магілах з розных часоў, ад найдаўнейшых, з эпохі камення, да найпазнейшых, з эпохі жалеза. Пачаткі аседласці, напэўна, ужо славянскага племя захаваліся ў густа раскіданых замчышчах, для якіх Лагойск быў якраз цэнтрам, а можа, і ключом абароны, асяродкам цывілізацыі ў гэтым краі. Але ад тых часоў, што адышлі ў старасвецкую памроку, Барысаўшчына была ўжо толькі ваенным шляхам, на якім, як вядома, трава і розум не растуць. Ад пачатку XII стагоддзя, калі сваркі паміж кіеўскімі і полацкімі князямі прынеслі ў Лагойск пажар, не было ўжо

такой вялікай вайны паміж усходам і захадам Еўропы, дарога якой тут бы не праходзіла. Праз Барысаўшчыну цягнуліся атрады Вітаўта, Свідрыгайлы, Аляксандра Ягелончыка, Зыгмунта I, Філона Кміты, Баторыя, Зыгмунта III, цара Аляксея і Чарнецкага, Карла XII і Пятра Вялікага, Напалеона I і Чычагава. Усё гэта — ад найдаўнейшых курганоў да апошняга паходу заваёўніка Еўропы, снуючыся ў простых розумах люду, вымушанага калісьці надта часта хавацца па лясах, а таму схільнага да фантазіі, станавілася ўтокам незлічонай колькасці паданняў і казак, якімі шчабятлівыя нянькі ўжо ад калыскі забаўляюць або страшаць дзяцей. Так між помнікамі і людзьмі абыякавае суседства змяняецца паволі на сардэчную блізкасць, а калі яшчэ адукацыя прыйдзе на дапамогу розуму, то чалавек часцяком сам не ведае, як і калі ён стане даследчыкам. Гэтак было з памерлым колькі гадоў назад Канстанцінам і са згаслым нядаўна Яўстафіем, роднымі братамі Тышкевічамі.

Яўстафій, сын Пія, бацька якога быў старастам стралкоўскім, і Аўгусты з Плятараў Тышкевічаў, нарадзіўся ў Лагойску 6 красавіка 1814 года. Паводле звычаю, які цяпер практыкуецца радзей, чым у той час і не настолькі ўжо, як тады, прызнаецца за правіла добрага тону, першую адукацыю набываў ён дома, пад вокам бацькоў, ад настаўнікаў і настаўніц са старэйшых класаў мінскай гімназіі. Тагачасныя падзеі неўзабаве перашкодзілі працягваць далейшую вучобу, і Тышкевіч, замест таго каб застацца на школьнай лаўцы, апынуўся ў наступным годзе ў Пецярбургу. Яго разумовае выхаванне не давялося дапоўніць вышэйшай і глыбейшай школьнай вучобай; засталося яно элеганцкім, вытанчаным, усяведным, але не глыбокім. Тышкевіч не меў нават магчымасці дасканальна вывучыць

латынь, гэты неабходны сродак да заглыблення ў краёвую гісторыю. Аднак ужо ў ранняй маладосці, акружаны помнікамі розных вякоў і народаў, навучыўся ён сягаць думкай і сэрцам па ланах мінуўшчыны, а выгляд скарбаў пальскага гісторыязнаўства ў царскай публічнай бібліятэцы ў Пецярбургу канчаткова яго запаланіў і пацягнуў на дарогу даследаванняў. Гэта ў сваю чаргу выклікала тое, што юнак вяльможнага і заможнага дому, пайшоўшы за рэдкім у гэтых сферах прыкладам, кінуўся да самастойнага папаўнення ведаў і, можна сказаць, уласнымі рукамі назапасіў вялікія скарбы гістарычнай навукі.

Узброены накшталт таго старажытнага літвіна, які ўвесь свой ваенны рыштунак выраўляў уласнымі рукамі, Тышкевіч прыступіў перш за ўсё да таго, што спакушала яго ў маладыя гады чароўнасцю таямніцы, і пачаў з раскопак курганоў у ваколіцах Лагойска, каб пасля гэтыя каштоўныя і карпатлівыя, а ў дадатак часта падманлівыя пошукі расцягнуць на ўсю паўночную Літву. Васьмігадовыя, ад 1835 да 1842 года, пошукі ў гэтых межах з незвычайным веданнем справы, што можа даць толькі непасрэднае судакрананне з рэчамі, і са сціпласцю чалавека, які праніклівымі вачыма бачыць перад сабою некранутыя абшары, поўныя незвычайных загадак, выклаў ён у працы «Беглы агляд крыніц краёвай археалогіі ці апісанне некаторых помнікаў старажытнасці, адкрытых у заходніх губернях царства Расійскага» (Вільня, 1842). Гэтая першая друкаваная праца Тышкевіча, што была таксама першай на польскай мове сістэматызаванай працай пра мясцовую дагістарычную археалогію і пачыналася з эпіграфа — залатой парады Максіміліяна Фрэдры «чужое ведаць цікава, а сваё неабходна», мала на сябе звярнула ўвагі, і сёння яшчэ «па зні-

жанай цане» яе можна знайсці ў кнігарнях. Аднак яна была варта лепшага лёсу, хоць бы таму, што ахоплівала ўсе прадметы дагістарычнай старажытнасці: курганы, слёзніцы, жаночыя ўпрыгожанні, металічную зброю, каменныя малаткі, манеты, ідалы і іншыя прадметы, якія складаюць археалагічныя знаходкі, а таму для незнаёмых з археалогіяй і шматлікіх пад той час яе аматараў магла быць добрасумленным даведнікам. Для нас яна мае іншую яшчэ вартасць: аўтар ведаў норавы і звычаі вясковага люду, які топчацца па курганах, дзе вяліся пошукі, і захаванымі да нашых дзён у надбярэзінскіх лясах абрадамі, якія ідуць з дагістарычных часоў, растлумачыў адкапаныя рэчы. Пасля Чарноцкага і Тышкевіча іншыя, не ведаючы жыцця народа, занядбалі хадзіць гэтай дарогай. Трэба дадаць толькі, што «Беглы агляд крыніц краёвай археалогіі», забяспечаны многімі і ладнымі літаграфіямі занядбанага цяпер Азямблоўскага, выйшаў за кошт аўтара.

Ледзь з'явілася гэтая праца, Тышкевіч ужо думаў над новым мерапрыемствам. Айчына рабаўнікоў нарманаў вабіла археолага незлічонай колькасцю помнікаў дагістарычнага свету, асабліва каменных малаткоў, даволі распаўсюджаных і цудоўна адгладжаных на Літве. Не адна сотня іх, розных па велічыні і апрацоўцы, знаходзілася пазней у археалагічным музеі ў Вільні. Калі нядаўна ў Францыі знайшлі пару такіх малаткоў, то гаварылі, што неба адчынілася перад шчаслівым знаходнікам. Акрамя таго, Швецыя для польскага даследчыка заўсёды будзе мець іншую, жывейшую прывабнасць. Часткова дынастычныя стасункі, але куды больш ваенныя грабяжы, якія неаднаразова паўтараліся ва ўсёй Польшчы і невядома колькі ўжо разоў у Інфлянтах, перанеслі ў шведскія храмы, скарбніцы,

музеі і бібліятэкі мноства твораў мастацтва, кніг і дакументаў, якія паходзілі з Польшчы. Ганяўся ўжо за імі па шведскіх гарах і лагчынах Альбертрандзі і склаў каштоўны каталог, які дагэтуль застаецца ў невядомасці; ганяюцца таксама сённяшнія даследчыкі, сярод іх нястомны Ярахоўскі. На чале гэтых апошніх ідзе ў 1843 годзе Я. Тышкевіч, бо Пшэздзецкі, які да яго наведаў тую краіну, нічога пра захаваныя там польскія памяткі не згадвае ў «Восеньскіх успамінах», а для пазнейшых сваіх прац ён меў ужо цудоўнага памочніка ў двухтомных «Лістах пра Швецыю» Тышкевіча (Вільня, 1846). Падарожжа ў тую краіну, як паведамляе сам аўтар, было выклікана тым, што ні ў якіх апісаннях і ўспамінах ён «не знайшоў дастатковых звестак пра тое, што хавае Швецыя ў адносінах польскай гісторыі, а таму вырашыў наведаць яе з гэтай мэтаю». У апісанні, аднак, яму давялося неаднаразова адступіць ад задуманай праграмы: знаходзім тут і беглы погляд на сучасны стан Швецыі, і звычаі яе народа, параўнаныя з літоўскімі, і расказы пра багацці дагістарычных шведскіх помнікаў, словам, усяго патрохі, як звычайна бывае ў творах такога жанру. Галоўнае ж месца ў кнізе займаюць польскія памяткі, рассыпаныя па Швецыі, і ў гэтых адносінах праца Тышкевіча адкрыла даследчыкам невычэрпную крыніцу невядомых і непрадчуваных рэчаў; праз трыццаць гадоў пасля яе выдання яшчэ ў многіх адносінах могуць выкарыстоўваць яе не толькі неспецыялісты, але і гістарычныя пісьменнікі па прызванню. Маляўнічасць апавядання і гарачае аўтарскае пачуццё даюць уяўленне пра аснову кнігі. У нашай беднай літаратуры, прысвечанай апісанню падарожжаў, праца Тышкевіча паводле яе ўнутраных вартасцяў, здаецца, займае першае месца.

Гаворачы аб «Лістах пра Швецыю», нельга, хоць і прыкра, не ўспомніць аб плётцы, якая, як асот, прычапіўшыся да гэтай працы, знайшла водгалас нават у журналістыцы. Аўтарства кнігі Тышкевіча зласліва прыпісвалася Мікалаю Маліноўскаму, які ажно ў часопісах вымушаны быў абвяргаць гэты паклёп. Маліноўскі сапраўды меў пэўнае дачыненне да гэтай працы, але такое, якое меў амаль да ўсіх гістарычных выданняў у Вільні, асабліва тых, якія выходзілі ў друкарнях Завадскага і Глюксберга. Калі Ляховіч знайшоў у публічнай бібліятэцы ў Пецярбургу арыгінал «Успамінаў» Паска (спіс якога, невядома калі зроблены, падаў пазней у познаньскім выданні), то прыслаў неапрацаваную яго копію Глюксбергу для выдання. Маліноўскі, запрошаны прагледзець рукапіс, растлумачыў у тэксце безліч макаранізмаў, лацінскія выразы папераносіў у заўвагі, а ў анатаваным спісе рэчаў столькі змясціў тлумачэнняў, што віленскае выданне Паска зрабіў куды больш карысным за познаньскае. Калі Пшэздзецкі з Грабоўскім пачалі выдаваць у Вільні «Крыніцы польскай гісторыі», Маліноўскі, атрымаўшы першыя аддрукаваныя аркушы гэтай працы, такія напісаў да іх «папраўкі і тлумачэнні», што не толькі вымушаны былі змясціць іх з імем аўтара ў канцы тома, але і ўсё далейшае выданне дstation Маліноўскаму. Калі Кандратовіч напісаў біяграфію Кромера для свайго перакладу «Польшчы», Маліноўскі, упрошаны да карэктуры, цэлыя старонкі пазапісваў удакладненнямі з крыніц, большай часткай невядомых. Тое ж самае з «Лістамі пра Швецыю». Тышкевіч, як ён сам піша ў прадмове, яшчэ да падарожжа атрымаў ад Маліноўскага нататкі Альбертрандзі, якія падказвалі яму, што можна шукаць, прынамсі, там, дзе ўжо ён меў папярэдніка. А паколькі праца друкавалася ў адсутнасці

аўтара, занятага пад той час маршалкоўствам у Барысаве, то не без таго, каб запрошаны прасачыць за друкам Маліноўскі не дадаў чаго-небудзь прыязнай рукою. Дастаткова, аднак, параўнаць манеру пісьма Маліноўскага і Тышкевіча ў іх розных працах, каб пераканацца, што нічога іншага, акрамя таго, пра што мы сказалі, не было. Таму няхай нагавор, прынамсі над магілаю, не падаё ўжо голасу.

Будучы раней абраны ганаровым куратарам барысаўскіх школ і ўвекавечыўшы гэтую службу падараваным на школу домам, Тышкевіч у 1844 годзе, стаўшы маршалкам шляхты Барысаўскага павета, задумаў гэты перыяд свайго жыцця таксама ўвекавечыць добрым учынкам. Так, за яго кошт і сумеснымі намаганнямі некалькіх грамадзян, сярод якіх браты Тышкевічы ігралі самую дзейсную ролю, узнікла «Апісанне Барысаўскага павета пад статыстычным, геаграфічным, гістарычным, гаспадарчым, прамыслова-гандлёвым і медыцынскім кутом гледжання, з дадаткам звестак аб звычаях, спевах, прымаўках, народных уборах, чараўніцтве, забабонах...» (Вільня, 1847, з асобна выдадзенаю картаю). Агромністая гэтая праца, якая дае надзвычай каштоўныя звесткі пра характар глебы, земляробства, прамысловасць і гандаль Барысаўшчыны, носіць, аднак, вельмі прыкметныя рысы асабістага настрою Тышкевічаў: амаль тры чвэрці ўсёй кнігі займаюць апісанні курганоў, замчышчаў, гістарычныя ўспаміны, этнаграфічныя працы. У прыватнасці, збор народных песень і прымавак з'яўляецца вельмі каштоўным на той час, калі ні Чачот, які збіраў песні над Нёманам, ні іншыя, хто круціўся над Прыпяццю, Віліяй і Святаю, не заглядвалі ў той бок, да Бярэзіны. На вялкі жаль, іншыя маршалкі не даўмеліся пайсці за такім дабратворным прыкладам; праз дзесяць з нечым гадоў можна бы-

ло б на гэтай дарозе дасягнуць такога апісання краю, да якога літаратурнаму цэху, па сутнасці, узняцца немагчыма.

Закончыўшы трохгадовую службу ў Барысаве, Тышкевіч, абраны куратарам гімназіі ў Мінску, пераехаў у гэты горад і тут, паводле службовага абавязку, быў членам устаноўленай губернатарам, як і ў іншых літоўскіх губернях, камісіі для збору і публікацыі даўніх актаў і прывілеяў, што захоўваліся ў архівах горада, і кляштараў. Дакументы, сабраныя мінскай камісіяй, даволі няўмела былі растлумачаны і выдадзены з памылкамі ў тоўстым томе пад назвай «Збор старажытных грамат і актаў гарадоў Мінскай губерні...» (Мінск, 1848). Зыходзячы з невядомых па іншых крыніцах прозвішчаў асоб, што складалі камісію, якая займалася гэтым выданнем, можна заключыць, што ўсю вартасць гэтай кнігі як неапрацаванага гістарычнага матэрыялу, які больш за ўсё паслужыў пазней Кандратовічу ў напісанні хронікі Мінска, належыць прыпісаць удзелу Тышкевіча.

Аднак ні службовыя абавязкі, ні корпанне ў архівах не маглі цалкам адарваць Тышкевіча ад улюбёных пошукаў з матыкай старажытніка ў полі. Плёнам гэтай працы ён зноў падзяліўся ў кнізе «Археалагічныя даследаванні помнікаў мастацтва і рамёстваў...» (1850). Гэтая кніга невялікая, але вельмі цікавая з таго пункту гледжання, што нічога ў ёй няма пазычанага, а ўсё, што аўтар напісаў пра акопы, курганы і каменную зброю, было вынікам уласных яго адкрыццяў і вывадаў. Выдатна, з уласцівым яму тонкім гумарам характарызуе ён тут археалагічныя спрэчкі на Захадзе, якія кропля ў кроплю, як і сёння, «напачатку былі толькі шуміхаю людзей, якія не разумелі адзін аднаго; пазней раздражненыя ўласныя сімпатыі яшчэ больш зацямнілі

прадмет спрэчак». Тышкевіч шкадуе, што славянская і літоўская археалогія не ўзняліся да такой ступені дасканаласці, як археалогія егіпцян, этрускаў, грэкаў і рымлян. Адной з прычын гэтага ён называе «адсутнасць у нашым краі навуковых таварыстваў» — а ад гэтага да думкі пра арганізацыю такога таварыства быў адзін крок.

Заняты ўстараненнем амаль неадольных цяжкасцяў, што паўставалі на дарозе да стварэння археалагічнага таварыства і адкрыцця публічнага музея старажытнасці ў Вільні, Тышкевіч адначасна напружваў сілы галавы і кішэні на збіранне гістарычных памятак і навуковай бібліятэкі, каб ахвяраваць іх, як краевугольны камень, музею. Цягнулася гэта да 1856 года; у гэты час пісьменніцкая праца была адсунута ўбок і абмежавалася выданнем дробных гістарычных матэрыялаў. У 1853 годзе стараннем Тышкевіча быў выдадзены ў Вільні «Рукапіс ксяндза Багінскага, дамінікана літоўскай правінцыі», які ахоплівае асобна запісаныя краёвыя выпадкі, ад 1747 да 1784 года. Гэты рукапіс, знойдзены ў бібліятэцы гродзенскіх дамініканаў, не мае надта вялікай вартасці і далёкі ад Кітовіча, як неба ад зямлі, але ў ім ёсць некалькі падрабязнасцяў, невядомых па іншых крыніцах, і ён забяспечаны многімі заўвагамі самога Тышкевіча і часткова Людвіка Кандратовіча. З той жа самай дамініканскай бібліятэкі ў Гродне паходзіў і другі рукапіс, выдадзены Тышкевічам у брашуры «Рахункі літоўскага падскарбства 1648—1652» (Вільня, 1855). Апошнім яго выданнем у гэты перыяд жыцця былі «Карла X Густава, караля шведскага трафеі і сталовыя прыборы, здабытыя Стэфанам Чарнецкім у 1656 годзе» (Вільня, 1856). Раскошна аформленае гэтае выданне, акрамя цудоўных хромалітаграфій аб здабытых пад Сандамірам у шведскага караля трафеях, якія

дагэтуль захоўваюцца ў прыватных руках, змяшчае некалькі лістоў Чарнецкага і Любамірскага, якія тычацца паражэння шведаў. Кніга выйшла на польскай і французскай мовах як юбілейная памятка да двухсотгоддзя таго паражэння.

Аднак усё гэта было толькі мілай разрыўкаю сярод клапатлівага хаджэння вакол справы археалагічнага таварыства і музея краёвых старажытнасцяў, а таксама назапашвання ў той жа час памятак для іх ва ўласным доме Тышкевіча на прадмесці Антокаль у Вільні. Нарэшце старанні яго настолькі паспяховы набылі паварот, што ў 1853 годзе тагачасны віленскі генерал-губернатар Бібікаў далажыў пра гэта ў Пецярбургу, а 29 красавіка (11 мая) 1855 года наступіла высачэйшае зацвярджэнне статута археалагічнай камісіі і музея старажытнасці. Іх пажыццёвым старшынёю і куратарам, згодна таго ж статута, стаў Тышкевіч. Для размяшчэння збораў і правядзення пасяджэнняў было атрымана адно меншае крыло ў вялікім будынку былога універсітэта, дзе ў вялікай ніжняй зале пасяджэнняў склалі старажытнасці і памяткі, а ў зале над ёю размясцілі арніталагічны кабінет, дарунак Райнольда Тызенгаўза, на трэцім паверсе — мінералагічны кабінет, заснаваны на астатках былога універсітэцкага кабінета. Побач з гэтымі заламі, унізе, у вялікім пакоі, што быў калісьці кухняю езуіцкай калегіі, пачала ўзнімацца па сценах бібліятэка, і там, дзе калісьці бразгалі нажы і смажыліся славутыя кляштарныя «пампушкі», мы ўрачыста дыскутавалі на звычайных штомесячных пасяджэннях камісіі. Тышкевіч аддаў музею ўсе свае зборы, назапашаныя за дваццаць гадоў вялікай затратай часу і грошай, а часткова выкарыстаннем шырокіх сваяцкіх сувязяў і знаёмстваў. Археалагічныя знаходкі, манеты і медалі, гравюры, карты, гравюры

па металу, партрэты, бюсты, самыя разнастайныя гістарычныя рэчы, аўтографы, рукапісы і кнігі Тышкевіча, павялічаныя такім жа ахвяраваннем цудоўнага старажытніцкага збору А. Г. Кіркора, памножаныя пастулова шматлікімі прыватнымі ахвяраваннямі, стварылі адзіны ў нас такога роду публічны збор старажытнасцяў, з якім ні зборы познаньскага Таварыства сяброў навукі, ні кракаўскага Таварыства навуковага, ні тым болей львоўскага сховішча Асалінскіх не маглі ісці ў параўнанне. Няма сэнсу закранаць мне хоць бы самыя выдатныя бакі гэтай інстытуцыі; цікаўны чытач знойдзе некаторыя падрабязнасці ў «Прагулках па Вільні» Яна са Слівіна і ў маім артыкуле пра Вільню ва Усеагульнай энцыклапедыі (т. XXVIII, с. 113). Тут жа варта сказаць пра тое, што Тышкевіч, паводле біблейскага выразу, быў сапраўды «жывой душою» нашай археалагічнай камісіі; за яго кошт ажыццяўляліся таксама выданні музея, бо штогоднай урадавай дапамогі ў памеры 1000 рублёў срэбрам не ставала нават на адпаведнае ўтрыманне будынка і збораў, якія налічвалі некалькі дзесяткаў тысяч прадметаў. Усе яго пачуцці і думкі, увесь сэнс жыцця сканцэнтраваўся ў гэтых мурах, ператураных па ягонай волі ў храм памятак.

На працягу дзевяцігадовага існавання музея і археалагічнай камісіі, ад урачыстага адкрыцця 17 (29) красавіка 1856 года да 11 (23) сакавіка 1865 года, Тышкевіч, гэтаксама як і ў час падрыхтоўкі гэтых інстытуцый, мала пісаў. З таго перыяду ледзь набіраецца пару дробных нарысаў і адна шырэйшая, вельмі цікавая, але адначасна паспешлівая праца «Гістарычныя звесткі пра ўзнікненне і фундацыю мужчынскіх і жаночых рымска-каталіцкіх кляштараў у віленскім біскупстве» (Вільня, 1858; у «Тэцы Віленьскей» і ў асобнай адбітцы).

Галоўны матэрыял гэтай працы складаюць адзіныя ў сваім родзе «хронікі», якія, паводле просьбы Тышкевіча, падмацаванай загадам біскупа Вацлава Жылінскага, абавязана было скласці ў адпаведнасці з праграмай манаскае і свецкае духавенства пра ўсе храмы, што заставаліся ў іх уладаннях. Духавенства біскупства даслала некалькі соцень такіх хронік, напісаных з большым або меншым уменнем, але заўсёды вельмі цікавых з прычыны невядомых звестак. Частка іх, прапушчаная праз сіта крытыкі і дапоўненая з друкаваных і рукапісных крыніц, якія былі сабраны ў папярэднія гады пад час археалагічных экскурсій, утварыла згаданую працу. Другая частка паслужыла багатым утокам Кандратовічу да ягоных «Экскурсій па Літве». Рэштка, некранутая яшчэ, павінна была застацца ў прыватным зборы Тышкевіча.

Збег акалічнасцяў выклікаў паўторны зварот нашага даследчыка да ранейшых пошукаў і пісьменніцкай працы. На пасяджэнне археалагічнай камісіі 11 (23) сакавіка 1865 года прыбыў генерал Сталыпін, вядомы па артыкулах у «Віленскім весніку», перапоўненых грэчаскімі цытатамі, і нечакана прапанаваў рэарганізаваць музей старажытнасці. Тышкевіч па абавязку старшыні адказаў, што, паводле статута камісіі, усякая важная прапанова можа быць разгледжана толькі на наступным пасяджэнні і яе ён адкладвае да красавіцкага пасяджэння. Паколькі па-за межамі камісіі нельга было дайсці да паразумення ў дэталях рэарганізацыі, то не дайшло ўжо і да таго красавіцкага пасяджэння: Тышкевіч, адракаючыся ад пажыццёвага старшынства, абумоўленага яму статутам, падаў у адстаўку, якая была прынята. Зборы перайшлі пад кіраўніцтва спецыяльнай камісіі, складзенай з настаўнікаў мясцовай гімназіі і школы рабінаў, Тышкевіч жа,

пабыўшы яшчэ некалькі месяцаў у Вільні, пераехаў на сталае жыхарства ў мястэчка Біржы, у маяратны маёнтак свайго сваяка Міхала Тышкевіча, графа на Жмудзі. Там, нягледзячы на штораз цяжэйшы заняпад здароўя, прыгадаў ён маладыя гады, калі давучваў краёвую гісторыю і латынь, і пачаў вучыцца па-жмудзінску, збіраць народныя паданні, песні і прымаўкі, раскопваць курганы, назапашваць для маярата новую скарбніцу памятак і варушыць яго некранутыя старасвецкія архівы. Словам, як у казцы пра заваражаную каралеўну, вярнулася да таго, што было многа гадоў раней.

Жывы розум і бойкае ўяўленне раней адцягвалі Тышкевіча ад старажытніцтва і гісторыі да прыгожых мастацтваў; аднак толькі зрэдку, і то не поўнасцю ён аддаваўся ім, апісваючы ў манеры апавядальных нарысаў партрэты рэчаісных тыповых постацяў, гістарычныя ўспаміны і народныя паданні. Як паведамляе Тышкевіч, у іх вывядзенні ён «стараўся, наколькі магчыма, натрапіць на пэўны род пісьмовай фатаграфіі, якая б фізіяномію, знятую з натуры, найпраўдзівей выявіла». Такі пункт гледжання, зразумела, не прыводзіў да твораў мастацтва ў поўным значэнні гэтага слова, але прыводзіў да такіх нарысаў, як тыя неацэнныя «Крыжацкія брады» Шайнохі. Нарысы Тышкевіча, за выключэннем меншай квяцістасці і бляску, а таксама неінтэлектуальнасці тэматыкі, на самай справе не пасаромеюцца параўнаныя з такімі ж дробнымі працамі Шайнохі. Першым з іх было апавяданне пра вандроўнага ўтрыманца «Пан Харошча» (Вільня, 1842); наступнай была аповесць «Другая жонка» (Вільня, 1844), у аснове якой ляжала сучаснае нешчаслівае сужыццё ў сям'і; трэцім — урывак гісторыі з радзівілаўшчыны, укладзены ў вусны «пана Мікалая» (Маліноўскага), пад загалоўкам «Фрыдэ-

рык Бахстром» («Кур'ер Віленьскі», 1862 і асобна ў 1864). Дадаўшы да гэтага чацвёртае апавяданне — «Гарадзішча», узятае з сапраўднага выпадку ў жыцці сялян, кантраставанага галерэяй такіх жа сапраўдных віленскіх постацяў, Тышкевіч стварыў асобную кніжку, якую пасля ад'езду з Вільні выпусціў пад назвай «Вобразы хатняга жыцця на Літве» (Варшава, 1865). Неўзабаве з'явіўся другі том гэтага зборніка, складзены з твораў, да таго недрукаваных (Кракаў, 1866). Далейшым працягам публікацыі былі адзінкавыя апавяданні: «Вінцэнт Марэвіч», замалёўка жыцця пацешнага рыфмаплёта з канца мінулага і пачатку бягучага стагоддзя («Газэта Варшавска», 1871); «Чары» (ілюстраваны каляндар Яворскага на 1872 год); «Экскурсіі ў Вармію» (той самы каляндар на 1873 год). Апошняй працай з гэтай катэгорыі нашага пісьменніка былі апублікаваныя ў дадзеным часопісе (1872) «Дзённікі панны ўтрыманкі», якія трапнасцю малюнка нядаўна памерлай мінуласці, несумненна, мусілі ўрэзацца ў памяць чытача.

І ўсё-такі сваё паўмастацкае прызванне Тышкевіч заўсёды лічыў толькі разрыўкаю, назапашванне ж і абвестка любым шляхам гістарычных крыніц было для яго галоўнай задачаю жыцця. Седзячы ў Біржах, дапоўніў ён зборы памятак, упарадкаваў і падмацаваў самымі патрэбнымі працамі бібліятэку, прывёў да ладу занядбаны архіў. Корпанне ў гэтым архіве прывяло да напісання надзвычай каштоўнай крыніцазнаўчай кнігі «Біржы, беглы погляд на мінулае мястэчка, замка і маярата» (Пецярбург, 1869, з гравюрамі і картай). Дадаткам да гэтай працы з'яўляецца кароткае даследаванне, напісанае на аснове звестак, пачэрпнутых у Марыяна Чапскага,— «Назіранне над геагнастычным складам Біржаў» (у «Газэце Варшавскей» і ў

адбітцы, 1869). Неўзабаве з'явілася іншая, цалкам заснаваная на архіўных крыніцах гістарычная кніжка «Крыніцы да гісторыі Курляндыі і Семігаліі з часоў Кароля, польскага каралевіча» (Кракаў, 1870). У звароце да чытача ў канцы працы аўтар тлумачыць, як сталася, што надрукаваныя адначасна французская кніжка Баляслава Лапацінскага і яго польская амаль тыя ж самыя ў аснове: Лапацінскі меў дакументы ад Тышкевіча, які ў той час як член курляндскага гістарычнага таварыства апісаў для яго некалькі старажытных пячатак, захаваных у мітаўскім музеі і незразумелых для немцаў. Гэтае апісанне выйшла ў нямецкім перакладзе пастара Аскара Курнатоўскага пад загалоўкам «Einige Worte zur Erklärung der im mittauschen Museum aufbewahrten alterhümlichen Siegielstempel» (Рыга, 1870). У Біржах, нарэшце, апіраючыся на багаты нумізматычны збор уладальніка маярата, уклаў Яўстрафій Тышкевіч том, які дапаўняў кабінет медалёў Э. Рачынскага, прысвечаны выявам і апісанню медалёў, што былі адліты ад 1772 да 1855 года і мелі дачыненне да польскай гісторыі. Праца гэтая, напісаная шырэй па-польску, выйшла ў скарочаным нямецкім перакладзе таго ж Курнатоўскага пад загалоўкам «Sammlung von Medaillen, welche sich auf die Geschichte der Länder und Städte der ehemaligen Republik Polen beziehen». Недасведчаныя ў вымаганнях гісторыі папракалі гэтую працу ў празмернай увазе да збірання дробязяў; яны не маглі ўбачыць таго, што трэба было лепей пазатыкаць дзіркі.

Ва ўсіх гэтых працах Тышкевіча відаць не заняпад духу, а ўзрастанне заняпаду сіл і адчуванне блізкасці скону, які з некаторага часу ў лістах да нас таксама бесперапынна прадказваў. Адсюль паспешлівасць у працы, даволі простае злучэнне пад-

рабязнасцяў і занядбанне ў стылі. Апошняй працаю, у якой пад дэвізам «Акрамя душы і бога ўсё мінецца на зямлі» ён хацеў як бы помнік сабе паставіць, былі «Магілы сям'і Тышкевічаў» (Варшава, 1873). Друкаваў гэтую кнігу з вялікаю раскошаю ў Яворскага, з мноствам літаграфій, выкананых Валькевічам; паколькі ж дапамога багатых сваякоў падводзіла, а ўласная маёмасць вычарпалася, то на выданне прадаў ён частку самых дарагіх гістарычных памятак, выгляд якіх для яго быў яшчэ асалодай у пакутах. Кожны дзень ён прыспешваў нас, гаворачы, што баіцца не ўбачыць сваёй працы да скону. І сапраўды, хутка пасля яе скančэння заснуў навекі ў Вільні 27 жніўня гэтага года і быў пахаваны на цвінтары Роса.

Распісаліся мы за межы, дадзеныя пасмяротным успамінам у гэтым часопісе, і доўга яшчэ можна было б гаварыць пра характар і хатняе жыццё нябожчыка. Не толькі стары яго мёд, упамінанне якога перайшло ў гісторыю польскага пчалярства, але болей яшчэ адкрытае сэрца і высокія таварыскія якасці зрабілі тое, што яго дом быў асяродкам разумовага жыцця Вільні. Дзякуючы цудоўнаму абыходжанню гаспадара людзі ў не надта свежай тужурцы і з непасрэднасцю, як ва ўласным доме, аціраліся аб людзей у выдатным парыжскім фраку, з выдатным імем ці становішчам, і ніхто гэтаму не здзіўляўся, і нікому ад гэтага не было нязручна. Пазней, калі ўсё гэта рассыпалася, мы яшчэ працягвалі тыя стасункі праз бесперапынную перапіску, і сэрцу ашуканаму зрэдку здавалася, што зноў сустракаемся на Антокалі, на вуліцах Віленскай, Замкавай, Вастрабрамскай, дзе ў свой час жыў Тышкевіч. Сёння апошнюю іскру ілюзіі таго жыцця горкая сляза залівае.

*1873 г.*

# КАРЦІНЫ З БЕРАГОЎ НЁМАНА

***(фрагмент)***

Часам мяне ўражвала геаграфічнае падабенства прастораў, на якіх у Малой Азіі нарадзілася «Іліяда», а ў Наднёманшчыне — «Пан Тадэвуш». Тут і там утаптаныя пуцявіны, вузкія ў параўнанні з няходжанымі абапал разлогамі; тут і там дарогі з усходу на захад: адна адмежавана ад поўдня і поўначы двума шырокімі балотамі, другая — двума морамі. Па абедзвюх пуцявінах у дагістарычны і гістарычны час цягнуліся процьмы плямёнаў, вымыкаючы наўперад з-пад Гімалаяў, каб дапяць ажно да Атлантыкі, потым пасоўваючыся з захаду на ўсход, каб пашырыць вузкую жыццёвую прастору. Наднёманскі шлях вельмі цесны ў параўнанні з міжземнаморскім гасцінцам, па якім хадзілі азіяцкія орды і рымскія легіёны. Уціснуты між суцэльнымі палескімі багнамі і астраўкамі балот правага берага Нёмана, вытокаў Бярэзіны ды прытокаў Дзвіны, ён звужваецца ў некаторых месцах да дзесятка вёрст, як напрыклад між Любчаю і рэчышчам Шчары ў верхнім яе цячэнні. А паколькі на лініі, пазначанай цяпер назвамі Гродна, Наваградак, Мінск, Барысаў, Орша, Смаленск, іншай дарогі для тлумных паходаў даўней не было, то выбіралі гэтую. Таму вось і бачым, што наша ваколіца адна з багацейшых на дагістарычныя магілы, паміж якімі, як пастух сярод статка, узвышаецца пад Наваградкам вялізны капец, адвольна названы пазнейшымі храністамі магілаю Міндоўга, як такі ж насып пад Вільняю — магілаю Гедыміна. Пошукі Яўстафія і Канстанціна Тышкевічаў, праведзеныя

ў тых магілах, узбагацілі Віленскі археалагічны музей і Лагойскія зборы надзвычай каштоўнымі ўзорамі каменных, бронзавых, жалезных і шкляных вырабаў. Калі мінуліся часы тых безыменных народаў, адразу ж за 1000 годам нашай эры мы бачым над Нёманам бесперапынныя сутычкі паміж Руссю, што пасоўвалася з поўдня, і Літвою з поўначы. У разгар гэтага сутыкнення надыходзіць вялікі набег манголаў. Адзін з іх правадыроў — Кайдан — выбраў наднёманскі шлях, каб хлынуць на захад. Ледзь паводка татарская адступіла, пачаліся бязлітасныя наскокі крыжакоў, якія, трымаючыся левага берага Нёмана, ішлі па Запушчанскім тракце да Гродна, Наваградка, а пасля, пераправіўшыся праз Нёман у верхнім яго цячэнні, дабіраліся ажно да Крэва, даўнейшай сталіцы Літвы. У пазнейшы час наднёманскі шлях таксама расцэньваўся як прыдатны для тлумных людскіх перамяшчэнняў. А 1812 год і прасоўванне караля Гераніма праз Наваградак стаяць у памяці многіх жывых сведак гэтай «вясны вайны і ўраджаю». Відаць, для ўзнікнення эпапеі на глебе ці то Троі, ці то Сапліцова зямля абавязкова павінна быць угноена касцьмі многіх пакаленняў, а паветра прасякнута паданнямі і вераваннямі многіх плямёнаў.

Ваколіца такая, што чым больш яе ўведваеш, тым яна мацней да сябе прывязвае; аддаленая, яна прыдае любові сум, вабіць да сябе думкі і сэрца, хоць бы з краю свету; між яе сынамі яна няспынны прадмет размоў і праектаў паказу яе свету. Таму паміж аўтарам гэтых радкоў і ілюстратарам «Зборшчыка ахвяраванняў», «Дэмбарога», «Тадэвуша» задумаўся, невядома як і калі, план замалёўкі і апісання рэчаў, найбольш вартых увагі на берагах Нёмана, асабліва левым, дзе якраз і ўтвараўся прыгаданы гасцінец народаў. Карткавая будова

праектаў перарастала святаянскую вежу ў Вільні, самую высокую на Літве. Была там і тапаграфія ўзбярэжжа, і пейзажы, і тыпы людзей, і сялянскія хаткі, і шляхецкія засценкі, і магнацкія двары, і сельскагаспадарчыя прылады, і хатняя маёмасць, і руіны старых крэпасцяў, і божыя храмы, і рэдкія ў іх памяткі фундатараў — словам, усё, што заслугоўвае пазнання, а да сённяшняга дня хаваецца ў невядомасці. Тут, у храптовічаўскіх Шчорсах, Чачот запісваў купальскія песні, якія спяваліся таксама ў цяснінах Татраў і Балкан; тут Глінскі ўслухоўваўся ў паданне аб чалавекалюбстве, якое вучоныя французы знайшлі пазней захаваным і сярод народа ва В'етнаме; тут да сённяшняга дня паўсюды святкуюцца дзяды, нават у глухіх вёсках, дзе для нябожчыкаў выстаўляюць страву за акно або носяць на могілкі. Шляхта ў капотах, што збягаецца з засценкаў да Мацюка Дабжынскага і суддзі Сапліцы, нібы вылітая з міны і чупрыны, з убоства і гонару, з неадукаванасці і высокіх палётаў фантазіі. Яна па-даўнейшаму гняздзіцца на ўзгорыстым грунце Наваградчыны, пахіленым да Нёмана, «роднай ракі» аўтара «Санетаў». Справа чыншоўнікаў, што моцна ўзбуджае цяпер маласвядомую ў сваіх учынках журналістыку, ілюструецца тут успамінамі аб засценках Падкова і лясах Лагоды, апетых аўтарам «Янкі Цвінтарніка». Да сённяшняга дня тут гавораць аб дабрачынцах і асветніках Іяхіме і Адаме Храптовічах, да сённяшняга дня тут не забыліся аб прыгнятальніках гэтага народа, «нягодніках Ваўках з Лугамовіч». Хатні звычай, смутак і радасць — усё тут набывае свае адпаведныя формы, звычайна лагодныя, калі-нікалі суровыя, але ніколі не разбойніцкія. Дык фарбы для карцін нам было б з чаго збіраць. Нядаўна атрымалі мы нават узор выканання працы ў цудоўным апісанні Палесціны,

якое падрыхтавана і выдадзена шчодрым тыражом парыжскіх Ротшыльдаў. Але адно выдавецкія ўмовы ў нас, а другое над Сенаю, адно ўмовы працы спакойнага падарожніка, другое журналіста, які ліхаманкава тут жа скрыпіць пяром. А яшчэ горш тое, што збор этнаграфічных і памятных замалёвак аказаўся больш цяжкі, чым здавалася нам. Замест сімпатычнага раней гмаху, узнятага паводле картковай мадэлі ўяўлення, даводзіцца абмежавацца недапасаванымі часткамі; замест натуральнага пасоўвання ўздоўж Нёмана і паступовых вандровак па яго ўзбярэжжы даводзіцца рабіць зігзагі ў бок прадметаў, якія найбольш удала паўсталі пад алоўкам мастака. Можа, такім чынам, сярод пасоўванняў назад і наперад, утворыцца як-небудзь цэлае, калі разарваныя часткі лягуць у лад. Але пра гэта няхай ужо скажа будучае.

Ваколіца правага ўзбярэжжа Нёмана, якая месціцца між яго рэчышчам і балотамі Палесся, належыць да самых урадлівых у Еўропе, а мясціны Нясвіжа і Слуцка трымаюць у ёй пяршынства. Глебы пад Наваградкам такія ж цудоўныя, як тут, але ад таго, што моцна нахілены карабаватай паверхняй да Нёмана, які працякае ў чатырох мілях на поўнач, пазбаўлены яны ў пэўнай частцы ўздзеяння сонечных промняў. Асабліва гэта добра відочна напрадвесні. Калі . поля знікае снег, тут назіраецца арыгінальная з'ява — як бы дзве стадыі пары года адначасна. Едучы з наднёманскай Любчы ў Наваградак, углядаемся ў паўночныя схілы гор, пакрытыя яшчэ снегам, а вяртаючыся ў той жа дзень з Наваградка ў Любчу, бачым паўднёвыя схілы, якія часам зелянеюць ужо абуджанымі ад зімовага сну пёркамі азіміны. У ваколіцах Нясвіжа гэтай дваістасці клімату ўжо няма. Шырокія, як вокам сягнуць, раўніны, дзе-нідзе толькі парушаныя невялі-

кімі ўзгоркамі, перасечаныя ціхімі азёрамі і рэкамі, ствараюць аднастайны пейзаж крыніцы вялікага арганічнага жыцця на зямлі. Зямля, акрамя ўрадлівасці, лёгкая і крохкая, на ёй не трэба запрагаць у плуг восем здаровых валоў, каб адрэзаць і адвярнуць скібу. Спрадвечная лёгкая літоўская саха, уся, ад дзержакоў да асновы, драўляная, за выключэннем толькі двух невялікіх жалезных лемяхоў, названых тут «нарогамі», якую цягнуць два сялянскія валы, а часцей адзін конік. Яна выпісвае на ніве лініі так роўна і такой аднолькавай вышыні, што лепш няхай не паказваецца пісар, калі выводзіць вершыкі ў альбоме каханай. А ўжо слава за прыгожае ворыва ідзе вялікая ў гэтых прынёманскіх ваколіцах, і хіба толькі чалавек, які не дбае пра добрае імя перад суседзямі, дазваляе сабе пагарджаць ёю. Можа, якраз гэтая любоў да прыгожага ўраблення памагла, каб апошні эканамічны крызіс не пакінуў у Прынёманшчыне такога следу занядбання, як дзе-нідзе. Праз дзесяць з нечым гадоў пасля рэформы сялянскіх адносін я не знайшоў тут відочнай змены на благаславёных нівах; а калі дзе знайшоў, то хіба ў лепшы бок, бо сялянская глеба так добра ўроблена, як і панская. А даўней гэта не ўсюды траплялася. Дык, значыць, не паляўнічыя байкі, а шчырая праўда, што бываюць тут зборы, якія даюць па 15 зярнят у адносінах да засеву.

Такая ўрадлівасць глебы і лёгкасць яе ўраблення, несумненна, вельмі даўно прывабілі нейкую вандроўную грамаду і затрымалі яе ў паходзе. Карысць ад пасялення на такой зямлі павялічвалася блізкасцю да сплаўнага Нёмана, калі адны вялікія рэкі былі бітымі гасцінцамі для зносін з далёкім светам. Нарэшце, прыгажосць ваколіцы, да якой неачасаныя прадзеды адносіліся, бадай, ласкавей

за нас, знаёмых з нямецкімі эстэтыкамі, як сведчаць пра гэта пасады іх спрадвечных вёсак і двароў, дадавала да карыслівай развагі ахвоту пачуцця. Калі ж, аднак, магла ўзнікнуць завязь цяперашняга Нясвіжа, высветліць нялёгка. Тураў палескі, што ляжыць на поўдзень ад Нясвіжа, першы раз упамінаецца храністамі пад 980 годам; Мінск, які ляжыць на паўночны ўсход і названы храністамі Менскам, ад мены ці абмену тавараў, згадваецца пад 1066 годам; Наваградак, што ляжыць на паўночны захад, паўстаў каля 1100 года; нарэшце, тут жа блізкі ад Нясвіжа Клецк існуе ўжо пад 1127 годам. Лёгка тады адсюль заключыць, што, паколькі каланізацыя адбывалася вакол прасторы, пра якую ідзе цяпер гаворка, сама гэтая прастора, маючы выдатныя ўмовы для жыхарства, не заставалася бязлюднай...

*1882 г.*

# ДЗВЕ БУДОЎЛІ

*(фрагменты)*

З прыемнасцю глядзеў я калісьці на дзве ўцалелыя вежы старога замка ў прынёманскім Наваградку. Невядома, ці будаваў яго Міндоўг, заснавальнік пераноснай, паводле тагачаснага звычаю, сталіцы на левым беразе Нёмана, патрэбнай яму як умацаваны лагер для барацьбы з Кіеўскай Руссю. Наваградскі замак, зруйнаваны да рэшты толькі ў мінулым стагоддзі, быў пабудаваны з чырвонай цэглы і вялізнага камення сама меней пяцьсот гадоў назад і цяпер яшчэ выкрасае іскры пры ўдарах жалезам. Адна вежа, звернутая да Кавальскай вуліцы, заўсёды асабліва здзіўляла мяне сваёй непаўторнай сілаю. Частка насыпу пад ёй абсунулася, пярун разадраў яе ад верху да долу, і адна сцяна цалкам, а дзве часткова разваліліся; таму цяпер другая палова вежы стаіць ужо толькі на адной сцяне, як хата на курынайназе ў казцы. Стаіць так ужо дзесяткі гадоў, і ў кожнага выклікае пытанне: як жа, нябога, сумела ў такой паставе ўтрымацца? Як жа яна адважваецца сваімі руінамі здзекавацца з нашага прагрэсіўнага часу, калі вышэйшая матэматыка, фізіка, механіка пайшлі служыць будаўніцтву, калі, аднак, адзін за адным развальваюцца новыя гмахі, здараецца, нават перад заканчэннем? У нас у Варшаве пад час будаўніцтва на Дзікай ці Воўчай вуліцах руіны дамоў засыпаюць няшчасных рабочых — і мы, аслупянелыя, глядзім, як штабялі збітых паспешна дамавін вязуць проста на дзядзінец, каб схаваць у іх ахвяры. Там пад вежаю, што стаіць на адной сцяне, чарада галасістай дзетвары

перасыпае пясок, выбірае каменьчыкі, карабкаецца на мур па цагляных выступах і стралою злятае па асыпцы ў роў — і як ні ў чым не бывала з абуджаным апетытам вяртаецца дадому цэлая і здаровая. Чаму такая розніца? А таму, што там трымаліся адной сістэмы правядзення работы, а тут хапаюцца за другую. Там клікалі на дапамогу час, і час, як таварыш па працы, ашчаджваў сваё тварэнне; тут робяць насупор яму, таму ён і помсціцца зласліва. Там за прыклад браліся пчолы, што мазольна лепяць пляйстры воску; тут ходзяць сцежкамі павука, што распінае зграбную сетку, якая лопаецца ад слабага павеву. Там паволі будавалі і дабудоўвалі пакаленні дзеля выгады пакаленняў; тут адразу ж лепяць шыкоўныя фасады, абы толькі спакусіць набыўца. Там клапаціліся пра дзяцей; тут выглядае так, як быццам мы дрэнныя бацькі — бяздзетныя...

Не думайце, што толькі ў чужым воку я старанна вышукваю парушыну недахопаў. У нашым літаратурным цэху таксама не трэба са свечкай шукаць вока, у якім тырчыць цэлае бервяно. У тлумным кірмашы грахоў, якія мы дапускаем у пісьменніцкім будаўніцтве і за якія, можа, калі паспавядаемся перад трыбуналам чытачоў, адзін з самых цяжкіх, несумненна, балбатлівасць. Не адзін з нас піша кожны год у часопісы і штотыднёвікі столькі, колькі Міцкевіч напісаў за ўсё жыццё. А што ж тады гаварыць аб параўнанні з нейкім там Дэмасфенам ці Гарацыем, якія пакінулі ледзь па аднаму тому! На жаль, з нашымі працамі, напісанымі паспешліва, адбываецца тое ж самае, што і з некаторымі дамамі на Дзікай і Воўчай. Застаецца толькі ўцеха, што калі такая праца праз хвілю ператворыцца ў руіны, то нікога, прынамсі, не засыпле, акрамя ўспамінаў пра імя аўтара.

*1884 г.*

## ГУТАРКА СТАРОГА ДЗЕДА

*(фрагменты)*

Эй, скажыце, добры людзі!
Што гэта на свеце будзе?
Ці бог не змілуецца над намі
І дасць пагінуць пад маскалямі?..
Маскаль у Польшчы рассеўся,
Ой, да зараз у косці ўеўся,
Стаў падаткі выбіраць,
У рэкруты забіраць.
Вялеў сыпаць магазыны,
Нібы для гэтай прычыны,
Каб, як здарыцца патрэба,
Мужык мог там дастаць хлеба.
А як сам стаў ваяваць,
Вялеў магазын забраць,
У абоз вязці ўсё збожжа,
А народ — хоць гінь, нябожа!
А як возьмець усё з хаты,
Яшчэ сам ідзі ў салдаты,
Кідай жонку, дзеткі ў дому,
Едзь у калодцы да прыёму.
Як войска ўжо не трэба,
То салдат сам шукай хлеба.
Шлець усіх дамоў, не пытае,
Ці каторы дом свой мае.
Толькі вяліць не шатацца,
На прыказ той час яўляцца;
Насі боты да галіся,
Хоць зямлю грызі — з'явіся.
Даўней людзі добра жылі
І другіх дабра вучылі...
Няхай жа хто слова скажыць,
Маскаль яго зараз звяжыць,

І здароўе адбірае,
І на Сібір пасылае.
А дзе жандар званком звягне,
Людзей добрых у турму цягне.
Ці убогі, ці багаты,
Валачэць ад сям'і з хаты!
Чыноўнікі ўсе збыткуюць,
Абдзіраюць і катуюць,
Глумяць, крыўдзяць, разбіваюць
І плакаць не пазваляюць...
Шляхціцоў з мужыкамі
Глумяць, як захочуць самі.
З душы рэкрут і падаткі,
Хоць ты гінь, а дай астаткі.
І каб усіх загубіць,
Дай акцызу станавіць.
Але ж, братцы, не тужыце!
Лепей у бога прасіце
Міласэрнага, каб скора
Перамяніў наша гора!..
Маскаль, кажуць, мае волю,
Палягчыць нам нашу долю.
Ой! Не верце таму, людзі,
Нічога з таго не будзе.
Калі б хацеў так зрабіць,
Даўно б то мусела быць.
Маскаль цяпер волю мае,
Як захоча, так упраўляе,
А як толькі што накажа,
Мусіш зрабіць, як прыкажа.
Каторыя паны спагадалі,
Вольнасць людзям даць жадалі,
Тых у клешчы маскаль жаў,
А нас на скарб забіраў.
Наяжджаюць, проста зграя
Асэсараў, чорт іх знае,

Б’юць, да душаць, да месяць,
На аднаго паноў дзесяць.
Вот якую ён свабоду
Хочыць рабіць для народу...

*1861—1862 гг.*

# ГУТАРКА ДВУХ СУСЕДАЎ

## 3

*(фрагмент)*

Ю з а ф

Гэй, браточкі, загуляйма
Ды вясёла заспявайма;
Годзі тужыць, наракаці,
Пан не будзе скуру драці!

М а т э у ш

А мой Юзафе міленькі,
Які ты яшчэ дурненькі!
Рад, што цябе ашукалі
І нібы свабоду далі.

Ю з а ф

Эй, дзядзьку, не вымысляйце
І мяне вельмі не лайце!
Бо я не ўмею чытаці,
То скуль жа магу што знаці?

М а т э у ш

Праўда, што ты ні чытаці
Не умееш, ні пісаці,
То сваёй бяды не знаеш
І рад, што пана не маеш.
Але каб на розум ўзяці
І пажондне разабраці,
То за аднаго ліхога
Цяпер маем паноў многа:
Бо старшыны і пісары,
Пасрэднікі, сакратары,
Асэсары і спраўнікі

І ўсе царске чынаўнікі
Ўсё гэта паны над намі,
Няшчаснымі мужыкамі.
А як крыўду мужык мае,
Можа, праўды дапытае?
Ой не, мой ты нябожа!
Кажды выдзера, што можа;
А як не маеш што даці,
То не ўседзіш ў сваёй хаці.

Юзаф

Праўда, што ўсе чынаўнікі
Вельмі круцялі вялікі;
Кажды дзярэ што сіл мае.
Мусі таго цар не знае?

Матэуш

Ой, цар ўсенька гэта знае,
Дый сам яшчэ памагае,
Бо ўсім сваім сенаторам,
Міністрам, губернаторам
Тысячамі плаціць грошы,
Таму больш, хто злодзей горшы,
Каб яму не прашкаджалі
І з людзей драць памагалі.
Ота ж для гэтай прычыны
Мучаць народ без жаднай віны,
І падаткі падвышаюць,
І літасці ніц не маюць.
Якую ж ты свабоду маеш?
Расталкуй мне, як сам знаеш.

Юзаф

Дальбог, дзядзьку, я здурыўся
І з розуму чыста збіўся,

Бо нам набрахаў асэсар,
Што ўжэ даў свабоду цэсар.

Матэуш

Праўда, паншчыны не будзе,
То ці ўжэ свабодны людзе?
За то пану трэ плаціці;
А хоць пан не будзе біці,
Не дагодзі сакратару,
А як ён па прыгавору
Задасць табе за дзве сотні,
То і сабака з падваротні
Не забрэша «шкода, шкода».
Ота ж табе і свабода!

*1861 або 1862 г.*



# КАМЕНТАРЫІ

## *ПАЭТЫЧНЫЯ ТВОРЫ*

ПАСТРЫЖЫНЫ. Верш друкаваўся ў зб. «Czem chata bogata, tem rada» (Вільня, 1857). Назва ўзята ад дальнейшага абраду першай стрыжкі валасоў у хлопчыкаў. «Пастрыжыны» для Каратынскага — гэта «пасвячэнне» ў паэты. *Літвін* — так у XIX ст., паводле гістарычнай традыцыі, называлі насельнікаў Гродзенскай, Віленскай і нярэдка Мінскай губерняў. Беларусамі, як правіла, называліся жыхары Віцебскай і Магілёўскай губерняў.

УСТАВАЙМА, БРАТЦЫ!.. Верш напісаны па-беларуску да прыезду Аляксандра II у Вільню як выклік аўгусцейшаму манарху, што непрызнаная ў вярхах беларуская мова жыве. Быў надрукаваны лацінкай і кірыліцай з падзагалоўкам «Песня з паклонам ад літоўска-русінскай мужыцкай грамады» ў верасні 1858 г. як дадатак да прывітальнага адраса цару, складзенага А. Кіркорам, А. Адынцом, І. Ходзькам, Я. Тышкевічам і М. Маліноўскім, якія хацелі бачыць у новым манарху Расіі прыхільніка асветы і лібералізму.

*** ДАЛІБОГ-ТО, АРЦІМ... Гэты беларускі верш аўтар упісаў 23 кастрычніка 1858 г. у «Альбом» беларуска-польскага паэта Арцёма Вярыгі-Дарэўскага (1816—1884), які прыязджаў пад той час з Віцебшчыны ў Вільню. Друкуецца паводле зб. гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. «Пачынальнікі» (Мінск, 1977).

ТУГА НА ЧУЖОЙ СТАРАНЕ. Элегія напісана па-беларуску. Упершыню надрукавана ў «Нашай ніве» (1912, № 49—50) паводле рукапісу, які захоўваўся разам з нотамі Вінцэся Клімовіча (каля 1830—?) у архіве газеты. Дата ўзнікнення верша (1864), прынятая гісторыкамі літаратуры, відаць, не адпавядае праўдзе: на музыку твор мог быць пакладзены Клімовічам да 1864 г., бо 5 сакавіка 1863 г. кампазітар быў арыштаваны і знаходзіўся пад следствам да 21 чэрвеня 1864 г., пасля чаго яго саслалі на пасяленне ў Сібір.

НАД КАЛЫСКАЙ. Друкаваўся ў час. «Biblioteka Warszawska» (1856, т. 2).

ПРЫТУЛАК ШЧАСЦЯ. Друкаваўся ў «Gazecie Warszawskiej» (1856, № 207). *На шчыт свой кудзелю* — нічога значнага. *Леанід* — спартанскі цар у 488—480 гг. да н. э., герой Фермапільскай абароны пад час нападу персаў. *Ганібал* (247 ці 246—183 да н. э.) — выдатны палкаводзец і дзяржаўны дзеяч Карфагена.

ПЕРШЫ ДЗЕНЬ ВЯСНЫ. Друкаваўся ў «Gazecie Warszawskiej» (1856, № 208) пад назвай «Pierwszy dzień Marca», затым — у зб. «Чым хата багата...».

ЛЮБАСЦЬ. Друкаваўся ў зб. «Чым хата багата...».

ВІЦІННІК УВЕСНУ. Друкаваўся ў зб. «Чым хата багата...». *Кралевец* — сённяшняя назва Калінінград.

СІРАТА. Друкаваўся ў «Gazecie Warszawskiej» (1856, № 205), затым — у зб. «Чым хата багата...». «*Дзела* — так у некаторых мясцінах Літвы (г. зн. Беларусі.— *У. М.*) называюць паншчыну» (заўвага аўтара).

МАЁЙ СВІЦЕ. Друкаваўся ў зб. «Чым хата багата...». *Цэзар Юлій* (100—44 да н. э.) — старажытнарымскі дзяржаўны дзеяч, палкаводзец і пісьменнік. *Атыла* (?—453) — ваяўнічы правадыр гунаў. *Дзяды* — старажытны памінальны абрад беларусаў, які абавязкова ўключаў рытуальную вячэру.

ДВА КАХАННІ. Друкаваўся ў «Gazecie Warszawskiej» (1856, № 205), затым — у зб. «Чым хата багата...».

ВІЦІННІК УВОСЕНЬ. Друкаваўся ў «Gazecie Warszawskiej» (1856, № 205) пад назвай «Wicinnik», затым — у зб. «Чым хата багата...». «*Мае скарбы без пошліннай платы* — таможня дазваляе віціннікам перавозіць некаторыя дробныя рэчы, прызначаныя для сябе самога, без аплаты пошліны паводле ўстаноўленага тарыфу» (заўвага аўтара).

У АЛЬБОМЕ. Друкаваўся ў зб. «Чым хата багата...».

СВАТЫ. Друкаваўся ў зб. «Чым хата багата»...». «*У бісер мною шыя апавіта* — вясковыя дзяўчаты на Літве бісерам называюць бліскучыя, выдзіманыя з металу і тонкія, як павуціна, пацеркі» (заўвага аўтара).

СОН НАЯВЕ. Друкаваўся ў зб. «Чым хата багата...».

ПАСЛЯ СВАТАННЯ. Друкаваўся ў час. «Biblioteka Warszawska» (1857, кн. I). У арыгінале мае назву «Powrót ze

swadźby» («Вяртанне са свадзьбы»). У некаторых мясцінах Беларусі (напрыклад, на Ашмяншчыне) *свадзьбай* называюць сватанне. *«Гіня* — ад гінуць, вобразная назва карчмы. *Нібы сонца ў дзень Купалы* — люд наш паўсюды сцвярджае, што ў дзень Купалы або напярэдадні (24 чэрвеня) сонца, узнімаючыся над гарызонтам, калышацца відочна: сваволіць, просіць. *Не ганьбуй жа хлеба, солі* — гаспадар або хто іншы, назначаны ім, ідучы да родзічаў і прыяцеляў на хрысціны або вяселле, нясе да іх лусту хлеба і трохі солі. Цудоўны звычай!» (заўвагі аўтара).

БЯРОЗКА. Друкаваўся ў час. «Biblioteka Warszawska» (1857, т. III). Датуецца годам публікацыі.

УЛАДЗІСЛАВУ СЫРАКОМЛЮ. Друкаваўся ў час. «Teka Wileńska»(1857, № 2). Створаны, паводле заўвагі аўтара, «з выпадку прадмовы да «Чым хата багата...», напісанай Ул. Сыракомлем (1823—1862) — вядомым польскім і беларускім паэтам-дэмакратам. Датуецца годам публікацыі.

НОВЫ ГОД. Друкаваўся ў час. «Tygodnik Illustrowany» (1870, № 105).

*** ХОЧАШ ВЯЛІКАЕ ШТОСЬ САТВАРЫЦЬ... Пераклад зроблены паводле арыгінала, змешчанага ў артыкуле Зыгмунта Глогера «Вінцэнты Каратынскі» (Album biograficzne zasłużonych polaków i polek wieku XIX. Tom 2. Warszawa, 1902).

ТАМІЛА. Два фрагменты паэмы друкаваў час. «Biblioteka Warszawska» (1857, т. II і IV). Цалкам яна была апублікавана ў асобнай кнізе «Tomiło» (Вільня, 1858). У перакладзе захаваны і вылучаны курсівам тыя беларусізмы, якія аўтар адзначыў у тэксце, а таксама растлумачыў у сваіх каментарыях да паэмы: *«Завітка,* кукла — завязаная з таямнічым закляццем жменя каласоў чараўніком, які хоча наклікаць няшчасце на дом гаспадара збажыны. Памылковае вышукванне крыніцы нядолі! *Смалакі* — гэта два калы, якія падкладваюцца пад саху для яе перавозу і замяняюць ужыванае дзе-нідзе дзеля такой жа мэты кола. *Сёрбаць* — есці штосьці рэдкае без хлеба. *Нядобры,* злы — чорт; народ асцерагаецца вымаўляць яго імя, хіба толькі пад гарачую руку. *Статак* — рабочая жывёла. Землеўладальнікі на Літве, якія больш блізкія да народа і чулыя да яго долі, размаўляюць з ім звычайна на беларускай гаворцы. *Пакалець* — памерзнуць. *Вымысляць* — рабіць заўвагі, высмейваць, бурчаць. *Карончыкі* — былыя польскія срэбраныя грошы, цяпер манета намінальная, паводле якой дагэтуль вя-

дуць разлік сяляне Наднёманшчыны, менавіта ў ваколіцах Любчы. Карончык утрымлівае восем польскіх грошаў. Тамашнія кабеты часта не ведаюць іншага спосабу падліку. *З сябрам барыш* — магарыч, выпіванне гарэлкі пакупніка з прадаўцом, якія называюць сябе ў гэты момант сябрамі. Піццё барышу неабходная ўмова для пацверджання згоды на продаж і куплю. *Гудак* — той, хто іграе на адной тоўстай струне, нацягнутай на лучок, да якой для гуку прывязваецца надзьмуты пузыр» (заўвагі аўтара).

## *НАРЫСЫ, АРТЫКУЛЫ*

З КАМЕНТАРЫЯЎ ДА ПАЭМЫ «ТАМІЛА». *Пшыбыльскі Вацлаў* (1828—1872) — педагог і журналіст, супрацоўнік «Kurjera Wileńskiego», карэспандэнт «Gazety Warszawskiej», удзельнік паўстання 1863 г. *Пан М. Г.* — Міхал Грабоўскі (1804—1863), польскі крытык, адзін з ідэйных кіраўнікоў кансерватыўнага «Tygodnika Petersburskiego». *«Іліяда»* — героіка-эпічная паэма, створаная, на думку даследчыкаў, паўлегендарным паэтам Старажытнай Грэцыі Гамерам у IX—VIII ст. да н. э. *«Конрад Валенрод»* — паэма Адама Міцкевіча (1798—1855), прысвечаная гістарычнаму мінуламу Вялікага княства Літоўскага. *«Страчаны рай»* — паэма на біблейскі сюжэт Джона Мільтана (1608—1674). *«Мёртвыя душы»* — паэма М. В. Гогаля (1809—1852). *Фідыеў «Юпітэр»* — манументальная статуя Зеўса (адно з сямі цудаў свету), створаная старажытна-грэчаскім скульптарам Фідыем (пачатак V ст.— каля 432 да н. э.). *Моцарт Вольфганг Амадэй* (1756—1791) — выдатны аўстрыйскі кампазітар. *Агінскі Міхал Клеафас* (1765—1833) — грамадскі дзеяч, аўтар паланезаў для фартэпіяна, адзін з якіх — «Развітанне з Радзімай» — надзвычай папулярны. *Арыёст Людовік* (1474—1533) — італьянскі паэт эпохі Адраджэння. *Беранжэ П'ер Жан* (1780—1857) — французскі паэт-песеннік, творы якога ў перакладзе Ул. Сыракомлі (22 вершы) і В. Каратынскага (58 вершаў) былі выдадзены па-польску асобнай кнігай у Вільні ў 1859 г. *Крашэўскі Юзаф Ігнацы* (1812—1887) — польскі пісьменнік і гісторык. *Вуйціцкі Казімір Уладзіслаў* (1807—1879) — польскі гісторык і фалькларыст. *Максімовіч Міхаіл Аляксандравіч* (1804—1873) — украінскі гісторык, даследчык фальклору, паэт. *Вацлаў з Алеска* ці Залескі Вацлаў (1800—1849) — палітычны дзеяч, пісьменнік, збіральнік і даследчык фальклору, выдаў аб'ёмісты збор «Польскіх і рускіх песень галіцыйскага народа» (Львоў, 1833). *Жа-*

*гота Паўлі* (1814—1895) — гісторык, этнограф, укладальнік зборніка «Песні польскага народа ў Галіцыі» (1838) і двух тамоў «Песень рускага народа ў Галіцыі» (1839—1840). *Кольберг Аскар* (1814—1890) — польскі фальклярыст і этнограф. *Дален-га-Хадакоўскі Зарыян,* сапр. Чарноцкі Адам (1784—1825) — выдатны славяназнавец; яго працы стаяць ля вытокаў беларускай этнаграфіі, фальклярыстыкі, археалогіі і дыялекталогіі. *Аўтар «Казачніка»* — Глінскі Антон Юзаф (1817—1868), польскі пісьменнік, які, апрацаваўшы казкі Наваградчыны, а таксама В. Жукоўскага і А. Пушкіна, выдаў іх у чатырохтомным зборніку «Bajarz Polski» (1853). *Чачот Ян* (1796—1847) — беларускі і польскі паэт, фальклярыст.

НЕКАЛЬКІ ПАДРАБЯЗНАСЦЯЎ ПРА СЯМ'Ю, МЕСЦА НАРАДЖЭННЯ І МАЛАДОСЦЬ АДАМА МІЦКЕВІЧА. Нарыс друкаваўся ў газеце «Kurjer Wileński» (1861, № 1) і быў выдадзены ў асобнай брашуры-адбітцы (1861). *Ходзька Аляксандр* (1804—1891) — польскі паэт, усходазнавец, ведаў А. Міцкевіча, быў членам т-ва філарэтаў. «Dictionnaire général de biographie, d'histoire» — «Агульны гісторыка-біяграфічны слоўнік» *(фр.)*. *Мэрцбахаўскае выданне твораў Міцкевіча* — першае пасмяротнае выданне збору твораў А. Міцкевіча, падрыхтаванае і ажыццёўленае ў 1858 г. Мэрцбахам Самуэлем Генрыхам (? — 1874), варшаўскім кнігавыдаўцом і паэтам. *«Час»* — польскі часопіс, які выдаваўся ў Кракаве з 1848 г. *Хэнцінскі Ян Канстанцін* (1826—1874) — польскі акцёр, паэт, драматург, сябра Ул. Сыракомлі. *Езуіты* — манахі, члены каталіцкага ордэна «Таварыства Ісуса»; іх калегія — сярэдняя навучальная ўстанова — была заснавана ў Наваградку ў XVII ст. *Бабровіч Ян Непамуцан* (1805—1881) — польскі кампазітар, гітарыст, выдавец; здзейсніў у Лейпцыгу выданне гербоўніка К. Нясецкага ў 1839—1846 гг., у якім апошні (дзесяты) том падрыхтаваў сам як «Дадатак». *Нясецкі Каспар* (1682—1774) — езуіт, генеалагіст, аўтар чатырохтомнага гербоўніка «Korona Polska» (1728—1743). *Мітра* — княская шапка. *Мікуцкі Станіслаў Ян* (1814—1890) — польскі і рускі лексікограф, займаўся параўнальным моваўнаўствам. *Стрыйкоўскі Мацей* (каля 1547 — каля 1586) — гісторык, аўтар славутай «Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі» (1582). *Дамінікане* — манахі, члены каталіцкага ордэна прапаведнікаў, заснаванага ў 1216 г.; у Беларусі паўсюдна ўтрымлівалі сярэднія навучальныя ўстановы. *Шылер Іаган Хрыстоф Фрыдрых* (1759—1805) — нямецкі паэт, драматург, тэарэтык мастацтва. *Геронім Банапарт* — малодшы брат Напалеона, пасаджаны ім

на трон у Вестфаліі; у 1812 г. узначальваў правае крыло напалеонаўскіх войск. *Багратыён Пётр Іванавіч* (1765—1812) — рускі палкаводзец, герой Айчыннай вайны 1812 г., армія якога праходзіла праз Наваградак на злучэнне з арміяй Барклая дэ Толі.

САЛАМОН РЫСІНСКІ. Нарыс друкаваўся ў газеце «Kurjer Wileński» (1863, № 132—133, 135) і быў выдадзены асобнай брашурай-адбіткам (1863). *Эразм Ратэрдамскі* (1466—1536) — нідэрландскі гуманіст эпохі Адраджэння, аўтар папулярнага ў свой час памфлета «Пахвала дурасці» і «Кнігі прымавак» (1500). *In diebus Eliae* — у дзень Ільы *(лац.)*. *Гаштольды* — старажытны магнацкі род на Літве і Беларусі. *Comes de Wątory* — граф з Ванторы *(лац.)*. *Бекварк Валянцін* (1507—1576) — вянгерскі лютніст і кампазітар, быў прыдворным музыкантам польскага караля, герой паэмы-элегіі «Муза» Яна Каханоўскага (1530—1584) — польскага паэта-гуманіста. *Ян Альбрахт* (1459—1501) — польскі кароль з 1492 г.; узмацніў ролю шляхты на так званых «вальных сеймах», якія прыводзілі да сутычак процілеглых бакоў і частых ахвяр. *Бельскі Марцін* (1495—1575) — польскі храніст і паэт, аўтар шырока вядомай «Хронікі свету». *Віргілій Марон Публій* (70—19 да н. э.) — рымскі паэт. *Буало* (1636—1711) — французскі паэт і крытык, буйны тэарэтык класіцызму. *Тастат Альфонс* або Тастанда Алёнса (1400—1455) — прэлат, іспанскі тэолаг, напісаў шмат прац на іспанскай мове і лацінскай, сярод якіх вылучаецца 13-томны «Каментарый» да біблііі і евангелля (Венецыя, 1507). *Мацяёўскі Вацлаў Аляксандр* (1792—1883) — польскі юрыст і гісторык, аўтар кн.: «Польскае пісьменства ад старажытнасці ажно да 1830 г.», даведзенай толькі да паловы XVII ст. *Кнапскі Гжэгаж* (каля 1564—1639) — польскі мовазнаўца, укладальнік слоўніка «Польска-лацінска-грэчаская скарбніца», у трэцім томе якога сабраны польскія прымаўкі. *Фрэдра Анджэй Максімільян* (каля 1620—1679) — польскі пісьменнік, укладальнік зборнікаў афарызмаў, якія набылі вялікую папулярнасць у XVIII ст. *MDCXIV* — 1614 г. *Радзівіл Крыштаф* (1585—1640) — гетман польны літоўскі, пасля кашталян віленскі, ваявода віленскі, вялікі гетман літоўскі, стараста магілёўскі; кальвініст. *Курніцкі кнігазбор* — бібліятэка ў г. Курнік (у 20 км ад Познані), заснаваная ў 1820 г. Тытусам Дзялынскім. *Маліноўскі Мікалай* (1799—1865) — гісторык, актыўны ўдзельнік грамадска-культурнага жыцця ў Вільні. *Радзівілаўская сям'я біржанскай лініі* — малодшая галіна магнацкага роду Радзівілаў, якая звычайна называлася біржанска-дубінкаўскай. *Барбара* (1520—1610) — дачка віленска-

га кашталяна Ю. Радзівіла, другая жонка польскага караля Зыгмунта Аўгуста. *Волян Анджэй* (1530—1610) — кальвініст, палітычны дзеяч; у абарону пратэстантаў і Мікалая Радзівіла напісаў працу «Размова паляка з літвінам». *Кахлеўскі Пётр* (?—1647) — земскі брэсцкі суддзя, пісьменнік. *Вянгерскі Анджэй* (1600—1649) — польскі евангелічны прапаведнік, дзеяч Рэфармацыі. *Systema historico chronologica ecclesiarum slavicarum [per provincias varias, praecipue Poloniae, Bohemiae, Lithuaniae, Rusiae, Prussiae, Maraviae etc.]* — Гісторыка-хроналагічная сістэма славянскіх эклезіястаў розных правінцый, уключаючы Польшчу, Багемію, Літву, Русь, Прусію, Маравію і г. д. *(лац.)*. *«Канцыянал»* — зборнік рэлігійных песень. *Маярkевіч Фелікс Непамуцан* (1820—1847) — польскі гісторык літаратуры, філосаф. *Квяткоўскі Каятан* (1770—1852) — польскі гісторык, уладальнік багатага збору старадрукаў і рукапісаў, якімі ён карыстаўся пры напісанні «Гісторыі польскага народа ў часы панавання Уладзіслава IV» (1823). *Залускі Юзаф Анджэй* (1702—1774) — польскі дзяржаўны дзеяч, бібліёграф, аўтар каталога польскіх кніг «Бібліятэка гісторыкаў, палітыкаў і юрыстаў», напісанага белым вершам (1732). *Бянткоўскі Фелікс* (1781—1852) — польскі бібліёграф і гісторык літаратуры. *Сярчынскі Францішак (1758—1829)* — польскі гісторык, публіцыст, дырэктар бібліятэкі Асалінскіх у Львове з 1827 г., аўтар многіх гістарычных прац. *Рысінскі Пётр* — польскі паэт і паленіст першай паловы XVI ст. *«Censura in axiomata Joanis Hussi haeresi»* — «Цэнзура ў асноўных палажэннях ерэтыка Яна Гуса» *(лац.)*. *Пратэстанты* — прыхільнікі пратэстантызму, аднаго з кірункаў унутры хрысціянства, які ўзнік у XVI ст. як пратэст супраць феадальнага засілля і каталіцкай царквы, значна спрасціўшы рэлігійны культ і богаслужэнне; пратэстанцкія абшчыны засноўваліся ў Беларусі ў сярэдзіне XVI ст. (Нясвіж, Брэст, Наваградак і інш.). *Цыцэрон Марк Тулій* (106 да н. э.— 43 да н. э.) — старажытнарымскі палітычны дзеяч, філосаф, пісьменнік. *Будны Беняш* — пісьменнік канца XVI — першай паловы XVII ст., быў на службе ў Крыштафа Радзівіла. *Арыянін* або антытрынітарый — прыхільнік рэлігійных кірункаў, якім уласціва рацыяналістычная ацэнка царкоўных догматаў і адмаўленне троіцы. Арыянамі ў Беларусі называліся і радыкальныя рэфарматары, якія нярэдка ўздымаліся да крытыкі асобных палажэнняў бібліі і былі блізкія да атэізму. *Будны Сымон* (1530—1593) — беларускі асветнік і рэфармацыйны дзеяч, філосаф і пісьменнік. *Нарушэвіч Казімір* (1730—1803) — рэктар віленскай калегіі езуітаў, педагог. *Клепаж* — калісьці самастойны горад, цяпер прадмесце Кракава. *Сандамір* — да XVII ст. лічыўся самым

прыгожым горадам пасля Кракава; сёння ў складзе Кялецкага ваяводства (ПНР). «Panem bene merentibus» — «Тыя, хто сумленна зарабляў хлеб». *Ліпа Яна Чарналяскага* — ліпа ў двары Яна Кахановскага ў Чарналессі, пра якую паэт згадвае ў сваіх вершах.

ВІЦЕБСК. Артыкул друкаваўся ў *Encyklopedyi powszechnej* (Варшава, 1867, т. 27). *Яраслаў Мудры* (978—1054) — вялікі князь кіеўскі з 1019 г. *Брачыслаў Ізяслаеіч* — полацкі князь, якому ў выніку барацьбы Яраслаў вымушаны быў уступіць у 1022 г. Віцебск і Усвят. *Рагвалод* (? — каля 980) — першы вядомы з летапісаў полацкі князь, бацька *Рагнеды* (?—1000), гвалтоўна ўзятай у жонкі наўгародскім князем Уладзімірам Святаславічам у 980 г., а пасля за замах на мужа сасланай ім у Ізяслаўль (Заслаўе). *Давід Расціславіч* (1140—1197) княжыў у Ноўгарадзе (1154), Таржку (1159), Віцебску (да 1167). *Міндоўг* (каля 1200—1263) — вялікі князь Вялікага княства Літоўскага, каранаваны на караля ў 1253 г. у Навагрудку, які быў ягонай рэзідэнцыяй. *Гедымін* (?—1341) — вялікі князь Вялікага княства Літоўскага прыкладна з 1316 г. *Альгерд* (каля 1296—1377) — вялікі князь Вялікага княства Літоўскага з 1345 г.; Віцебск атрымаў у 1318 г. пасля жаніцьбы з віцебскай князёўнаю *Марыяй Яраслаўнай,* якая памерла ў 1346 г. *Ульяна* — цвярская князёўна, другая жонка Альгерда з 1349 г.; памерла ў 1392 г. *Базыльянкі* — манашкі каталіцкага ордэна, якія карысталіся ў рэлігійнай службе праваслаўным абрадам; у Беларусі ордэн набыў пашырэнне пасля Брэсцкай уніі (1596). *Яўнут* (1301 — не раней 1366) — сын Гедыміна, вялікі літоўскі князь з 1341 г., скінуты з вялікакняжання Альгердам і Кейстутам у 1345 г., пасля чаго жыў у Заслаўі. *Ягайла* (каля 1348—1434) — вялікі князь Вялікага княства Літоўскага з 1377 г. да 1392 г. і кароль Польшчы з 1386 г. *Свідрыгайла* (каля 1370—1452) — сын Альгерда, вялікі князь Вялікага княства Літоўскага ў 1430—1432 гг. *Вітаўт* (1350—1430) — сын Кейстута, князь гродзенскі, з 1392 г. вялікі князь літоўскі. *Зыгмунт I* (1467—1548) — кароль польскі і князь літоўскі з 1506 г., сын Казіміра Ягелончыка. *Зыгмунт II Аўгуст* (1520—1572) — кароль польскі з 1530 г. і вялікі князь літоўскі з 1529 г. *Магдэбургскае права* — права, замацаванае граматай вялікага князя ці караля, якое давала феадальным гарадам некаторыя эканамічныя, палітычныя і грамадскія льготы ў адпаведнасці з іх укладам жыцця і юрыдычнымі нормамі; паводле апошніх даследаванняў, магдэбургскае права Віцебск меў з 1597 г.; за ўдзел насельніцтва ў Віцебскім паўстанні 1623 г. горад быў пазбаўлены прывілеяў.

*Герасім* (?—1435) — епіскап уладзіміра-валынскі, з канца 20-х гадоў XV ст.— смаленскі; мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі з 1432 г. Паводле меркавання даследчыкаў, з асобай Герасіма звязана ўзнікненне беларускага летапісання. *Зыгмунт Кейстутавіч* (?—1440) — малодшы брат Вітаўта, вялікі князь літоўскі з 1432 г. *Лігвейн*. Лінгвені, Лунгвен — брат Ягайлы; *Ежы* або *Юры Лунгвенавіч* — унук Альгерда і Ульяны, мсціслаўскі князь, які падтрымаў смаленскае паўстанне супраць ваяводы А. Саковіча ў 1440—1441 гг. *Казімір IV Ягелончык* (1427—1492) — вялікі князь літоўскі з 1440 г., кароль Польшчы з 1447 г. *Ганзейскія гарады* — паўночнанямецкія гарады, якія ў XIII ст. пачалі аб'ядноўвацца ў гандлёвы саюз — ганза, што паступова ўстанавіў манаполію на гандаль у Паўночным і Балтыйскім морах. *Барыс і Андрэй* падтрымлівалі паўстанне свабодалюбных наўгародцаў у 1479 г. супраць свайго брата *Івана Васільевіча* (1440—1505), вялікага князя маскоўскага, і да 1480 г. знаходзіліся са сваім войскам ля межаў «Літвы». У 1491 г. Андрэй быў арыштаваны Іванам III і памёр у зняволенні ў 1494 г. *Аляксандр Ягелончык* (1460—1506) — вялікі князь літоўскі з 1492 г., а з 1501 г.— польскі кароль. *Іван IV Васільевіч Грозны* (1530—1584) — вялікі князь усяе Русі з 1533 г., рускі цар з 1547 г. *Гадуноў Барыс Фёдаравіч* (каля 1551—1605) — ваявода, баярын, рускі цар з верасня 1598 г. *Ялецкі Васіль Сямёнавіч* — рускі князь, другі ваявода вялікага палка. *Засекін Іван Міхайлавіч* — рускі князь, ваявода. *Гарбаты Барыс Іванавіч* — баярын, ваявода пры вялікім князі Васілю Іванавічу, удзельніку паходу на княства Літоўскае ў 1535 г. *Гарэнскі* ці *Гарэнскі-Аболенскі Пётр Іванавіч* — рускі князь, ваявода, пакараны смерцю ў 1565 г. *Барбашоў* ці *Барбаш Іван Іванавіч* — рускі князь, які пры Іване IV быў у ліку дваццаці баяр, што складалі вярхоўную думу. *Курбскі Андрэй Міхайлавіч* (каля 1528—1583) — князь, вядомы палітычны дзеяч пры Іване Грозным і ў княстве Літоўскім, пісьменнік. *Ян II Казімір* (1609—1672) — польскі кароль у 1648—1668 гадах. *Баторы Стэфан* (1533—1586) — польскі кароль з 1576 г. *Зыгмунт III* (1566—1632) — кароль польскі з 1587 г. і шведскі (1592—1604). *Вераніка* — кананізаваная царквою ерусалімская жанчына, якая, паводле легенды, падала Хрысту хусцінку, каб ён, несучы крыж, выцер твар. *Уладзіслаў IV* (1595—1648) — польскі кароль з 1632 г. *Гасеўскі Вінцэнт Аляксандр* (?—1662) — генерал літоўскай артылерыі з 1651 г., падскарбі вялікі літоўскі з 1652 г., гетман польны літоўскі з 1654 г. *Аляксей Міхайлавіч* (1629—1676) — другі цар з дому Раманавых; цараваў з 1645 г. *Шараметаў Васіль Барысавіч* (каля 1622—1682) — галоўны ваявода ў Табольску,

у 1653 г. пажалаваны ў баяры і пастаўлены на чале паўднёвага атрада, які, злучыўшыся з войскам Б. Хмяльніцкага, выступіў супраць аб'яднаных сіл палякаў і татар. *Храпавіцкі Ян Антон* (?—1685) — сакратар польскага караля, з 1660 г. смаленскі падкаморы, з 1669 г. віцебскі ваявода, аўтар дыярыуша, які ахоплівае гады 1656—1685. *Бернардыны* — манахі каталіцкага ордэна, што ўзнік у выніку рэфармацыйнай дзейнасці францысканца Бернардына Сіенскага (1380—1444); на Беларусь пранік лі з Польшчы ў другой палове XV ст. *Кісель Адам* — «каралеўскі дваранін» з 1633 г., па даручэнню польскага караля ўзначальваў ахову Северскай зямлі пад час вызваленчай барацьбы Б. Хмяльніцкага. *Аўгуст II* (1670—1733) — польскі кароль у 1697—1706 і з 1709 г. *Аўгуст III* (1696—1763) — польскі кароль з 1733 г. *Агінскі Марцыян* (1632—1690) — князь, віцебскі ваявода, вялікі канцлер літоўскі з 1684 г., удзельнік заключэння андрусаўскага перамір'я. *Піяры* — манахі каталіцкага ордэна, зацверджанага ў 1669 г.; на Беларусі заснавалі шэраг піярскіх школ, якія працавалі да канца XVIII ст. *Лускіна Стэфан* (1725—1793) — езуіт, настаўнік матэматыкі і астраноміі ў Віцебску, пазней рэктар варшаўскай калегіі езуітаў, заснавальнік і выдавец «Газэты Варшавскей» (1774), праціўнік усякага прагрэсу; Каратынскі памылкова назваў яго — Ігнацы. *Князьнін Францішак* (1750—1807) — польскі паэт-сентыменталіст, які нарадзіўся ў Віцебску. *Кацярына II Аляксееўна* (1729—1796) — шчэцінская князёўна, з 1745 г.— жонка Пятра III, а з 1762 г. у выніку дварцовага перавароту — імператрыца ўсерасійская. *Інфлянты* — частка тэрыторыі Віцебскай губерні, якая з далучэннем да Расіі ў 1772 г. пачала называцца Дзвінскай правінцыяй. *Аляксандр I* (1777—1825) — рускі імператар з 1801 г. *Дынабург* — сённяшняя назва Даўгаўпілс.

КАНСТАНЦІН ТЫШКЕВІЧ. Нарыс друкаваўся ў час. «Tygodnik Illustrowany» (1868, № 51). *Капэлі Алаіз* — стацкі саветнік, доктар філасофіі і права, з 1804 г. прафесар Віленскага універсітэта. *Вашкевіч Ян* (1797—1859) — эканаміст, з 1824 г. ад'юнкт, затым прафесар палітэканоміі ў Віленскім універсітэце. *Анацэвіч Ігнацы* (1780—1845) — гісторык, у Віленскім універсітэце працаваў на кафедры статыстыкі і дыпламатыі, быў памочнікам прафесара агульнай гісторыі да 1828 г. *Даніловіч Ігнацы* (1787—1843) — гісторык права, прафесар Віленскага універсітэта ў 1822—1824 гг. *Ахвярныя гарадзішчы* — у XIX ст. лічылі, што гарадзішчы таксама былі месцам пахавання. *Левер'е Урбан Жан Жазеф* (1811—1877) — французскі астраном, матэматычным вылічэннем паказаў на існаванне невя-

домай планеты, якую пазней назвалі Нептунам. *Небур Марк Карстан Нікаля* (1817—1860) — дзяржаўны дзеяч Прусіі, аўтар «Гісторыі Аўстрыі і Вавілона» (1857), у якой супастаўляе археалагічныя адкрыцці з біблейскімі паданнямі. *Патоцкі Ян* (1761—1815) — польскі гісторык, адзін з пачынальнікаў славянскай археалогіі. *Ржэвускі Вацлаў* (1785—1831) — польскі ўсходазнавец, падарожнік. *Шафарык Павел Іосіф* (1795—1861) — выдатны чэшскі гісторык і філолаг, даследаваў этнагенез, гісторыю, мовы славян. *Капернік Мікалай* (1473—1543) — выдатны польскі астраном; шэсць кніг яго працы «Пра абарачэнні нябесных свяціл» выйшлі з друку ў 1543 г. *Бартальс Артур* (1818—1885) — паэт-песеннік, мастак-карыкатурыст, жыццё і творчасць якога звязаны з Беларуссю. *Гусеў Мацвей Мацвеевіч* (1826—1866) — рускі астраном, працаваў у Пулкаўскай абсерваторыі, а з 1852 г. памочнікам дырэктара Віленскай астранамічнай абсерваторыі. *Стаеньскі Пётр* (?—1591) — стваральнік першай польскай граматыкі (1566). *Сматрыцкі Мялецій* (1572—1630) — беларускі і ўкраінскі грамадскі дзеяч, пісьменнік-палеміст, педагог, аўтар «Граматыкі» (1618).

РАМУАЛЬД ЗЯНЬКЕВІЧ. Нарыс друкаваўся ў «Tygodniku Illustrowanym» (1869, № 103). *Галконда* — крэпасць і руіны побліз Гайдарабада, ля ракі Музы ў Індыі; дыяменты тут толькі апрацоўваліся. *«Nur wenn er glühet, labet der Quell»* — «Толькі калі палае, крыніца дае асалоду» (словы з першай «Пуншавай песні» — «Punschlied» Ф. Шылера). *Залескі Юзаф Багдан* (1802—1886) — польскі паэт, які выкарыстоўваў матывы ўкраінскай народнай песні ў сваіх творах. *Ленартовіч Тэафіль* (1822—1893) — польскі паэт, які паглыбляў ідэйна-мастацкую сувязь творчасці з народам і фальклорам. *Сяменьскі Люцыян* (1807—1877) — польскі паэт, навеліст, літаратурны крытык, фалькларыст. *Друцкія-Любецкія* — нашчадкі полацкіх князёў. *Герадот* (паміж 490 і 480 — паміж 430 і 424 да н. э.) — старажытнагрэчаскі гісторык.

ЯЎСТАФІЙ ТЫШКЕВІЧ. Нарыс друкаваўся ў час. «Tygodnik Illustrowany) (1873, № 299, 300, 301). *Філон Кміта-Чарнабыльскі* (каля 1530—1587) — ротмістр, староста аршанскі, ваявода смаленскі, аўтар «Лістоў», у якіх асвятляюцца ўзаемаадносіны княства Літоўскага і Маскоўскай Русі. *Чарнецкі Стэфан* (1599—1665) — ваявода з 1657 г., гетман польны ў 1665 г. *Чычагаў Павел Васільевіч* (1765—1849) — рускі адмірал, удзельнік Айчыннай вайны 1812 г. *Слёзніца* — пасудзіна, якую, па думку археолагаў XIX ст., язычнікі наплаквалі пад час

пахавання нябожчыка і ставілі ў ягоную магілу. *Альбертрандзі Ян Баптыст* (1731—1808) — польскі гісторык, падарожнічаў дзеля папаўнення сваіх збораў у Стакгольм і Упсалу. *Пшэздзецкі Аляксандр* (1814—1871) — польскі гісторык, археолаг, выдаўца крыніц па гісторыі. *Пасэк Ян Хрызастом* (каля 1636—1701) — польскі мемуарыст, успамінамі якога, выдадзенымі паводле копіі ў XVIII ст., захапляліся А. Міцкевіч і Ю. Славацкі. *Кромер Марцін* (каля 1512—1584) — польскі гісторык, гуманіст, аўтар папулярнай кнігі пра Польшчу «Палонія» (1577), перакладзенай з латыні на польскую мову Ул. Сыракомлем у 1853 г. *Свята* — правы прыток Віліі, сённяшняя назва Швянтоі. *Багінскі Войцах Вінцэнт* (?—1784) — дамінікан, магістр тэалогіі. *Кітовіч Анджэй* (1728—1804) — польскі мемуарыст. *Карл Х Густаў* (1622—1660) — шведскі кароль з 1654 г. *Любамірскі Ежы* (1616—1667) — каронны маршалак вялікі, гетман польны. *Тызенгаўз Райнольд* (1830—?) — сын заолага Канстанціна Тызенгаўза (1786—1853). *Кіркор Адам Ганоры* (1819—1886) — беларуска-польскі гісторык, этнограф, літаратар. *Сховішча Асалінскіх* — інстытуцыя, заснаваная ў 1818 г. Юзафам Максімільянам Асалінскім, які назапасіў значную колькасць рукапісаў, кніг, карцін, манет і інш. пісьмовых і рэчавых каштоўнасцяў. *Ян са Слівіна* — адзін з псеўданімаў А. Г. Кіркора. *Жылінскі Вацлаў* (1803—1863) — віленскі біскуп з 1848 г., магілёўскі арцыбіскуп з 1856 г. *Шайноха Караль* (1818—1868) — польскі гісторык і пісьменнік, творчасць якога зрабіла ўплыў на многіх польскіх пісьменнікаў пазнейшага часу. *Чапскі Марыян* (1816—1875) — земляроб і жывёлавод, аўтар кнігі «Польскі пчаляр» (1863). «Einige Worte zur Erklärung der im mittauschen Museum aufbewahrten alterhümlichen Siegelstempel» — «Некалькі слоў да тлумачэння даўнейшых пячатак, што захоўваюцца ў мітаўскім музеі» *(ням.)*. *Рачыньскі Эдуард* (1787—1845) — польскі вучоны і грамадскі дзеяч, аўтар «Кабінета польскіх медалёў» (1838—1843). «Sammlung von Medaillen, welche sich auf die Geschichte der Länder und Städte der ehemaligen Republik Polen beziehen» — «Калекцыя медалёў, якія адносяцца да гісторыі зямель і гарадоў былой Польшчы» *(ням.)*.

КАРЦІНЫ З БЕРАГОЎ НЁМАНА. Гэты гісторыка-краязнаўчы нарыс друкаваўся ў «Tygodniku Powszechnym» (1882, № 28—29, 44—49; 1883, № 20—26; 1884, № 13—25). *Кайдан* — татарскі хан; узначальваў татар у бітве 1249 г. пад Крутагор'ем (цяпер Дзяржынск) з войскамі Вялікага княства Літоўскага, у якой татары былі разбіты, а хан загінуў. *Троя* — старажытны горад у Малой Азіі, апеты ў паэмах Гамера «Іліяда»

і «Адысея». *Сапліцова* — мясціна на Наваградчыне, апетая А. Міцкевічам у «Пане Тадэвушы». *Ілюстратар «Успамінаў зборшчыка ахвяраванняў»*, твора польскага пісьменніка І. Ходзькі (1794—1861). *«Дэмбарога»*, паэмы-гутаркі Ул. Сыракомлі, *«Тадэвуша»*, паэмы А. Міцкевіча — Андрыёлі Міхал Эльвіра (1836—1893), мастак, удзельнік паўстання 1863 г. у Беларусі і Літве. *Мацюк Дабжынскі і суддзя Сапліца* — героі паэмы А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш». *Засценак Падкова і лясы Лагоды* — мясціны, апісаныя ў творах Ул. Сыракомлі «Засценак Падкова» (1850) і «Кавалак хлеба» (1854). *«Янка Цвінтарнік»* — паэма Ул. Сыракомлі. *Храптовіч Іяхім* (1729—1812) — прадстаўнік магнацкага роду на Беларусі, грамадскі дзеяч і асветнік, аўтар беларускамоўнага віншавальнага верша; *Храптовіч Адам* (1768—1844) — сын Іяхіма, удзельнік паўстання Т. Касцюшкі 1794 г. *Воўк з Лугамовіч* — асоба, згаданая ў паэме А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш»; Самуэль Воўк-Ланеўскі, жорсткі прыгнятальнік народа, быў уладальнікам Лугамовіч на Ашмяншчыне.

ДЗВЕ БУДОЎЛІ. Гэты публіцыстычны артыкул друкаваўся ў «Tygodniku Powszechnym» (1884, № 38). *Дэмасфен* (каля 384—322 да н. э.) — старажытнагрэчаскі прамоўца і палітычны дзеяч, знакаміты сваімі філіпікамі, накіраванымі супраць захопніцкай палітыкі Македоніі і яе цара Філіпа II. *Гарацый Флак Квінт* (65—8 да н. э.) — рымскі паэт, аўтар одаў, ямбічных вершаў і пасланняў.

## *ТВОРЫ, ЯКІЯ ПРЫПІСВАЮЦЦА В. КАРАТЫНСКАМУ*

ГУТАРКА СТАРОГА ДЗЕДА. Твор прызначаўся да прадпаўстанцкай агітацыі супраць царызму, а таму не быў пазбаўлены ілюзій аб яднанні мужыка са шляхціцам у вызваленчай барацьбе. Урыўкі перадрукоўваюцца з другога беластоцкага выдання вершаванай пракламацыі «Гутарка старога дзеда» (1862). *Маскалі* — прадстаўнікі царскай улады.

ГУТАРКА ДВУХ СУСЕДАЎ (3). Вядомы чатыры нумары «Гутарак», выдадзеныя на працягу 1861—1862 гг. у нелегальнай беластоцкай друкарні Браніслава Шварцэ ў выгля-

дзе брашурак. У адрозненне ад «Гутаркі старога дзеда» яны дыялагічныя: пісьменны, разважлівы Матэуш тлумачыць Юзафу грамадскія з'явы, схіляючы яго да ўсведамлення неабходнасці барацьбы з царызмам. Трэці нумар «Гутаркі двух суседаў» найбольш паслядоўны ў раскрыцці двурушнага характару свабоды, дараванай царызмам сялянству. Урывак перадрукоўваецца з кн.: Prasa tajna z lat 1861—1864. Część I. Powstanie styczniowe. Materiały i dokumenty. Wroclaw, 1966.

## ЗМЕСТ

Уладзімір Мархель. Чым хата багата... . . . . 5

*ПАЭТЫЧНЫЯ ТВОРЫ*

Пастрыжыны. *Пераклаў Генадзь Тумас* . . . . . . . 17
Уставайма, братцы!.. . . . . . . . . . . . . . . . 19
*** Далібог-то, Арцім... . . . . . . . . . . . . . . 21
Туга на чужой старане . . . . . . . . . . . . . 23
Над калыскай. *Пераклаў Рыгор Барадулін* . . . . . 26
Прытулак шчасця. *Пераклаў Уладзімір Мархель* . . . 28
Першы дзень вясны. *Пераклаў Генадзь Тумас* . . . . 30
Любасць. *Пераклаў Генадзь Тумас* . . . . . . . . 33
Віціннік увесну. *Пераклаў Генадзь Тумас* . . . . . . 34
Сірата. *Пераклаў Генадзь Тумас* . . . . . . . . . 36
Маёй свіце. *Пераклаў Генадзь Тумас* . . . . . . . 39
Два каханні. *Пераклаў Уладзімір Мархель* . . . . . . 41
Віціннік увосень. *Пераклаў Генадзь Тумас* . . . . . 42
У альбоме. *Пераклаў Рыгор Барадулін* . . . . . . . 44
Сваты. *Пераклаў Генадзь Тумас* . . . . . . . . . 46
Сон наяве. *Пераклаў Рыгор Барадулін* . . . . . . . 48
Пасля сватання. *Пераклаў Уладзімір Мархель* . . . . 49
Бярозка. *Пераклаў Уладзімір Мархель* . . . . . . . 51
Уладзіславу Сыракомлю. *Пераклаў Уладзімір Мархель* . 53
Новы год. *Пераклаў Рыгор Барадулін* . . . . . . . 55
*** Хочаш вялікае штосьці сатварыць... *Пераклаў Уладзімір Мархель* . . . . . . . . . . . . . . . . 57
Таміла (выбраныя раздзелы). *Пераклаў Уладзімір Мархель* . . . . . . . . . . . . . . . . . . 58

*НАРЫСЫ, АРТЫКУЛЫ*

*(Пераклаў Уладзімір Мархель)*

З каментарыяў да паэмы «Таміла» . . . . . . . . . 75
Некалькі падрабязнасцяў пра сям'ю, месца нараджэння і маладосць Адама Міцкевіча . . . . . . . . . . . . . 82
Саламон Рысінскі . . . . . . . . . . . . . . . . . . 95
Віцебск . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 109
Канстанцін Тышкевіч . . . . . . . . . . . . . . . . 115
Рамуальд Зянькевіч . . . . . . . . . . . . . . . . 122
Яўстафій Тышкевіч . . . . . . . . . . . . . . . . 126
Карціны з берагоў Нёмана (фрагмент) . . . . . . 142
Дзве будоўлі (фрагменты) . . . . . . . . . . . . 148

*ТВОРЫ, ЯКІЯ ПРЫПІСВАЮЦЦА В. КАРАТЫНСКАМУ*

Гутарка старога дзеда (фрагменты) . . . . . . 153
Гутарка двух суседаў (3). (фрагмент) . . . . . . 156
*Каментарыі* . . . . . . . . . . . . . . . . . . 159

**Каратынскі В.**

К 21 Творы /[Уклад., прадм. і камент. Ул. Мархеля.] — Мн.: Маст. літ., 1981.— 174 с., іл.

У пер.: 75 к.

Сёлета спаўняецца 150 гадоў з дня нараджэння беларускага і польскага пісьменніка-дэмакрата Вінцэся Каратынскага. Творчасць Вінцэся Каратынскага — цікавая старонка нашай роднай культуры.

Зборнік склалі вершы, фрагменты з паэмы «Таміла», публіцыстычныя артыкулы.

К $\frac{70403-108}{М\ 302(05)-81}$ 116—81

**ББК 84 Бел 7**

**Бел 2**

Винцесь Александрович
КАРАТЫНСКИЙ
Сочинения

Минск, издательство
«Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Рэдактар Р. І. Барадулін*
*Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін*
*Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал*
*Карэктар К. А. Крукоўская*

ІБ № 1193

Здадзена ў набор 04.02.81. Падп. да друку 08.07.81. АТ 07582. Фармат 70×100$^{1}/_{32}$. Папера афс. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 7,09. Ум. фарб.-адб. 7,25. Ул.-выд. арк. 7,00. Тыраж 4000 экз. Зак. 1377. Цана 75 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Паліграфкамбінат імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.